

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

25 ВЕРАСНЯ 1998 Г. № 39/3967 КОШТ 4 000 РУБ.







# Кветка на атлантыду Бацькаўшчыны

Сучасны стан эканомікі і той часткі культуры, якая непасрэдна з ёю звязана (выданне кніг, скажам), не дазваляе ствараць маштабныя праекты. Тым не менш, выданне да 200-годдзя Адама Міцкевіча яго паэмы на трох мовах — беларускай, рускай і польскай — з ілюстрацыямі народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча і пад рэдакцыяй Язэпа Янушкевіча — з'ява з разраду акурат маштабных, сталася найбольш значнай падзеяй святкавання юбілею паэта.

Ідэю стварэння такой кнігі вылучыў Беларускі фонд культуры месяцаў восем таму. Ажыццяўлялася выданне вельмі няпроста, да апошняга моманту не верылася, што "сялянская паэма" пана Адама выйдзе ў час. Можна быць толькі ўдзячным польскаму выдавецтву "Czvtelmik", якое прадаставіла электронную версію паэмы А. Міцкевіча на польскай мове, дзяржаўнаму газетна-часопіснаму аб'яднанню "Воскресенье"

(Працяг на стар. 2)






# КОЛА ДЗЁН

***Апошнім часам у сістэме афіцыйных святаў Дажынкі займаюць месца накшталт таго, якое пры бальшавіках займала 7 лістапада. Традыцыйнаму святу календарнага цыкла (Каляды — Гуканне вясны — Дажынкі — Дзяды) надаюцца рысы палітычнай імпрэзы. Гэта свайго роду "Дзень перамогі" ў бітве за ўраджай.***

***Адгулялі Дажынкі — і на палі выйшлі студэнты і школьнікі. Збіраць бульбу і буракі. Дажынаць...***

## ВЫСТАВА ТЫДНЯ

У Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава традыцыйнага кітайскага жывапісу, арганізаваная амбасадай Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі. Працаваць выстава будзе да 12 кастрычніка. Адразу адзначым, што гэта не арыгіналы, а дакладныя копіі класічных твораў, выкананыя сучаснымі мастакамі. Самім жа творам — сотні гадоў. Кітайскі жывапіс — гэта не столькі сродак упрыгожвання інтэр'еру альбо форма ўдзелу мастака ў палітычнай барацьбе (як гэта прынята ў еўрапейскім мастацтве). Кітайскі жывапіс — найперш філасофія гармоніі. Прычым, мастак гармонію не вынаходзіць, а шукае ў прыродзе. У Еўропе першымі асэнсавалі кітайскі жывапіс французскія імпрэсіяністы. Яны ж зрабілі спробу прыстасаваць творчы метад кітайскіх мастакоў да сваёй канцэпцыі. Але, па вялікім кошце, гэта аказалася немагчымым, бо імпрэсіяніст фіксуе імгненні, а майстар традыцыйнага кітайскага жывапісу малюе вечнасць. Імпрэсіяніст бачыць непаўторнасць, унікальнасць кожнай праявы, кожнага імгнення жыцця, ён, як герой Гётэ, хоча "спыніць імгненне". Кітайскі мастак успрымае імгненне ў кантэксце часу, а час на ягоным гадзінніку заўжды адзін і той жа — вечны, нязменны. Такая філасофія добра падыходзіць для скрушных часоў, пераломных эпох. Для часу, у якім мы жывём.

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

У Беларусі гасцюе Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій II. Прыехаў кіраўнік РПЦ у нашу краіну па запрашэнні прэзідэнта РБ. У праграме візіту — наведванне Мінскай, Віцебскай і Полацкай епархій. Патрыярх не скрывае, што мае на мэце паспрыяць далейшай "інтэграцыі" дзвюх краін і маральна падтрымаць Аляксандра Лукашэнку ў яго "воссоединительных" памкненнях. Калісьці бальшавікі юрыдычна аддзялілі царкву ад дзяржавы, але па сутнасці РПЦ заўжды заставалася пры дзяржаве, мірна суіснуючы з камуністычным рэжымам. Які рэжым у Расіі сёння, ніхто дакладна вызначыць не можа, але РПЦ па-ранейшаму кроку не зробіць, не азірнуўшыся на Крэмль.

## КУРС ТЫДНЯ

Сёння долар каштуе недзе 100 тысяч беларускіх рублёў. Безнаяўны курс вагаецца ў межах 180—240 тысяч. У савецкі час быў папулярны лозунг "Ленинским курсам под руководством Коммунистической партии — вперед, к победе коммунизма!" Цікава, а куды прыйдзем сённяшнім курсам?

## ПАГРОЗА ТЫДНЯ

Арганізацыі медыкаў Вялікабрытаніі, Францыі і ЗША папярэджваюць, што туберкулёз у Расіі пагражае эпідэміяй усяму свету. Распаўсюджванне гэтай хваробы на іншыя краіны — гэта толькі справа часу. Калі, зразумела, расійскія ўлады не распачнуць сапраўдную барацьбу з гэтым захворваннем. Аднак ва ўмовах эканамічнага крызісу, які перажывае наш усходні сусед, спадзявацца на лепшае не даводзіцца. Небяспека непасрэдна датычыць нас, беларусаў, бо ў нас з Расіяй — адкрытая мяжа.

## КОНКУРС ТЫДНЯ

Шэраг грамадскіх арганізацый Беларусі разам з прадстаўніцтвам ААН у нашай краіне абвясцілі конкурс пісьмовых работ вучняў 5—11 класаў сярэдніх школ і навучэнцаў сярэдняй спецыяльнай адукацыі па тэме "Правы чалавека". Конкурс прысвечаны 50-годдзю Агульнай дэкларацыі правоў чалавека. Вынікі конкурсу будуць падведзены ў лістападзе. Аўтары лепшых работ будуць узнагароджаны каштоўнымі і заахвочвальнымі прызамі, дыпломамі прадстаўніцтва ААН. А хто не атрымае прыза, таксама часу не змарнуе. Конкурс — нагода пачытаць прыгаданую Дэкларацыю і даведацца з яе пра свае правы. А ведаць свае правы — заўжды карысна.

## КУПЮРЫ ТЫДНЯ

Нацыянальны банк Беларусі ўводзіць у абарачэнне новыя купюры вартасцю 1000 і 5000 рублёў. Галоўнае адрозненне ад купюр узору 1992 года — адсутнасць герба "Пагоня". Паколькі разліковыя білеты вартасцю 100, 200 і 500 рублёў "мадыфікаваць" не збіраюцца (а яны таксама з "Пагоняй"), можна зрабіць выснову, што яны, з-за росту цэн, самі сабою знікнуць з абароту. Як зніклі "вавёркі", "зайчыкі", "бабры", "ваўкі" і "мядзведзі". Дарэчы, выраб новага кліша таксама каштуе грошай. І немалых. Ці ёсць сёння ў нашай краіны лішнія грошы?

## ЛІСТ ТЫДНЯ

Група каталікоў з горада Рэчыца звярнулася ў газету "Навіны" з лістом, у якім ставіцца пытанне: "Чаму не вяртаюць храм?". Рэч у тым, што яшчэ ў 1993 годзе гарадская сесія дэпутатаў вырашыла вярнуць каталікам храм, які бальшавіцкая ўлада забрала ў іх у 1932 годзе. Будынак скарыстоўваўся пад склад, электрастанцыю. Немцы ў часе вайны зрабілі там стайню. Зараз у храме — рэстаран. Рашэнне сесіі гарадскіх дэпутатаў дагэтуль не выканана. Выканаўчая ўлада яго проста ігнаруе. Вернікі пісалі нават Прэзідэнту РБ... Цішыня. Ці то ўлады баяцца распаўсюджвання каталіцтва ў "праваслаўнай" краіне, ці то не хочуць губляць прыбытак ад рэстарацыі. А можа, і тое, і другое разам?

---

ЧЫТАННІ

# "Янка Купала і Адам Міцкевіч"

У шэрагу мерапрыемстваў, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча, адбылося нядаўна яшчэ адно — канферэнцыя "Янка Купала і Адам Міцкевіч" (IV Міжнародныя Купалаўскія чытанні). У канферэнцыі ўдзельнічалі навукоўцы з Беларусі (Алег Лойка, Уладзімір Конан, Рыма Кавалёва, Галіна Тычка і інш.), з Польшчы (загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Аляксандр Баршчэўскі; быў таксама прачытаны даклад Уладзімежа Стохеля, доктара філалогіі Інстытута славяназнаўства Польскай Акадэміі навук), прымала ўдзел паэтка і перакладчыца з Вялікабрытаніі Вера Рыч. Англійская госця перадала музею Янкі Купалы (які, разам з Міжнародным фондам Янкі Купалы, і быў арганізатарам чытанняў) дыскету з новымі перакладамі вершаў паэта.

У гэты ж час была адкрыта выстава з фондаў музея. "Адам Міцкевіч і Янка Купала", што распавядае пра жыццё і творчасць польскага паэта, прадстаўніка "беларускай рамантычнай школы ў польскай літаратуры", а таксама пра дзейнасць Янкі Купалы — перакладчыка Міцкевіча.

**А.Ш.**

# Дзве постаці

*Абодвум ім хапала велічы.*
*Нібы Пракокі пры жыцці,*
*Два славяніны, два Міцкевічы,*
*Ім падабенства не знайсці.*

*Маланкаю здагадка бліскае,*
*І асвятляе іх яна,*
*Яны па прозвішчы — як блізкія,*
*Яны па таленту — радня.*

*Яны на свеце несмяротныя,*
*Такія з вечнасцю на "ты".*
*І па-зямляцку яны родныя,*
*І па вялікасці — браты.*

*Шлях і світальны быў і горкі,*
*Ды кожны з іх яго прайшоў —*
*Адзін — з навагрудскіх пагоркаў,*
*Другі — з наднёманскіх лясоў.*

*Нібы між імі была згода...*
*На гэты свет яны прыйшлі,*
*Каб апяваць душу народа*
*І прыгажосць сваёй зямлі.*

*Пралеглі паміж імі годы.*
*Ды ўсё-такі чутны,*
*чутны —*
*То сэрцамі сваіх народаў*
*Перамаўляюцца яны.*

**Юрась СВІРКА**

# Кветка на атлантыду Бацькаўшчыны

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

(Масква), творчай выдавецкай майстэрні "На ростанях" за рэальную падтрымку і дапамогу ў падрыхтоўцы кнігі. Але галоўная праца трымалася, так бы мовіць, на беларускіх плячах. Складальнік і рэдактар кнігі Язэп Янушкевіч за кароткі час падрыхтаваў ніводнага разу не друкаваны пераклад на беларускую мову паэмы Пятра Бітэля, па сутнасці трэці пасля перакладаў В. Дуніна-Марцінкевіча і Б. Тарашкевіча. Пераклад быў зроблены П. Бітэлем у1953—1955 гадах на лесапавалах Кемераўскай вобласці і медных рудніках Джэзказгана. Мала хто ведае, што ён быў напісаны самаробным алоўкам і зялёнкай, прынесенай з медсанчасці знаёмым санітарам, на мяхах з-пад цэменту. Зроблены без адпаведных слоўнікаў, гэты пераклад нарэшце выходзіць у свет. "Лагерны помнік" — так назваў яго ў сваёй прадмове да "Пана Тадэвуша" Я. Янушкевіч.

Нямала сіл прыклаў выдатны беларускі мастак Васіль Шаранговіч, каб аздобіць кнігу 36 цудоўнымі ілюстрацыямі. 24 з іх, а таксама партрэт Адама Міцкевіча былі вядомы беларускаму гледачу па папярэднім выданні паэмы "Пан Тадэвуш" у перакладзе Я. Семяжона, якое тады таксама сталася значнай падзеяй у культурным жыцці беларусаў (кніга гэта на сённяшні дзень — бібліяграфічная рэдкасць). Новы фаліянт дапоўнены 12 адмысловымі ілюстрацыямі, выкананымі спецыяльна для гэтага тома, а таксама шматлікімі застаўкамі да кожнага раздзела паэмы. Некаторыя з іх — распрацоўваюць новыя тэмы, а часткa — з'яўляецца варыянтамі раней зробленых, яны дадаюць цэльнасці і, галоўнае, маштабнасці агульнай карціне "шляхецкай бывальшчыны" пана Адама. Яе часта называюць эпапеяй польскага нацыянальна-вызваленчага руху XIX стагоддзя. Але ў ілюстрацыях В. Шаранговіча ён загучаў як спеў Беларусі, той зямлі, у якой праз успаміны маленства наталяў сваю прагу да адвечнага "літоўскага неба" пан Адам. Таго неба, дзе засталіся магілы дзядоў і прадзедаў, дзе чыстыя воды Свіцязі, дзе жывуць мілыя яго сэрцу беларускія шляхцічы.

"Імя Адама Міцкевіча я ўпершыню пачуў у дзяцінстве ад мамы, — распавядае Васіль Пятровіч. — Мама скончыла польскую школу, любіла паэзію і асабліва Адама Міцкевіча. Яшчэ ў студэнцкія часы я зрабіў спробу ілюстраваць балады А. Міцкевіча. І гэта было штуршком для стварэння ў 1969 годзе ілюстрацый да кнігі балад і санетаў "Зямля навагрудская, краю мой родны". А ў пачатку 80-х я захапіўся гістарычнымі паэмамі вялікага паэта і марыў зрабіць кнігу, але на жаль, усё скончылася тым, што выканаў адну гравюру па матывах паэмы "Гражына".

Недзе ў 1983 годзе дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Міхась Дубянецкі прапанаваў мне зрабіць падарункавае выданне "Пана Тадэвуша". Калі я бліжэй азнаёміўся з творам, я захапіўся ім і прыкладна два гады аддаў працы над ілюстрацыямі кнігі. Кніга выйшла ў 1985 годзе. Цяперашняе выданне дапоўнена новымі дванаццаццю ілюстрацыямі. І я лічу, што мая работа над "Панам Тадэвушам" поўнасцю закончана.



Добра вядома, што паэму "Пан Тадэвуш" Міцкевіч пісаў у Парыжы, далёка ад тых мясцін, дзе нарадзіўся і вырас. І можна сабе ўявіць, як, ходзячы па парыжскім бруку, паэт сумаваў па калдычаўскіх далях, пагорках і дубровах, якая настальгія ахоплівала яго душу. У яго не магла не з'явіцца тэма высакароднага і чыстага кахання Зосі і Тадэвуша. Жыццё і побыт местачковай шляхты з яе норавамі, спрэчкамі і памеснымі падзеламі ўспрымаліся паэтам рамантычна, можна сказаць — узнёсла. Бо на самай справе, як любілі гаварыць у народзе, шляхціц — гэта той жа селянін, толькі з шабляю.

Адам Міцкевіч спеў геніяльную песню аб той прыродзе і тых людзях, якія выхавалі і ўзрасцілі яго талент, чые балады і паданні наталялі яго творчасць. І сваёй паэмай, мне здаецца, хацеў выказаць падзяку роднаму краю, уславіць яго навечна. А мне хацелася ўславіць самога Адама Міцкевіча, як сына навагрудчыны, сына беларускай зямлі".

Выстава аднаго твора адкрылася 18 верасня ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Адкрылася шумна і людна. Прыйшлі зацікаўленыя людзі і проста наведвальнікі. Прысутнічалі міністр замежных спраў І. Антановіч, намеснік міністра культуры В. Гедройц, старшыня Дзяржкамдруку М. Падгайны, старшыня Беларускага фонду культуры У. Гілеп, народны паэт Беларусі Н. Гілевіч, прадстаўнікі замежных пасольстваў, Адміністрацыі Прэзідэнта, сакратарыята СНД, прадстаўніцтва ААН на Беларусі, якое, дарэчы, таксама дапамагло ў выданні кнігі.

У двух невялікіх зальчыках, дзе размясцілася экспазіцыя, быў адчувальны дух Адама Міцкевіча, рамантыка паэта-пілігрыма. Стварыць выставу аднаго твора заўжды цяжка. За апошнія гады такая выстава — па сутнасці першая, і, магчыма, на бліжэйшыя станецца апошняй: наша кнігавыданне апошнім часам скіравана на малафарматныя і мала ілюстраваныя кнігі. А што да адчування духу паэзіі... Здаецца мне, аўтарка канцэпцыі выставы да кнігі "Пан Тадэвуш" Ірына Вырва знайшла адзінае магчымае ў гэтай сітуацыі рашэнне — аздобіць яе рэчамі сярэдзіны і канца XIX стагоддзя, якія маглі б быць і рэчамі самога Адама Міцкевіча. Яны апісваюцца ў радках яго паэмы, яны намаляваны на застаўках у кнізе, яны ствараюць атмасферу выставачнай залы. Кубкі, падсвечнікі, ключы, шаблі, пісталеты, алейныя партрэты шляхціца і Мікалая Радзівіла пэндзля невядомых мастакоў... Частка кораня дуба, знойдзеная ля падмурка міцкевічаўскага фальварка Завоссе, магчыма таго, што ўсклаў "на гарбаты карак цяжар пяці стагоддзяў"... Кнігі, выдадзеныя паэмы розных гадоў, рукапіс 1892 г. Б. Эпімах-Шыпілы, пераклад В. Дуніна-Марцінкевіча 1859 г., рускія пераклады пачатку нашага стагоддзя, львоўскія выданні, віленскае выданне выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца" 1908 г., дакумент Віленскага цэнзурнага камітэта аб забароне сачыненняў на беларускай мове польскім шрыфтам, польская кніга з гравюрамі Андрыёлі, ілюстрацыі рускага мастака Ф. Канстанцінава... І побач з гэтым усім — непадзеленая шафамі з музейнымі рэчамі, прыгожая ў сваёй цэльнасці выстава ілюстрацый да "Пана Тадэвуша" Васіля Шаранговіча.

Паэма "Пан Тадэвуш", зазначыў Я. Янушкевіч, вечна жывая кветка з парыжскага бруку на шляхетную атлантыду Бацькаўшчыны. І мы зноў і зноў будзем звяртацца да яе, узводзячы помнік нашаму суайчынніку і зямляку, аўтару аднаго з цудоўнейшых твораў у сусветнай паэзіі.

**Таццяна КАНЮШКЕВІЧ,**
**Ларыса САЧАНКА**

*Здымкі адкрыцця выставы і ілюстрацый В. Шаранговіча зрабіў К. Дробаў.*

АНОНС

# Нацыянальная кампазітарская школа: анахранізм ці...

Як вядома, 85-годдзе старэйшыны беларускай кампазітарскай школы Анатоля Багатырова і юбілей яго творчай дзейнасці адзначаецца шырока. З гэтай нагоды, прынамсі, ладзіцца юбілейны фестываль, у межах якога пройдзе Міжнародная навуковая канферэнцыя. Агульная назва гэтай музыкалагічнай імпрэзы — "Цывілізацыя і культура: праблема актуальнасці нацыянальнага фактара на рубяжы трэцяга тысячагоддзя (музычны аспект)". Ладкуюць яе Беларускі саюз кампазітараў і Беларускі аўтарскі фонд кампазітараў супольна з Міністэрствам культуры краіны, Беларускай акадэміяй музыкі ды дзяржаўнай філармоніяй. Аргкамітэт па правядзенні юбілейных імпрэзаў узначальвае першы намеснік міністра культуры У. Рылатка; старшыня міжнароднага навуковага камітэта — беларуская музыказнаўца Р. Сергіенка.

Навуковая канферэнцыя мае адбыцца 29—31 кастрычніка ў Мінску. Але тэмы дакладаў падаюцца ў аргкамітэт да 1 кастрычніка. Удзельнікам гэтага музыкалагічнага форуму прапануюцца самыя розныя кірункі абгаварэння галоўнай тэмы, прынамсі: "Нацыянальная кампазітарская школа: анахранізм ці актуальнасць?" "Беларуская музыка на рубяжы трэцяга тысячагоддзя ў кантэксце еўрапейскай культуры"; "Авангард і музычны нацыяналізм. Дыялектыка пытання"; "Новая фальклорная хваля 60—70-х гадоў і яе рэзананс пры канцы стагоддзя" і г.д.

Не лішне, мабыць, нагадаць зацікаўленым чытачам, што Беларускі саюз кампазітараў і Аўтарскі фонд месцяцца на плошчы Свабоды, д. 5, куды для зручнасці можна патэлефанаваць: *226-75-83.*

**С.Б.**

ДРУК

# Паўстае Беларусь

Ян Баршчэўскі — з пісьменнікаў, чыю творчасць ва ўсёй паўнаце і значнасці мы пачалі адкрываць для сябе параўнальна нядаўна. А ён жа належыць да тых, каму лёсам было наканавана стаць адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Яшчэ ў 1809 годзе Я. Баршчэўскі пачаў свой мастакоўскі шлях творамі, напісанымі на роднай яму, беларускай, мове. І не віна яго, што ў далейшым мусіў перайсці на польскую, як рабілі гэта іншыя. Так складваліся абставіны, што на Беларусі на той час літаратурнай моваю з'яўлялася польская. Ды Я. Баршчэўскі ўсё ж застаўся менавіта беларускім пісьменнікам. Беларускім па духу, па змесце сваіх твораў, па ўпэўненасці ў тым, што настануць часы, калі можна будзе не саромецца быць беларусам.

А што гэта і сапраўды так, лішні раз упэўніваешся, калі знаёмішся з аднатомнікам Я. Баршчэўскага "Выбраныя творы", які толькі што папоўніў серыю "Беларускі кнігазбор" (укладанне, прадмова і каментарыі Міколы Хаўстовіча). Дагэтуль у згаданай бібліятэцы, якая карыстаецца ўсё большай папулярнасцю, выйшлі гэтыя ж ладныя тамы Яна Чачота, Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Жылкі, а таксама зборнікі "Беларускія летапісы і хронікі" і "Філаматы і філарэты". Выданне творчай спадчыны Я. Баршчэўскага — годны працяг добрай справы.

Тым больш, што кнігі Я. Баршчэўскага, што з'яўляліся дагэтуль (у серыі "Спадчына" выдавецтва "Мастацкая літаратура" і ў серыі "Школьная бібліятэка" выдавецтва "Юнацтва"), не маглі прэтэндаваць на паўнату. Канечне, і згаданы аднатомнік нельга назваць поўным зборам твораў выдатнага пісьменніка, аднак ён падпадае пад паняцце "найбольш поўнае выданне". Пад адной вокладкай сабраны разам усе вялікія празаічныя творы Я. Баршчэўскага, яго беларускамоўная паэзія. Прадстаўлена многае і з польскамоўнай паэтычнай спадчыны, а таксама перапіска, што дайшла да нашых дзён. Каб Я. Баршчэўскі ў сваіх творах загаварыў па-беларуску, парупіліся Рыгор Барадулін, Кастусь Цвірка, Мікола Хаўстовіч, Уладзімір Мархель. Пераклады двух вершаў узятыя з творчай спадчыны Уладзіміра Дубоўкі.

Адкрываюць кнігу беларускамоўныя вершы паэта "Дзеванька", "Гарэліца", "Размова хлопцаў". У гэтым жа раздзеле "Вершы" і шэраг твораў, перакладзеных з польскай мовы — "Да Юлі", "Смутак", "Матчын наказ", "Да моладзі", "Зачараваны край" і іншыя. У асобны раздзел увайшлі балады "Русалкапакусніца", "Дзве бярозы", "Роспач", "Курганы", "Зарослае возера". У гэтых творах моцная фальклорная аснова, адчувальная сувязь з народнымі паданнямі і легендамі.

І ўсё ж найбольш ярка талент Я. Баршчэўскага, як вядома, выявіўся ў яго прозе і найперш — у "галоўнай кнізе" (а такой думкі прытрымліваюцца ўсе даследчыкі творчасці Я. Баршчэўскага) "Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях". Наконт ацэнкі прозы Я. Баршчэўскага і гэтай кнігі не страціла свайго першаступеннага значэння меркаванне Рамуальда Падбярэзскага, што прагучала больш чым паўтара стагоддзя назад у артыкуле "Беларусь і Ян Баршчэўскі" (яго, дарэчы, ва ўступным артыкуле "Паэт і казачнік з азёрнага краю" прыводзіць і М. Хаўстовіч): "Тое, што піша пан Баршчэўскі прозай, не датычыць непасрэдна ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але мае сувязь з нечым больш важным, а менавіта з духам і паэзіяй народа, адкуль выйшлі і гісторыя, і літаратура, і мова".

У многім тэматычна блізкая гэтай кнізе аповесць "Драўляны Дзядок і кабета Інсекта". У гэтым творы таксама той дух народны, спасцігнуць які па-сапраўднаму можна толькі тады, калі самааддана любіш тых, пра каго расказваеш, глыбока адчуваеш душу народа.

У аднатомнік увайшла і аповесць "Душа не ў сваім целе". Галоўны герой твора Саматніцкі гатовы сябе цалкам прысвяціць служэнню Бацькаўшчыне, жадае пакінуць пасля сябе добры след у людскіх сэрцах і душах, у памяці народа. На жаль, ён развітваецца з жыццём, не зразумелы тымі, дзеля каго імкнуўся жыць.

Хутчэй за ўсё выпадак, які меў месца ў сапраўднасці, пакладзены ў аснову драматычнай паэмы "Жыццё Сіраты" — гісторыя дзяўчыны, якую апякун даве́ў да вар'яцтва, каб авалодаць яе маёнткам. Але Сірата ў Я. Баршчэўскага не толькі канкрэтны вобраз, а і абагульнены. За ёй паўстае пакутная Беларусь, пра якую многія забыліся і з якой здзекуюцца як могуць, дбаючы толькі пра ўласны дабрабыт, сваё шчасце, не дбаючы пра яе роскві́т і будучыню...

А ў "Беларускім кнігазборы" рыхтуюцца да выдання тамы Кузьмы Чорнага, Алеся Гаруна, Кастуся Каліноўскага, Цёткі, "Беларусы" Яўхіма Карскага, зборнік "Літаратура старажытнай Беларусі".

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

АДГАЛОСКІ

# Сімфанічныя жарсці

Адбыўся конкурс на пасаду галоўнага дырыжора Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі. Кампетэнтная камісія абвясціла вынік: месца на "капітанскім масціку" флагмана філармані́чнага мастацтва краіны займае цяпер Генадзь Праватораў.

Генадзь Панцеляймонавіч, сталы і аўтарытэтны оперна-сімфанічны дырыжор, педагог, народны артыст Расіі, у беларускім творчым асяроддзі даўно ўжо чалавек не чужы. Яго прысутнасць у Мінску пазначалася не толькі прозвішчам на афішах ды выхадам за дырыжорскі пульт з "бяспройгрышным" рэпертуарам, папулярным у меламанаў усяго цывілізаванага свету. Ён спрычыніўся да беларускай музычнай культуры глыбей.

Згадайма, як гучалі сімфанічныя партытуры нашых аўтараў пад кіраўніцтвам Г. Праваторава. Як, напрыклад, ажывалі ў аркестры тэатральныя вобразы Я. Глебава, якія загадкавыя павароты выяўляліся ў мастакоўскіх маналогах Д. Смольскага. А які айсберг агораў маэстра, калі выводзіў у вялікі свет балет А. Мдзівані і В. Елізар'ева "Страсці" ("Рагнеда")! Дзяржаўная прэмія Беларусі музычнаму кіраўніку спектакля Г. Праваторову — гонар, як той пісаў, па працы.

Дый шмат іншага можна згадаць. І непаўторны праватораўскі аркестр у спектаклі "Рамэо і Джульета" В. Елізар'ева на музыку С. Пракоф'ева. І "гамбургскі рахунак" опернай прымадонны Марыі Гулегінай, якая, плануючы свае вой якія рэдкія візіты ў Мінск, выплучала толькі адну ўмову: каб за пультам быў маэстра Праватораў.

Словам, абмяркоўваючы вынікі дырыжорскага конкурсу, можна з палёгкай выгукнуць: "Віншуем!"

Праўда, нейкі мясцовы скептык ужо кінуў сваё: "А ці надоўга прыйшоў новы кіраўнік? Ці сам хутка збяжыць, ці яго "з'ядуць".

Што на гэта скажаш? Пажывём — пабачым.

"А чаму вы маўчыце пра тое, як змагаўся за сваё месца ранейшы галоўны дырыжор аркестра Міша Кац?" — запытаецца чытач, дасведчаны ў сітуацыі вакол нашага Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага.

А што б вы хацелі пачуць? Палкія развагі далёкіх (і "недалёкіх") ад музыкі аматараў "смажанага"? Стэнаграфічны пераказ экзальтаваных прамоў "у абароны" і "супраць"? Цвярозы голас "збоку"? Скарамоўку з лічбаў?

Адзін тутэйшы цынік, між іншым, заўважыў: "З чаго б гэта таленавітаму музыканту, грамадзяніну Францыі, так упарціцца і трымацца за Беларусь, у якой ён — толькі госць? Нарадзіўся ў Растове-на-Доне, вучыўся як віяланчэліст у Маскве, у Мексіцы жыў, потым пераехаў у Францыю, у 96-м пачаў выступаць як "пастаянны запрошаны" дырыжор Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі, з лютага 97-га ўзначаліў Акадэмічны сімфанічны; як мастацкі кіраўнік галоўнага аркестра маладой еўрапейскай краіны атрымаў прэстыжныя гастролі, выступленні ў лепшых залах. За два гады стасункаў з Мінскам набыў сваю прэсу, сваю публіку, ды "не сыграў ніводнай беларускай ноты". І калі яго пакрыўдзілі вынікі творчага конкурсу, апеляваць варта было б не да ўдзельнікаў сумніўнай "прэс-канферэнцыі", а да закона. І ўвогуле, іншы проста бразнуў бы дзвярыма ды паехаў у вялікі цывілізаваны свет. Калі ёсць імя, грошы ды арганізатарскі талент — чаго баяцца?"

Мастацтва — рэч найдалікатная, таму ўстрымаймася ад каментарыяў і ад прагнозаў. Пажывём — даведаемся, ці надоўга ўтрымае ў руках "музычную візітоўку" Беларусі чарговы маэстра-кіраўнік. Што да чарговага філарманічнага сезона, дык у яго праграмах месца хопіць розным дырыжорам. І гэта радуе!

**С. Б.**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## Каледж адкрывае сезон

У вялікай зале Гомельскага музычнага каледжа імя Н. Сакалоўскага адкрыўся новы сезон. Выступіў мясцовы сімфанічны аркестр (мастацкі кіраўнік Валянцін Краўцоў). У канцэрце прыняў удзел народны артыст, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі спявак Ігар Алоўнікаў. Прагучалі творы Моцарта і Гуно.

## Цырк запальвае агні

Сёння адкрывае свой чарговы сезон дзяржаўны Гомельскі цырк. Праграма называецца "Людзі, звяры, цырк". Будзе прадстаўлены ў ёй буйнейшы атракцыён з дрэсіраванымі пантэрамі і тыграмі пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі Расіі Марыі Запашнай. Гледачы пабачаць таксама нумары "У гарах Грузіі", "Паветранае адажыо" і іншыя.

## Сход мастакоў

Адбыўся справаздачна-выбарчы сход абласной арганізацыі Саюза мастакоў. На ім была прааналізавана работа праўлення за тры гады. Адзначалася, што большасць жывапісцаў, графікаў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва працуюць плённа, пастаянна ўдзельнічаюць у прэстыжных выставах, выязджаюць на пленэры. Нядаўна адбыўся буйны вернісаж "Зямля Палесся", які маглі пабачыць у Гомелі і Мінску. У мінскім Палацы мастацтваў 300 сваіх жывапісных работ прадставіў знакаміты мастак Станіслаў Дзьяканаў. Няма ла гаварылася на сходзе і аб праблемах. Удзел у ім прыняў старшыня Беларускага саюза мастакоў Генадзь Буралкін, які расказаў аб планах рэспубліканскай творчай арганізацыі і падрыхтоўцы да юбілейнага з'езда арганізацыі.

Удзельнікі сходу выбралі новае праўленне і яго старшыню Анатоля Отчыка.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## Свята бібліятэк

У Гомелі прайшоў тыдзень бібліятэк. Работнікі гэтых устаноў культуры наведалі ВНУ, тэхнікумы і прафтэхвучылішчы, дзе расказвалі аб тым, як і калі былі створаны бібліятэкі, абмяркавалі лепшыя кнігі апошняга часу, паведамілі шмат цікавага пра некаторых пісьменнікаў.

Ва ўсіх бібліятэках абласнога цэнтра былі аформлены кніжныя выставы, наладжваліся сустрэчы з цікавымі людзьмі і мясцовымі літаратарамі.

**Ігар ЛЯСНЫ**

*ВІЦЕБСК...*

## Прэм'еры чакаюць гледача

Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа рыхтуецца да адкрыцця сезона. Шэсць прэм'ерных спектакляў у поўным акцёрскім складзе чакаюць віцебскага гледача. Сярод іх "Сола для гадзінніка з боем" у пастаноўцы Валерыя Маслюка, "Віват, каханне, альбо Помста млынара" (рэжысёр Юрый Лізенгевіч), пастаноўка Вячаслава Грушава "Варвара і яе блудны муж", мадэрнісцкі трагіфарс пра наша жыццё і мары "Пісьменніца" ў пастаноўцы Віталя Баркоўскага...

Па традыцыі тэатральны сезон коласаўцы адкрываюць славутым спектаклем "Несцерка".

## Заява аб прапажы літаграфій

Спадар Гюнтэр Камацкі, уладальнік прыватнай галерэі ў Швейцарыі, разам са сваёй жонкай наведаў радзіму Марка Шагала, каб дапамагчы ў афармленні музея майстра. Швейцарскі калекцыянер перадаў музею тры афорты Шагала з серыі "Псалмы Давіда", раннія літаграфіі з серыі "Мацярынства", некалькі тысяч долараў ад унучкі Марка Захаравіча.

Разам з тым спадар Камацкі зрабіў заяву перад журналістамі СМІ, што 15 работ Шагала і каштоўныя альбомы, раней перададзеныя ў музей былому дырэктару Л. Базан, зніклі. Кошт прапажы ацэньваецца ў дзесяць тысяч долараў.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

## "Залаты шлягер" падае галасы

У лістападзе на Беларусь прыйдзе рэтра-фестываль "Залаты шлягер". Тое, што менавіта на Беларусь, а не ў Магілёў, дзе ён нарадзіўся чатыры гады таму, не агаворка. Канцэрты фестывалю прэзентуюць у Мінску, Бабруйску і шэрагу раёнаў Магілёўшчыны. На радзіме ж "Залатога шлягера" будуць яго галоўныя канцэрты: адкрыццё і закрыццё, конкурсныя выступленні маладых артыстаў.

Да таго дня, калі ў Палацы культуры магілёўскіх хімікаў прагучаць фанфары фестывалю, яшчэ шмат часу, але ён ужо падае свае галасы. У Магілёў завітаюць такія зоркі, як Мікалай Слічэнка, Надзея Чапрага, Яраслаў Еўдакімаў, Людміла Сенчына, Палад Бюль-Бюль аглы, Ксенія Георгіадзі і многія іншыя. Запрошаны на свята вядомы грэчаскі спявак Дэміс Русас. У праграме фестывалю будуць выступаць разнастайныя аркестры, а таксама каманды кавээншчыкаў з Мінска, Новасібірска і Днепрапятроўска на чале з самім Аляксандрам Масляковым.

У конкурсе маладых выканаўцаў прымуць удзел спевакі Беларусі, Расіі, Украіны, Грузіі, Казахстана, Малдовы, Арменіі, Азербайджана, Літвы, Балгарыі, Ізраіля, Турцыі і Польшчы. А суддзі хто? Самыя дастойныя! Аляксандра Пахмутава, Муслім Магамаеў, Эдзіта П'еха, Юрый Багацікаў, Ігар Лучанок, Віктар Вуячыч, Нэлі Багуслаўская і іншыя майстры песні.

У рамках "Залатога шлягера" плануецца правесці канцэрт памяці выдатнага рускага кампазітара Рыгора Панамарэнкі, а таксама канцэрт Уладзіміра Мулявіна, які сёлета адзначае 40-годдзе сваёй творчай дзейнасці. У планах аргкамітэта фестывалю шмат і іншых цікавых задум.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

## "Правадыр" — на рэстаўрацыі

У Магілёве адным помнікам Леніну стала менш. Аўтарытэтная камісія ў складзе старшыні абласнога аддзялення Саюза мастакоў Юрыя Несцерука, галоўнага архітэктара горада Юрыя Ніякасава, іншых спецыялістаў агледзела помнік і прыйшла да высновы, што ён знаходзіцца ў аварыйным стане. Бетонная Леніна, які стаяў ля абласнога мастацкага музея, знялі. Але ніхто гэты помнік спісваць не збіраецца. А ўпраўленню камунальных прадпрыемстваў Магілёўскага гарвыканкама даручана заключыць дагавор з камбінатам "Мастацтва" на рэстаўрацыю бетоннага "правадыра".

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

# Восеньскія хаўтуры

## ПАХАВАЦЬ СЁННЯ МОЖНА І БЯСПЛАТНА. АЛЕ ЦІ АПРАЎДАЕ НАС БОГ?

Во, ДОЛЯ ШЧАРБАТАЯ! Замест мінулага — успаміны. Замест будучыні — мары. А вакол спрэс сённяшняе, забрадзелае ды застаялае, як паветра ў пракураным пакоі. Вось так кідаешся, быт уладкоўваючы, акенца расчыніць, каб пакой той праветрыць, а за шыбкамі — восень, аказваецца, чарговая, адпаведныя ўскладненні хвароб сацыяльных, зноў тлум, зноў смурод. Цэны вар'яцкія, заробкі — як камаровы нос, пустэча ў душы, і толькі лістота пажоўклая ветрыкам па доле... Восень, спадары, восень. І настрой гэткі ж. Як у час хаўтур нечаканых, калі добрае ды светлае пад могілкавы камень беззваротна хаваеш...

Кладоў закінутых, колішніх вясковых, на мінскім Паўднёвым Захадзе з паўдзесятка набярэцца. Але на першы, паспешлівы, погляд — закінутыя яны. І справа не ў тым, што за парадкам тут раз-пораз і гарадскія ўлады сочаць, і нешматлікія ўжо сваякі нябожчыкаў. Не ў тым справа. Жывуць могілкі (во спалучэнне, даруй Божа!) па нейкіх іншых, сваіх законах.

Адны з такіх "смиренных" кладоў захаваліся купчастай выспай і паміж малінаўскіх бетонных гмахаў, побач з напаўжывой, зарослай па вокны ў ярах вёсачкай. І не было цёплага дня, каб не спяшаліся пад могілкавую засень тутэйшыя выпівохі. Да "Ганны Фёдараўны" — не столькі помнік з гэтым прозвішчам іх вабіць, колькі лаўка ўтульная, не столькі думкі аб вечным, колькі чарка паспешлівая.

А ўночы, здараецца, іншыя тут жарсці-клопаты. Почуткі даўно ўжо ідуць, што прымае кладаўе ў гэты час не выпадковых гасцей на стопку-другую, а людцаў на пастаяннае месца захавання... У дабітага да абуха дзядка жонка-бабулька памерла. Ну не пашанцавала абоім, не адначасова, не ў адзін дзень кашчавая да сябе забрала. Вось дзядок, у якога за душой ні кураняці, ні парасяці, ні рубля на чорны дзень, і цягне прыцемкам на тачцы палову сваю ў самы што ні ёсць апошні шлях. Балазе, што на першым паверсе жыве, а то без пабочнай дапамогі і не справіўся б. І, безумоўна ж, цягне ён свой смутак разам з нябожчыцай не на прэстыжныя Усходнія могілкі (куды ўжо яму, занядбанаму!), а сюды, на закінутыя, колішнія вясковыя.

І, дзякуй Богу, не вельмі ўжо і забаронена гэта зараз. Адно толькі, што патрабуецца ад дзеда немаёмнага і на пахаванне нават і па мізэрным разрадзе няздольнага, — даведка аб жончынай смерці. Куды ж без парадку?! І ў дзяржаўнай статыстыцы, і ў смерці-пагібелі людской... А з даведкай своечасовай дзядок той, глядзіш, і дапамогу матэрыяльную ад сабеса атрымае. Адны выгоды спрэс! Ды свежыя могілкавыя насыпы на старых кладах. І не вялікі сакрэт ужо, што смяротнасць у роднай Беларусі з ліхвярствам нараджальнасць перакрывае, што хоць і гудуць там-сям па выхадных вясельныя картэжы, а штодзённых пахаванняў па вёсках, мястэчках, гарадах усё роўна больш, чым немаўлят ад маладажонаў. Толькі па Мінску штодня рэгіструюцца дзесяткі смерцяў...

"Ну ты й тэму зачапіў, — заглядвае жонка ў вочы. — Захварэў, мо? Ці ж мала вакол светлага?" Ды не захварэў!.. Проста — восень на дварэ. А светлае ў жыцці нашым толькі і патрэбна, каб мора чорнага хоць неяк адцяніць ды не патануць у ім з галавой. Хоць трэсні, а ўражанне менавіта такое. Зараз жыццё чалавечае і пятака даўно забытага не варта. Зусім нядаўна ў суседнім шматпавярховіку сям'ю камерсантаў забілі. І невядома — хто, калі і за што. Дык іх хоць пахаваць было каму. Сваякі пад бокам аказаліся. А адзінокім дзядкам і бабулькам што рабіць? А бамжам? Расказвае сусед-вадзіцель медыцынскай спецмашыны: трупы іх ледзь не штодня з гарышчаў ды склепаў гарадскіх выцягваць даводзіцца ды ў морг везці. Тут не тое што сваякоў — прозвішча не высветліць. Так і хаваюць бамжоў тых за дзяржаўны кошт ды пад нумарамі. А колькі плюс да ўсяго яшчэ і тых людцаў, якія сваякоў-нябожчыкаў з моргаў забіраць адмаўляюцца. Маўляў, грошай на пражыццё няма, не тое што на труну ды пахаванне. І спецнайменне для нябожчыкаў такіх даўно ўжо ў дасведчаных колах гуляе — "бесхоз".

І каго абвінавачваць у гэтым? Дзяржаву кволую ці нас, грэшных, затурканых ды абыякавых? Ці няма аскомы ад пытання, спадары? Якія мы, такая і дзяржава. Няма ўласнага гонару, няма нічога ў душы — пуста і ў кішэні. А вынікам абыякавасці — бясконцы "бесхоз". І кожны дзень (якая розніца, восень за вакном ці вясна з летам) — як памінкі па ўласным сумленні...

Кошт жыццю — аніякі. А смерці, дакладней, — пахаванням? Калі ўжо абраў такую тэму жалобную, справу да канца даводзіць трэба. Не да лагічнага жыццёвага (ранавата, здаецца), а хоць бы да нейкай журналісцкай высновы. Што, сапраўды, рабіць чалавеку, да якога ва ўмовах планава-непрадказальнай расійска-беларускай эканомікі завітала ў хату бяда? І сурочыць нікога не жадаю, але ж хто ад гэтага застрахаваны... Дык колькі ж каштуе пахаванне? Паматляўся па горадзе і здзівіўся колькасці прыватных рытуальных крам. І зноў пра банальнае: смерць аднаго заўжды карысць і выгода для другога, нават калі і тлумачыцца ўсё хоць і камерцыйнай, але міласэрнасцю. І нічога, відаць, у гэтым страшэннага: ёсць попыт, ёсць і тавар. Толькі ад аднаго закрытага камерцыйнага таварыства "Пасланец" (во назва!) раскідана па Мінску аж тры гандлёвыя кропкі.

— Не зацікаўлены мы ў росце цэн, хоць і зусім рубель перад доларам галаву схіліў, — расказвае прадаўшчыца адной з іх — Таццяна Яноўская. — Усё ж арыентуемся на сярэдняга заказчыка. Але дапамога наша абмяжоўваецца рытуальнымі прыналежнасцямі. Выдзяленне месцаў на могілках, арганізацыя саміх пахаванняў — не ў нашых магчымасцях... Дык вось, прыналежнасці гэтыя — крыж часовы, шыльда з прозвішчам нябожчыка, падпісаная жалобная стужка, вянок, труна мінімальным коштам (890 тысяч) — набыць можна дзесьці за мільён шэсцьсот тысяч...

Дзякую за інфармацыю, кажу: "Да спаткання!" Але агаломшаны вяртаюся ад прыступак, каб паспешліва выправіцца: "Якое спатканне! Бывайце здаровы!" Калі пра смерць гаворка, з аглядкаю ды асцярожнасцю трэба. Але думкі ўсё роўна адпаведныя. "Улягаю за гадамі, а за мной — крыжы..." Цікавая істота — чалавек. Жыве, змагаецца за сваё кроўнае, адстойвае штосьці, пра дабрыню пры гэтым часцяком забывае, пра сумленне ўласнае, і ўпэўнены да апошняга, што бессмяротны. І існаванне сваё ў адпаведнасці з гэтым будуе... Карацей, за месца пад сонейкам шпурляем адзін у аднаго камяні і не заўважаем, як яны могілкавымі робяцца. Толькі для гэтага і жывём?!

І яшчэ несуцяшальная выснова: жыццёвага сэнсу ў рытуальных крамах роўна столькі, колькі сэнсу ў смерці. Але куды мы без іх дапамогі! Вось сябра нядаўна маці хаваў на агульнай нашай малой радзіме. Казаў, што так памітусіўся ў пошуках усяго, для пахавання ды памінак патрэбнага, што і трагедыю асабістую ў клопатах тых цалкам не ўсвядоміў. Гора толькі пазней за горла схапіла. І свой страшэнны сэнс у гэтым: жывём аніякавата, паспешліва, без аглядкі, і паміраем гэтак жа. Дзе ўжо пра вечнае думаць, калі клопат у таго, хто сваяка страціў, у жалобныя дні адзіны: ці не замала грошай тым заплаціў, хто дол на могілках капаў, ці не спозніцца на пахаванне аркестр, ці хопіць гарэлкі на памінальную вячэру...

І не мною, натуральна, выведзена: патрэбны рытуальныя крамы, пахавальныя бюро і службы. Хаця б для таго, каб смерць блізкага чалавека па-людску ўспрыняць, не ў пакутлівых чэргах, не ў спрэчках з чыноўнікамі. Каб хоць у горы адчуць еднасць з тымі, каму найменне — чалавек...

Амаль два мільёны на рытуальныя прыналежнасці... Ды плюс забраць нябожчыка з морга, наладзіць пахавальную працэсію да кладоў, памянуць за жалобным сталом таго, хто памёр нечакана, — сума падвойваецца, патройваецца... Усё залежыць ад сямейнага бюджэту і колькасці грошай, адкладзеных на чорны дзень... Не, можна пахаваць і бясплатна (успомніце хаця б і дзядка з яго тачкай), але не дай Бог такіх жыццёвых "выгод"...

А вось у прыватным "Рытуальным магазіне" ад фірмы "Нівагаль", што па вуліцы Альшэўскага, паслугі разрадам вышэй. Ёсць амерыканскі аўтакатафалк, арэнда якога абыдзецца ў два з паловай мільёны. Ёсць труна ў 140 мільёнаў па безнаяўным разліку (колькі б гадоў жыў бестурботна той дзед за гэтыя грошы!). Тавар амаль калекцыйны, замежнай вытворчасці. У бляску паліраваных граняў і металічнай надзейнасці бронзавых ручак — немітуслівая заможнасць саліднай смерці. Гэта вам не якое-небудзь "жыў смешна, а памёр грэшна". Хто бярэ? Ды хаця б і тыя, як кажуць, цыганы. Маўляў, хоць і ўсё роўна нябожчыку, а вось жывыя няхай вучацца, з якога боку жыццё надкусваць трэба. Вядома, усіхураўняць жыццё няздольнае, а смерць тым болей...

Не, у краме гэтай выбар ёсць і для тых, хто кішэнямі поўнымі выхваляцца няздольны. Труна, да прыкладу, за 935 тысяч беларускіх рублёў. А ўсё пахаванне — дзесьці за сем мільёнаў...

Заўжды Беларусь вяселлямі восеньскімі славілася. Бульбу людзі выкапалі, дажынкі адзначылі — чаму б і не павесяліцца, на маладых пазіраючы. І хто тыя грошы на шчасце сына ці дачкі шкадаваў калі. Няўжо змянілася ўсё? Няўжо збяднела матухна-Беларусь на шчасце светлае?! І словы тых, хто на Расію паказвае, у вушы лезці не хочуць. Ну што за доказы: у нас, маўляў, жыццё ўсё горш, бо ўладары суседа ўсходняга канцы з канцамі зараз звесці не могуць. А калі маглі? Ды правінцыя расійская, ліхое слова пракаўтнуўшы, заўжды ў шапку спала. І нам туды ж? З кішэні каня не накорміш. Усё роўна, што ў труну класціся. Мо таму і кладзёмся з такой гатоўнасцю? Жыццё сённяшняе, што газета ўчарашняя, нецікавае ды сэнсу пазбаўленае... Чарнобыль, медабслугоўванне кволае, паўсюднае пенсіянерства з інваліднасцямі. Ды ў дадатак яшчэ і хранічная абыякавасць да жыцця з-за адсутнасці хоць якіх-небудзь людскіх перспектыў. Таму, відаць, і хаўтуры восеньскія на Беларусі не менш важкімі сталі за вяселлі. Спрадвечная барацьба смерці і жыцця, дзе апошняе, пакрэхтваючы ад нястачы, паступова прайграе...

І за доказамі хадзіць доўга не трэба. Перайсці толькі тую ж самую вуліцу Альшэўскага, ад прыватнага і шыкоўнага "Рытуальнага магазіна" да аналагічнай па прызначэнні, але дзяржаўнай крамы, што дзейнічае ад Мінскага спецкамбіната бытавога абслугоўвання. Пакупнікоў, якіх нечакана гора страты бліжняга напаткала, заўжды тут больш чым дастаткова.



Фота А. Клешчука.

— А ці ж варта вось так, на поўны голас, казаць праз газету пра тое, што ў дзень мы і па 30—40 заявак на пахаванні прымаем?! — абураецца адна з жанчын-работніц спецкамбіната. — І без гэтага жыццё для людзей не ў радасць...

Давесці ў адказ спрабую, што лічбы гэтыя жорсткія, мабыць, хоць каму-небудзь вочы абыякавыя прыадкрыюць. Жыццё, маўляў, таму і даецца нам, каб адстойваць яго ды шчасцем упрыгожваць, а не траціць вось так неахайна ў страшэнных памерах. Мабыць, хто-небудзь ад зла апрытомнее, зведаўшы сумную праўду, ды перастане каменнем могілкавым вакол кідацца. Праўда, маўляў, яна заўжды сінонімам дабру... Даказваю сваё і разумею, што не доказ гэта для супрацоўнікаў камбіната. Штодня смерць чужая навідавоку перад імі, заўжды побач. Хоць і невыноснае часам для душы суседства такое, але камусьці і гэтай справай займацца трэба. І каму, як не дзяржаве ў першую чаргу? Хоць крыху, але гора людское на свае плечы перакласці. І не да журналісцкіх праўдашуканняў гэтым людзям. Працы штодзённай і без таго хапае.

— Жыццё ў камбіната не з лёгкіх, — згаджаецца галоўны інжынер Г. Багдзевіч. — І з маральнага пункту гледжання, і з эканамічнага. Але выкручваемся. Дзяржава ж, безумоўна, дапамагае — як інакш, бо разлічаны мы на дапамогу чалавеку не вельмі заможнаму, пахаванне блізкіх для якога — не толькі гора, але і немалая эканамічная праблема. Таму і робім пастаянныя захады, каб хоць неяк зменшыць грашовыя высілкі такіх людзей. Супрацоўнічаем, напрыклад, з прыватнымі прадпрымальнікамі. І справа не толькі ў жалобных больш-менш танных вянках. Мармуровае крышава на выраб могілкавых помнікаў закуплялі раней ў Шабанах на адным з мінскіх прадпрыемстваў па чатыры мільёны за тону. Зараз знайшлі ў Віцебску прадпрымальніка, які пастаўляе нам гэтае крышава танней. Так што кошт вырабу помніка з яго ўстаноўкай не перавышае сёння чатырох мільёнаў. Безумоўна, і гэта вялікія грошы, але ўсё ж хоць у нейкіх межах рэальнага. І прыкладаў такіх эканамічных "вынаходніцтваў" шмат...

Расказвае далей Генрых Станіслававіч, што ідуць людзі ў камбінат па дапамогу па прычыне не толькі таннага і высокапрафесійнага абслугоўвання. Зручна ўсё-ткі. Па даведцы аб смерці прымаюцца заказы, адразу выдзяляецца месца на могілках. Працуе пры камбінаце агенцкая служба, 80 працэнтаў заказаў прымаюцца менавіта праз яе. Агент прапаноўвае заказчыку віды паслуг, дапамагае выбраць танныя, займаецца арганізацыяй пахавання, бярэ на сябе ўсе без выключэння клопаты, а значыць і частку чалавечай бяды.

— Калі гаварыць пра нейкія мінімальныя расходы пры пахаванні, — працягвае Г. Багдзевіч, — то яны не перавысяць двух з паловаю мільёнаў. Без аркестра, нейкіх іншых расходаў, якія іншаму чалавеку проста не па кішэні. Словам, заказчык мае магчымасць выбіраць. Труны ў нас ёсць і па мільёне, а ёсць і па адзінаццаць... Але ведаеце, напэўна, што і за бясплатна пахаваць можна. Калі сваякоў у нябожчыка няма, а калі і проста з морга яго забіраць адмаўляюцца. Тады, натуральна, дзяржава хавае. Безумоўна, па кошце мінімальным...

Па словах таго ж галоўнага інжынера, летась з дапамогаю спецкамбіната пахавана было больш за 10 тысяч нябожчыкаў, з іх 432 — незапатрабаваныя, той самы, вышэйзгаданы "бесхоз", пахаваны за кошт дзяржавы. І каб статыстыка афіцыйнай леташняй смерці была поўнай, дадам толькі, што ад агульнай колькасці нябожчыкаў 3800 — былі крэміраваны, прах захаваны ў калумбарыі Паўночных могілкаў.

А ўсяго гораду прыналежыць дзевятнаццаць кладоў. Жыццё ідзе і смерць побач "аціраецца" — пашыраецца плошча Паўночных могілак, ва ўсю ўжо дзейнічаюць Міханавіцкія і ў Калодзішчах... Ды што казаць, сёлетнім рашэннем Мінгарвыканкама, паведамляе Г. Багдзевіч, дазваляецца праводзіць пахаванні нават на прэстыжных Кальварыйскіх і Усходніх. Так званыя камерцыйныя пахаванні. Натуральна, па магчымасцях людзей надзвычай багатых. Шукаюць яны вольныя месцы сярод састарэлых магіл, плацяць у гарадскі бюджэт ад сямі да адзінаццаці мільёнаў, хаваюць сваіх блізкіх адносна непадалёк, скажам, ад магілы Машэрава. Усё ж ткі прэстыжна ды і недалёка ў параўнанні, напрыклад, ад кладоў Міханавіцкіх...

Ходзіш па беларускіх могілках (у Мінску, Ветцы, у забытай Богам вёсцы), і ўражанне такое, што толькі тут у нас усё прыстойна, добраўпарадкавана, зацішна. Ні мітынгаў табе, ні чэргаў шумлівых, ні дыктатуры з апазіцыяй, ні чакання светлае долі. Усё прадвызначанае здзейснена, падзелена смерцю кашчавай на дзялянкі вечнага спакою і замірэння. Аднак — не. І тут часам вэрхал. Там-сям помнікі-камяні разбураныя, разруйнаваныя невядома кім скляпенні і агароджы. "...брудная свіння клады разрые сярод дня, каб потым рохкаць і вішчаць, а продкі вашыя маўчаць..." З нейкай заканамернай перыядычнасцю хвалі вандалізму пракочваюцца па беларускіх могілках. І гэта таксама ява сённяшняга забрадзіла-асенняга дня. Калі ўжо дабро нашае з кулакамі, то з чым, цікава, зло па свеце гуляе? Ды, натуральна, "зброя" немудрагелістая: чэрствасць, невуцтва, абыякавасць. Вось і руйнуецца ўсё вакол: у душах жывых ды на могілках. Млосна жывым — тужліва і памерлым. Кажуць, што ў Масюкоўшчыне за апошні час брацкія могілкі мемарыяльнага комплексу раскопваюцца невядома кім вось ужо ў пяты раз...

Лета памірае на вачах. Набрынялая халоднай восенню лістота прыемна шапаціць пад нагамі. А над галавой — крывавыя гронкі рабін. Хвіліну назад дзелавіты хлопец з нейкай фірмы па Чыгуначным завулку, што вырабляе помнікі ды могілкавыя агароджы, ахвотна задаволіў маю апошнюю на сёння цікаўнасць: "Помнік з мармуру? Ды калі ласка — 350 долараў. Толькі паспяшайцеся, паважаны, чарга ўжо — на лістапад..." Не менш упэўнена я паабяцаў усё ж не спяшацца. Восень для таго і існуе, каб сніць пра лета...

Людцы, будзьце здаровыя!

**Яўген РАГІН**

## У Гомелі і ў Шарпілаўцы

**Пра тое, што слыннаму паэту-земляку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатолю Грачанікаву 8 верасня спаўняецца 60 год, — на Гомельшчыне, безумоўна, помнілі. Таму да юбілею пачалі рыхтавацца загадзя. Абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў разам з аддзелам культуры Гомельскага райвыканкама (загадчык — Уладзімір Казлоў) распрацавалі сцэнарый, запрасілі гасцей і, вядома ж, знайшлі неабходныя сродкі. Свята пачалося ва універсітэце чыгуначнага транспарту, які ў свой час закончыў А. Грачанікаў. Перад студэнтамі выступілі прафесар Сяргей Шчарбакоў, які памятае Анатоля Сямёнавіча па часе вучобы, Мікола Аўрамчык, Генрых Далідовіч, Мікола Чарняўскі, Віктар Ярац, Юрый Фатнеў і госць з Чарнігава, актыўны перакладчык вершаў А. Грачанікава на ўкраінскую мову Станіслаў Рэп'ях.**

**А потым дарога пралегла ў вёску Шарпілаўку Гомельскага раёна — на радзіму Анатоля Грачанікава. Да пісьменнікаў з Мінска і Чарнігава далучылася вялікая група гомельскіх літаратараў. Ля хаты Грачанікавых іх сустракалі ўдава паэта Нэла Іванаўна і ягоныя браты Рыгор, Генадзь і Леанід, а таксама многія вяскоўцы.**

**На вечарыне ў Шарпілаўцы з успамінамі пра А. Грачанікава выступілі М. Аўрамчык, які, дарэчы, на грамадскіх пачатках адрэдагаваў першы зборнік паэта "Магістраль", Г. Далідовіч, М. Чарняўскі, С. Рэп'ях, В. Ярац, Т. Мельчанка, Л. Возісава і іншыя. Вершы земляка цёпла, пранікнёна чыталі вучні мясцовай школы.**

**Вядомы ў Гомелі чалавек, былы генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш", а цяпер — генеральны дырэктар навукова-вытворчага аб'яднання "Машынабудаўнік", кандыдат тэхнічных навук Мікалай Іванавіч Афанасьеў прыгадаў:**

**— Нашы з Толем хаты — насупраць. Сябравалі моцна, за адной партай сядзелі. А потым рашылі разам і далей вучыцца — паступаць у інстытут чыгуначнага транспарту. Анатоль хацеў падацца ў педагагічны, але дружба перамагла. Басаножы прыйшлі на экзамены... Не верыцца, але гэтак было. Нас прынялі. І мы, я ўпэўнены, інстытут не падвялі. І ў тым, што мой сын Іван стаў членам Саюза пісьменнікаў, зараз працуе над доктарскай дысертацыяй, — безумоўна ж, вялікі ўплыў Анатоля.**

**Была адкрыта мемарыяльная дошка на хаце, у якой нарадзіўся і жыў, а потым часта вяртаўся сюды бы да гаючай крыніцы, Анатоль Грачанікаў.**

**Васіль ТКАЧОЎ,**
**адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў**

## "Я з табой, несмяротны народзе!.."



**Помнік Еўдакіі Лось у Віцебску.**
*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.*

КРЫТЫКА

# "Паэзія творыцца па адкрыцці..."

## ТВОРЧАСЦЬ АЛЕСЯ РАЗАНАВА Ў КАНТЭКСЦЕ ПОСТМАДЭРНІСЦКАЙ ЭСТЭТЫКІ

*Л. Рублеўская: "...Дык назавіце канкрэтныя прыклады пісьменнікаў-постмадэрністаў у нас, не ўцякайце ад адказу. Я — постмадэрністка? Леанід Дранько-Майсюк — постмадэрніст ці не?"*
*П. Васючэнка: "Калі трэба, дык будзеце".*

**("Палёт філасофскага голуба". "Літаратура і мастацтва", 3 студзеня 1997 г.)**

Апошнім часам творчасць Алеся Разанава даволі часта згадваюць у звязку з праслаўтым постмадэрнізмам. Прычым прыналежнасць паэта да постмадэрнізму многімі лічыцца несумненнай. Такія меркаванні мне давялася чуць на навуковых канферэнцыях, у працэсе дыскусій на прадмет новых тэндэнцый у беларускай літаратуры, ад студэнтаў, якім падчас лекцый адпаведныя інтэрпрэтацыі разанаўскай паэзіі прапаноўваюцца як аксіёматычныя. Пагаджаючыся з тым, што творчасць А. Разанава сапраўды мае кропкі судакранання з постмадэрнізмам (зрэшты, а што з постмадэрнізмам не судакранаецца? Ці з чым не судакранаецца ён? І, нарэшце, з чым не судакранаецца творчасць А. Разанава?), паспрабуем, аднак, паказаць, што ў яго пракрустава ложа яна не толькі не ўкладваецца, а па шэрагу сутнасных філасофска-эстэтычных параметраў яму нават супрацьстаіць.

Пачнём з таго, што ў паняційным апараце постмадэрністаў важнае, калі не найважнейшае месца займаюць катэгорыі тэксту і знака. Свядомасць чалавека ёсць тэкст, дакладней — сукупнасць тэкстаў, што склалі змест культуры ў яе асабліва істотных момантах. У рэшце рэшт, увесь свет ёсць тэкст, і адзіная канкрэтная рэч, з якой яны згодны лічыцца і наогул мець справу, — гэта тэкст, усеўладны і ўсеабдымны, а адзіны аўтарытэт, які не падвяргаецца постмадэрністамі сумненню, гэта "аўтарытэт пісьма". Пры гэтым, паводле постмадэрністаў, няма неабходнасці суадносіць пэўны тэкст з рэчаіснасцю, куды больш важна пацвердзіць яго аўтарытэт інтэртэкстуальна, інакш кажучы — праз іншыя аўтарытэтныя тэксты, наяўнасць якіх у новым тэксце рэалізуецца праз суцэльныя рэмінісцэнцыі, алюзіі, спасылкі, адным словам — праз гіперцытацыю. Ад тэкста, а не ад рэчаіснасці (як рэаліст) і не ад уласнага, суб'ектыўнага яе бачання, ад мастакоўскага "я" (як авангардыст) постмадэрніст адштурхоўваецца, тэкст для яго — крыніца праблем, сюжэтаў, персанажаў, прасторавага і часавага атачэння для іх.

Катэгорыі тэксту, знака, слова часта сустракаюцца і ў А. Разанава — акалічнасць, якая, сапраўды, можа пасунуць нашае асэнсаванне яго паэзіі ў бок постмадэрнізму. Між тым зместавае напаўненне гэтых катэгорый у А. Разанава часта адрознае ад постмадэрнісцкага ці прама адваротнае яму. Для беларускага паэта непрымальны зварот да ўжо знанага і толькі да яго, якому б рэканструяванню або дэканструяванню яно ні падвяргалася: гэта можа пацягнуць за сабой другаснасць, імітацыю. Паказальныя ў гэтым сэнсе зномы А. Разанава: "Творчасць — сустрэча з невядомым. Як толькі невядомае змяняецца вядомым, яна немінуча ператвараецца ў імітацыю"; "Паэзія траціцца, калі творыцца па аналогіі, па традыцыі, па майстэрстве — з матэрыі вядомай (а менавіта з "матэрыі вядомай", з культурнай спадчыны будуюць свае творы постмадэрністы. — **Е. Л.**), і адраджаецца, калі з невядомай: па адкрыцці, па невыказнасці, па немагчымасці"; "Сфера паэта не сфера слова, дзе ўпэўнена сябе пачуваюць прамоўцы і вершапісцы, а сфера, дзе слова яшчэ не зацвярдзела ў значэнні (інакш кажучы, знакам не стала! — **Е. Л.**) і ўяўляе першасную матэрыю, падобную магме".

Як і ў постмадэрністаў, прадметам асэнсавання ў А. Разанава часта становяцца катэгорыі спадчыны, традыцыі, аднак і тут выяўляюцца канцэптуальныя разыходжанні; папросту кажучы, у А. Разанава і постмадэрністаў мэты звароту да гэтых катэгорый у большасці выпадкаў розныя. "Дзіўна, але часта паставы нашых папярэднікаў нам бачацца лепш, выразней, чым паставы сучаснікаў", — заўважае А. Разанаў у адным са зномаў. І паэт дэкларуе неабходнасць сцвердзіць спадчыну ў якасці рэальнага, а не ўмоўнага фактара культурнага жыцця і фактара свядомасці праз яе знаходжанне "не толькі там, але і тут... у вертыкалі пастаяннага дыялогу з наступнымі пакаленнямі". І не толькі дэкларуе, а і рэалізуе — праз творы, прысвечаныя Кастусю Каліноўскаму, Ефрасінні Полацкай, Усяславу Чарадзею, праз своеасаблівыя ўзнаўленні — жанравую форму, прызначаную рэстаўраваць тэксты старажытных аўтараў сродкамі сучаснай беларускай мовы (такія ўзнаўленні Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Мялеція Смятрыцкага, Васіля Цяпінскага і іншых увойдуць, паводле аўтара, у яго новую кнігу "Рэчаіснасць"), праз пераклады з замежных моў. Такімі шляхамі здзяйсняецца дыялог паміж спадчынай, сучасным быццём і асобай аўтара-пасрэдніка; спадчына — і ў сваіх канкрэтных праявах, постацях і тэкстах, і ў сваёй аталагічнай сукупнасці — актывізуе, выхоўвае нацыянальна-гістарычную свядомасць народа, спрыяе яго самаідэнтыфікацыі. У той жа час для постмадэрністаў спадчына — адзіны і дастатковы будаўнічы матэрыял для стварэння новай тэкстуры, гэтак званага "фрагментаванага дыскурсу", сутнасць якога — у сцвярджэнні свету як хаосу, пазбаўленага каштоўнасных арыенціраў, іерархічна неўпарадкаванага, інакш кажучы — фрагментарнага. Для постмадэрністаў "ужо ўсё напісана", і застаецца гэтым "напісаным" толькі распараджацца, разбураць і камбінаваць закадзіраваныя культурнай свядомасцю здабыткі папярэднікаў.

Яшчэ адна вызначальная якасць (у параўнанні з літаратурным постмадэрнізмам) твораў А. Разанава — іх асобаснасць, якая суправаджаецца метафізічнасцю, адчувальнай інтуітыўнасцю, своеасаблівай эксклюзіўнасцю — у процівагу постмадэрнісцкай прагматычнасці, рацыянальнасці. Апошняе ўласціва мастацтву постмадэрністаў у такой ступені, што яго часта параўноўваюць з рацыяналізмам XVIII ст. Па сутнасці, постмадэрнізм адлюстроўвае драму немагчымасці або, у кожным разе, праблематычнасці раскрыцця індывідуальнасці, выказвання асобы, чалавека адзінкавага, непаўторнага, а не чалавека — знака, следа, іерогліфа. Адсутнасць асобаснага пачатку ў постмадэрнісцкіх творах, бадай, у значнай меры тлумачыцца стратай, у пэўным сэнсе, аўтара (персанаж, герой быў надзейна пахаваны яшчэ авангардыстамі), што стаўся зараз аўтарам эмпірычным і можа разглядацца як адзін са шматлікіх інтэрпрэтатараў ужо добра вядомых калізій. Ён пазбаўлены ўсялякіх прывілеяў на "свой" тэкст, бо тэкст гэты ўяўляе сабой цытацыю іншых тэкстаў і таму цяпер ён такі ж яго, і ўсіх астатніх. Нехта дасціпна параўнаў постмадэрнісцкі тэкст з пікнікам, на які кожны нясе што мае: сваю эрудыцыю, сваю рэцэпцыю, свой досвед, свой сэнс. А персанаж, які б ён ні быў, тым не менш дэтэрмінаваны прыналежнасцю да тэксту-першакрыніцы; і як бы гэты персанаж ні дзейнічаў — паводле тых або іншых нормаў, прадвызначэнняў, правілаў ці насуперак ім, усё роўна гэта дзеянні, учынкі "з улікам" — таго, што ўжо было. Адсюль ураженне, як гаворыць украінскі літаратуразнаўца Д. Затонскі, "нават не эксперыменту,а вылепленай з кніжнай эрудыцыі шматпавярховай метафары". Такое ўражанне сапраўды пакідаюць, напрыклад, вершы вялікага аргенцінца Хорхе Луіса Борхеса (не кажучы ўжо пра яго эсэ і апавяданні, а тым больш раманы італьянца Умбэрта Эка, аргенцінцаў Хуліа Картасара і Абеля Посэ, сербскага пісьменніка Міларада Павіча, драмы англічаніна Тома Стопарда і інш.).

Што ж паэзіі А. Разанава, дык асобасны пачатак у ёй дужа адчувальны, многія ж творы — паэмы, вершы, мініяцюры — пакідаюць ураженне ці не медытатыўнасці. Сам паэт неаднойчы гаварыў, што творчасць немагчыма толькі на грунце ведання, умення, без гатоўнасці творцы ўвасабляць "тое, што яшчэ ў няведанні і прадслове", што "жыватворыцца", "духа-творыцца". "Не, паэзія не хлеб надзённы, але — наддзённы", "яна адбываецца на сутыку сэрца і смагі", і каб вобразы і тэмы з абсягаў рэчаіснасці (а не з абсягаў класічных тэкстаў! — **Е. Л.**) "аб'явіліся" ў мастакоўскай фантазіі, "згусціліся" ў твор, "мастак мусіць зрабіцца для іх безабаронным і ўсепрымальным". І ўжо нешта зусім адваротнае постмадэрнісцкай канцэпцыі творчасці чытаем ва ўсё той жа, і вышэй цытаванай, кнізе А. Разанава "Паляванне ў райскай даліне": "Умельства мае справу з дровамі, творчасць — з агнём"; "Вытворчасць тым і адрозніваецца ад творчасці, што яна спараджае структуры, памяшканні, пабудовы (лабірынты, адным словам. — **Е. Л.**) — неасвечанае".

Найважнейшай рысай постмадэрнісцкіх твораў з'яўляецца шматузроўневая жанравая арганізацыя кожнага з іх, што лучыць у сабе элітарнасць і масавасць, філасофскую насычанасць і займальнасць, навуковасць і мастацкасць, выклік усякім клішэ і аднačасова поліфанію стыляў, школ і напрамкаў — ад структуралізму і псіхааналізу да семіётыкі і комплекснай культуралогіі. Можна спаслацца, у прыватнасці, на вершы і мініяцюры ўсё таго ж Борхеса, у мастацкай тканцы якіх, адпаведна аўтарскай філасофіі рэха:, засведчыліся, здаецца, усе бібліятэкі свету.

Безумоўна, ёсць і ў А. Разанава творы, жанравыя формы якіх нельга звесці да нейкай адной дэфініцыі, напрыклад — паэмы, што ўвайшлі ў кнігу "Паляванне ў райскай даліне". "Паэму пагашаных люстэрак", "Паэму парушанай мяжы", "Паэму чырвоных вяровак" можна вызначыць і як лірычныя споведзі, і як філасофскія паэмы, і як своеасаблівыя антыўтопіі. Трэба, аднак, улічваць, што жанравая цяжкавызначальнасць — наогул характэрная рыса літаратуры XX ст. Акрамя таго, і гэта ці не галоўнае, калі постмадэрністы рознымі спосабамі наўмысна, як эстэтычны прынцып, праклямуюць прысутнасць у сваіх творах разнастайных жанравых форм, ілюструючы немагчымасць цэласнасці чаго б то ні было — жывога чалавека і літаратурнага персанажа (тым больш — фрагментаванага), жанру і стылю, дык у А. Разанава заўсёды захоўваецца цэласнасць твора, арганічнасць. Вядомы нямецкі даследчык Вольфганг Вельш, напрыклад, канстатуе: "Постмадэрнізм пачынаецца там, дзе канчаецца цэлае. А таму паўсюль, дзе назіраюцца спробы рэтаталізацыі, постмадэрн — у апазіцыі... Постмадэрн радыкальна плюралістычны, і не з-за павярхоўнасці падыходу ці абыякавасці, але дзякуючы ўсведамленню бясспрэчнай каштоўнасці розных канцэпцый і праектаў. Бачанне постмадэрна — бачанне плюралістычнае. Вось чаму літаратура... хоча задаволіць усемагчымыя чаканні аднačасова". Іншымі словамі, постмадэрнісцкія творы маюць характар, у пэўным сэнсе, эклектычны, што ніяк не стасуецца ні з паэмамі, ні з мініяцюрамі А. Разанава, у тым ліку ўзнікшымі на сумежжы розных жанраў, — вершаказамі, зномамі ці, напрыклад, версэтамі, якія, паводле слушнага меркавання У. Конана, адбыліся "на сумежжы верша, празаічнай мініяцюры і філасофскага афарызму шляхам паступовага ўзмацнення асацыятыўнасці і сімвалічнасці, з аднаго боку, і рэдукцыі паэтычнай напеўнасці, з другога". Па вялікім рахунку, этымалагічныя росшукі ў сферы ці не кожнай сучаснай жанравай формы непазбежна прывядуць да яе шматкаранёвасці, якая, аднак, далёкая ад постмадэрнісцкага прынцыпу множнасці, калекцыі, спісу, мантажу, гібрыднасці як выніку збіральнасці сучаснага мастацтва, неабходнасці абвешчанай постмадэрністамі рэвізіі ўсіх аскепкаў папярэдняга культурнага свету. У паэзіі А. Разанава, наадварот, ёсць пошук, прага, сцвярджэнне цэласнасці чалавека, свету, твора.

Постмадэрнісцкая свядомасць аперыруе, як вядома, шматлікімі антытэзамі (іх сукупнасць самі постмадэрністы часам вызначаюць як "культурную матрыцу аксіялагічных апазіцый"), голас-пісьмо, рэальнасць-адлюстраванне, рэч-знак, ісціна-падман, сутнасць-абалонка, твар-маска... Менавіта другая складовая кожнай апазіцыі ўяўляецца постмадэрністам больш значнай; пісьму, напрыклад, аддаецца перавага над жывой мовай, знаку — над рэччу і г. д. Творы А. Разанава таксама часта будуюцца на зместава-структурнай дыхатаміі, на антыноміі, але для яго значна важнейшыя, на мой погляд, самі з'явы, рэчы, людзі, чым іх адбіткі ды маскі.

Чым сапраўды А. Разанаў падобны да постмадэрністаў, дык гэта гульнявым прынцыпам, адным са стрыжнявых у яго мастацкай сістэме. Постмадэрністы, праўда, займаюцца дэканструкцыяй найперш сюжэтаў, матываў, вобразаў; хаатычны, алагічны — або "дэцэнтрыраваны" — свет, неўпарадкаваны ў іерархічных адносінах (такое светаўспрыманне атрымала назву "постмадэрнісцкай пачуццёвасці"), калі і можа быць адэкватна адлюстраваны, дык якраз праз гульню з культурнымі знакамі. У А. Разанава разуменне мастацкай гульні некалькі іншае: "Верш істотны не сваімі ідэямі альбо метафарамі, а тым, што ад аўтара нібы і не залежыць. Так, верш — гульня, але гульня, у

якой згаджаюцца ўдзельнічаць сутнасці". У постмадэрністаў гульня заўсёды суправаджаецца карнавалізацыяй, клаунадай, травесційным зніжэннем, "зазямленнем" герояў і калізій, іх парадзіраваннем, пераварочваннем. Хто чытаў постмадэрнісцкія тэксты, той не мог не вынесці ўражання гэтай усюдыіснай, усепранікальнай іроніі. Гэта "памінкі па літаратуры, але памінкі вясёлыя", заўважыў расійскі літаратуразнаўца М. Анастасьеў. Часта іронія пачынае біць прама цераз край праз наўмыснае парадыйнае сутыкненне ў новым творы некалькіх стыляў, некалькіх ужо вядомых тэкстаў ("тэкстуальных светаў"), — прынцып, што атрымаў назву "пасціш" (ад італ. pasticcio — літаральна "паштэт"; опера, якая складаецца з фрагментаў розных іншых опер, сумесь, папуры). Парадыйна-іранічна сутыкаюцца розначасовыя падзеі і асобы, і гэта свядомая ўстаноўка, адзін з асноўных "модусаў" постмадэрнісцкай творчасці. Анахранізмы і парадоксы часам прымаюць у постмадэрністаў нябачныя маштабы. У той жа час творам А. Разанава ўласціва ніяк не гулліва-смехавая, а цалкам іншая атмасфера: разважліва-філасофская, драматычная або трагічная.

У пэўнай ступені іранічным "модусам" абумоўлена адсутнасць у постмадэрністаў усякіх міфалагем; калі яны і выкарыстоўваюць метааповед, дык, зноў жа, адно з мэтай яго парадзіравання, дэманстрацыі яго бяссэнсавасці. Паэзія ж А. Разанава насычана міфалагемамі; іх першакрыніцы самыя розныя — ад нацыянальнай гісторыі, фальклору да ўсходняй культуры.

Прысутнасць элементаў апошняй, дарэчы, у нейкай меры таксама нібыта збліжае разанаўскую паэзію з постмадэрнізмам. Як вядома, постмадэрністам надзвычай уласцівы разгорнутыя аўтакаментарыі, самарэфлексіі, рознага роду "нататкі на палях". Даследчыкі лічаць, што гэты філасофска-літаратуразнаўчы прынцып постмадэрністаў, асабліва тэарэтыкаў, склаўся якраз пад уплывам усходняга інтуітывізму, перадусім такіх яго разнавіднасцяў, як дзэн-будызм і даасізм. А. Разанаў таксама, відавочна, цікавіўся і цікавіцца ўсходняй філасофіяй і культурай, аб чым сведчаць яго шматлікія інвектывы, пераозовы яго твораў (найперш пункціраў) з усходнімі танка і хоку, яго пераклады на беларускую мову хайку японскага паэта XVII ст. Мацуа Басё. Цяжка рабіць высновы, у якой ступені разанаўская сімволіка генерыравана ўсходняй, аднак перазовы паміж імі досыць істотныя і заслугоўваюць спецыяльнага аналізу. Звернем толькі ўвагу на наяўнасць і ў А. Разанава самарэфлексій; найперш гэта зномы, якія напачатку такой назвы не мелі, "ішлі як нататкі, нават як філасафемы і друкаваліся ў такой сваёй іпастасі з канца 70-х гг.", і толькі пазней, паводле інтэрв'ю паэта ("Я — той, хто шлях і хто па ім ідзе...", "Літаратура і мастацтва", 13 кастрычніка 1995 г.), з'явілася адчуванне, што ўсё ж такі яны прыналежаць не толькі філасофіі, не толькі крытыцы, не толькі літаратуразнаўству (аднак і ім! — **Е. Л.**), але і паэзіі", і зномы аказаліся далучанымі да ўласна паэтычных твораў. Нават найменні філасофска-эстэтычна-паэтычных рэфлексій А. Разанава на дзіва сугучныя з постмадэрнісцкай эсэістыкай: "Медытацыі наўзбоч "Шляху-360" ("Вобраз-81", Мн., 1981), "Нататкі на дубовых лістах" ("Вобраз-83", Мн., 1983), "Лісткі запісных кніжак" ("Беларусь", 1988. NN 9—10) і да т.п. Уяўляюць цікавасць у гэтым сэнсе і разанаўскія маргіналіі-прачытанні вершаў Надзеі Артымовіч, таксама своеасаблівыя "нататкі на палях", прызначаныя адчыніць "дзверы" ў дастаткова герметычную прастору чужых твораў.

З другога боку, сама па сабе наяўнасць такога "суправаджальнага" аспекту ў творчасці А. Разанава — яшчэ не сведчанне прыналежнасці апошняй да постмадэрнізму: гісторыя сусветнай літаратуры, з беларускай уключна, у розны час зведала шмат аўтараў, якія аднолькава вялікую ўвагу надавалі і ўласна мастацкай творчасці, і асэнсаванню яе філасофска-эстэтычнай сутнасці. Больш таго, як мы ўжо мелі магчымасць пераканацца, змест тых жа зномаў далёка не адпавядае зместу постмадэрнісцкіх маніфестаў рознага кшталту.

І яшчэ адно істотнае адрозненне разанаўскай творчасці ад постмадэрнізму: у ёй і блізка нічога няма ні ад тэматыкі, ні ад тэхнікі гэтак званай "масавай" літаратуры, у той час як постмадэрністы аднолькава разлічваюць і на эрудыта, і на звычайнага шырспажыўца. Гэта адзін з прынцыпаў постмадэрністаў — "перасякаць межы, засыпаць равы", паводле аднаго з тэарэтыкаў постмадэрнізму Леслі Фідлера.

Такім чынам, нават сціслы аналіз твораў А. Разанава ў кантэксце постмадэрнісцкай эстэтыкі сведчыць аб відавочных разыходжаннях з ёю беларускага паэта, аб спрэчнасці інтэрпрэтацыі яго паэзіі як постмадэрнісцкай.

**Ева ЛЯВОНАВА**

***У адным з нумароў "ЛіМа" Адам Глобус быў названы Алесяй Кучаравай "прарокам з дрэннымі манерамі" за кнігу навел "Дамавікамэрон". Сапраўды, кніга выклікае неадназначную рэакцыю ў яе чытачоў. Цікавую рэцэнзію на гэты твор напісаў Валянцін Акудовіч: "Вызначыўшы ў героі за сутнасць яго агрэсіўную сексуальнасць, Адам Глобус вярнуў у кантэкст беларускай літаратуры мужчыну (а можа, дакладней было б сказаць, што ён стварыў прэцэдэнт мужчыны ў беларускай літаратуры, бо ці быў увогуле ў нашай вечна румзаючай паэзіі й прозе мужчына?) Сам аўтар кажа, што яму хацелася, каб у беларускай літаратуры была хоць адна кніга, якую трэба хаваць ад дзяцей".***

***А. Глобус на гэта заўважае:***

***— Кнігу "Дамавікамэрон" я пісаў выключна для сваёй жонкі, ёй гэтыя навелы падабаюцца... Што ж датычыцца дзяцей, дык ад іх нешта хаваць не мае сэнсу: яны ўжо дарослыя. Нядаўна "Дамавікамэрон" перавыдаўся на польскай мове, прычым навел там значна больш, чым у першай кніжцы... Наогул, гэтыя гісторыі ўсё яшчэ пішуцца. Што да мужчыны — "эгаістычна-жорсткага, прагматычна-бязлітаснага, сексуальна-нахабнага", дык жанчынам такія падабаюцца болей...***

***Не думаю, што такі адказ задаволіць усіх чытачоў "Дамавікамэрона", усіх тых, хто шукае ў творы "падводную плыню", але ж...***

***Што датычыцца А. Глобуса, дык ён любіць крытыкаваць у прэсе вялікіх асоб — Пушкіна, Ніцшэ, Ван Гога і сучаснікаў (за што яму калі-нікалі не падаюць рукі абражаныя творцы).***

***Праўда, сам Уладзімір Вячаслававіч ставіца да гэтага спакойна:***

***— У крытычных артыкулах, напісаных у газету, я разважаю пра творчасць, а не пра асобу. Я крытыкую канкрэтную кніжку Брыля ці канкрэтнае выказванне Дудрава. Успомніце, як Блок аднойчы сказаў, што ў Буніна ёсць толькі адзін верш "Хрыстос", ды і той кепскі. Вы ўяўляеце, каб у нас хоць адзін паэт пра другога так сказаў? І калі ўзяць велічыню Блока і велічыню Буніна: адзін — лепшы паэт XX стагоддзя, які пісаў па-руску і другі — паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі... Так што ў нас ёсць яшчэ вялікі запас.***

## Адам ГЛОБУС: "Дамавікамэрон" я пісаў для жонкі"

**— Уладзімір Вячаслававіч, хто для вас сёння з'яўляецца велічынёй XX стагоддзя з беларускіх пісьменнікаў?**

— Ну, для мяне гэта Багдановіч, ён — велічыня XX стагоддзя і арыенцір на сёння. Каго я люблю чытаць і перачытваць? Багдановіча, Гарэцкага... Калі гаварыць пра сучаснікаў, дык, на шчасце, у Беларусі з канца 80-х гадоў пачаў ствараццца новы канктэкст беларускай культуры, цалкам новы. Гэта кантэкст майго пакалення, маіх сяброў... І адпаведна мяне цікавіць калектыў "Нашае Нівы", творцы з "Нівы" беластоцкай, філосафы, якія робяць часопіс "Фрагменты". Мяне цікавяць маладыя літаратары, перспектыва і класічная рэтраспекцыя. Але мяне не цікавіць беларуская савецкая літаратура.

**— ...Якую стварылі многія пісьменнікі, у тым ліку і ваш бацька?**

— Я не лічу, што бацька пісаў узоры сацыялістычнага рэалізму. Не. А пакаленне шасцідзесятнікаў, да якога належыць бацька, Наўроцкі, Стральцоў, Кудравец, Караткевіч, я вельмі люблю, менавіта за творчасць. Але не люблю літаратуру 50-х, яе чытаць не магу.

**— Як вы лічаце, бацька моцна дапамог вам у жыцці?**

— Так, і маці...

**— А ў літаратуры?..**

— Канешне. Маці — бібліятэкар, дазваляла затрымаць дома кніжку, каб я мог спакойна перачытаць яе два-тры разы... Я мог паказаць свае апавяданні бацьку, а вершы — Караткевічу ці Стральцову. Мог заўсёды пагаварыць з імі аб тым, што атрымалася, а што — не, што можна друкаваць, а што — нельга, і як сябе паводзіць у такой сітуацыі.

**— Вашыя дзеці таксама прыходзяць у літаратуру?**

— Сын працуе ў маім выдавецтве, зараз ён падрыхтаваў да друку вялікі англа-рускі слоўнік на 100 тысяч слоў.

**— Уладзімір Вячаслававіч, вы б хацелі вярнуцца ў вялікае мастацтва, заняцца жывапісам?**

— Не. Адбылася пераацэнка каштоўнасцяў не толькі ў літаратуры й палітыцы... Самае галоўнае, што адбылося ў выяўленчым мастацтве, — карціна страціла значэнне культавай рэчы. Зараз атрымліваецца, што любы чалавек з сярэдняй адукацыяй, які малюе пэндзлікам Ісуса Хрыста, думае, што ўжо робіць культавую рэч. Страцілася значэнне інтэлекта і адукацыі ў жывапісе.

**— Вам не здаецца, быццам тое ж самае адбываецца і наогул у жыцці?**

— Не. Тут мы гаворым канкрэтна пра жывапіс. Бо ёсць жа яшчэ і камп'ютэрная графіка, тэлебачанне, інтэрнет, ёсць і іншыя віды занятку, дзе інтэлект больш запатрабаваны, чым у жывапісе... Раней было забаронена гаварыць, а тым больш друкаваць праўду, на тэлебачанні забаранялі здымаць эротыку, разважаць пра рэлігію. А пісаць карціны ніхто не мог забараніць. Тады я працаваў у камісійнай краме і рабіў шыльдачкі: "Крама працуе з 10 і да 18". У мяне заставаўся вольны час — і я маляваў свае карціны.. Зрэшты, і яно асноўнае, я не хацеў бы ператвараць свае заняткі маляваннем і літаратурай у бізнес.

**— Дарэчы, у вас на гэты конт ёсць добрае выказванне: "На ўласную працу, зробленую толькі дзеля заробку, глядзець цяжка". На што вы пагаджаецеся "дзеля заробку"?**

— У мяне ёсць яшчэ пэўныя арганізацыйныя здольнасці, я магу арганізаваць выдавецтва, арганізаваць падрыхтоўку 100-томніка класікаў філасофскай думкі для расійскага кнігагандлю... Вось — першая кніжка ўжо выйшла, гэта Шапенгаўэр... Зараз я працую ў маленькім кааператыве, які называецца "Літаратура".

**— Цікава гучыць — кааператыў "Літаратура"!.. Дарэчы, калісьці вяліся размовы, быццам Глобус аб'явіў падпіску на новую газету, грошы сабраў, а газету так і не выдаў...**

— Не, было не так. Мы абвясцілі падпіску на адзіны ў СССР часопіс — "АВС Детектив". Сапраўды, грошы сабралі і выдалі часопіс з раманам "Заўсёды светла каля турэмных муроў". Ён выйшаў накладам у 365 тысяч. А потым перавыдалі гэты раман у розных выдавецтвах пад рознымі псеўданімамі, і ён разышоўся па Расіі больш чым паўмільённым накладам.

**— Дарэчы, чаму вы сталі падпісвацца — Глобус?**

— Гэта прозвішча маці. Яна — Ніна Уладзіміраўна Глёбус.

**— Раней неяк вы пісалі, што ўсё жыццё**



**хацелі знайсці свой дом, але яго ніколі ў вас не было...**

— Слова "дом" мае для мяне безліч прачытанняў: адсюль і "Дамавікамэрон", адсюль і "дамавік", тут і "дамавіна"...

**— Адсюль і закапаны аўтобус? Вы ж пісалі: "Я нават марыў закапаць у лесе аўтобус і ў ім жыць. Хай у лесе, хай пад зямлёю, хай не дом, а аўтобус, але ж асобны і мой".**

— І закапаны аўтобус таксама. Абсалютна нармальна, што чалавек, які нават мае ўласны дом, шукае дом лепшы, ідэальны... Касмічны карабель — гэта ж таксама дом.

**— Скажыце, Уладзімір Вячаслававіч, адкуль у вас такая цікавасць да смерці? Шмат вершаў на гэтую тэму...**

— На сённяшні дзень такой цікавасці няма. Так, яна была. У юначыя рамантычныя гады хочацца займаццца маргінальнымі з'явамі на грані жыцця і смерці. Але пасля таго, як я пабываў у Егіпце ў пірамідах вялікіх фараонаў і перахварэў на адну з разнавіднасцяў воспы, цікавасць да смерці знікла.

**— Таму што смерць аказалася рэальнай?**

— Не, таму што там, за гэтым светам, нічога няма...

**Інтэрв'ю правяла Раіса МШАР**

УГОДКІ

## Не кожнаму столькі ўдаецца...

Сёння шырока вядома цудоўная паэма Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра", паэтычны пераклад якой упершыню зроблены і апублікаваны Якавам Ільічом Парэцкім сумесна з Язэпам Семяжонам, у 1966 годзе.

Вывучаючы фонды рэдкай кнігі Бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Маскве, Я. Парэцкі знайшоў старажытную кнігу на лацінскай мове, аўтар якой быў малавядомы. Беражліва і старанна расшыфроўваў ён радок за радком твор, напісаны гекзаметрам. Гэта была тытанічная праца, але даследчыка натхняў талент аўтара паэмы М. Гусоўскага — далёкага продка, які свае думкі і пачуцці выказваў лацінскаю мовою, якой у той час шырока карысталіся дзеячы навукі і культуры ў Заходняй Еўропе. Зыходзячы з арыгінальных тэкстаў, творчасць выдатнага дзеяча беларускай культуры эпохі Адраджэння, паэта-лаціністa Я. Парэцкі даследаваў у кнізе "Мікола Гусоўскі" (1984).

Кірункі навуковай дзейнасці Я. Парэцкага — культура Беларусі 16—18 стагоддзяў, старажытныя мовы, творчасць паэтаў-лаціністаў. Ён аўтар манаграфічных даследаванняў "Сымон Будны", "Саламон Рысінскі", "Міхаіл Карыцкі", "Ян Вісліцкі".

У аддзелах рэдкіх кніг бібліятэк Санкт-Пецярбурга, Львова, Вільні, Кракава Я. Парэцкі выявіў і пераклаў з лацінскай і польскай моў творы С. Буднага, Я. Вісліцкага, С. Рысінскага, М. Карыцкага, С. Ягадзінскага і іншых.

Нарадзіўся Якаў Ільіч 29 верасня 1913 года ў Кёнігсбергу (цяпер Калінінград) у сям'і служачых. У 1932 годзе скончыў Лідскую гімназію, затым вучыўся на хімічным факультэце Віленскага універсітэта. Вайна застала ў Беластоку, дзе Я. Парэцкі працаваў настаўнікам сямігадовай школы. Быў эвакуіраваны ў Башкірскую АССР, працаваў настаўнікам фізікі і ў сярэдняй школе. У час вайны бацькі Я. Парэцкага былі расстраляны ў Шчучыне фашысцкімі захопнікамі.

У 1944 г. Я. Парэцкі вярнуўся на Беларусь і працаваў выкладчыкам Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1944—1948 г.), які скончыў экстэрнам у 1948 г. Потым выкладаў лацінскую мову ў Мінскім педінстытуце замежных моў. У 1992 годзе тут выдадзены дыплом, у якім напісана: "Вучоная рада нашага Інстытута лічыць, што калега Якаў Ільіч Парэцкі — спрактыкаваны і дасведчаны, шаноўны майстра, выдатны настаўнік настаўнікаў, славуты даследчык — заслугоўвае звання прафесар Honoris causa Мінскага інстытута замежных моў".

Я. Парэцкі быў дапытлівым даследчыкам, працаваў не шкадуючы сіл і часу. Ён так і памёр 13 лістапада 1992 г. за пісьмовым сталом. Неапублікаванай засталася яго апошняя праца "Моўны подзвіг Скарыны". Як гаварыў сам Якаў Ільіч, матэрыялу ў яго назапашана яшчэ на адно жыццё. Але і тое, што ён паспеў зрабіць, не кожнаму ўдаецца. Я. Парэцкі значна ўзбагаціў скарбніцу беларускай культуры, адкрыў імёны таленавітых дзеячаў эпохі Адраджэння. Галоўнай мэтай яго жыцця было імкненне даказаць, што Беларусь па сваёй гісторыі і культурных традыцыях стаіць побач з вядучымі еўрапейскімі дзяржавамі.

**Марыя ШАЎЛОЎСКАЯ**

## Славутаму паэту прысвячаецца...

Да 200-гадовага юбілею Адама Міцкевіча ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа наладжана кніжна-ілюстрацыйная выстава. Экспазіцыю выстаўкі складаюць творы, выданні аб творчым шляху, грамадскай дзейнасці, успаміны сучаснікаў. Так, наведвальнікі могуць азнаёміцца з 20-томным (у 10-ці кнігах) зборам твораў А. Міцкевіча, які выдадзены ў Варшаве ў 1929 г. Адзін з раздзелаў прысвечаны выдатнейшаму твору — паэме "Пан Тадэвуш" на польскай, беларускай, рускай мовах. Размешчаны побач выданне 1985 года (мастак В. Шаранговіч) і выданне 1908 года з адзнакай "Bielaruskije Piesniary. T. II" і надпісам "Wa bielaruskuju hutarku pierawiarnuu Wincuk Marcinkiewicz". Прапануецца ўвазе кніжачка аднаго верша Адама Міцкевіча "Да Нёмна" ў перакладзе адзінаццаці беларускіх паэтаў.

Ёсць "старонка" аб родных мясцінах паэта — Навагрудчыне, Вільні, дзе вучыўся ва універсітэце, Туганавічах — месцы сустрэчы Адама Міцкевіча з Марыляй Верашчакай.

Разнастайны і ілюстрацыйны матэрыял, які дэманструецца на выстаўцы. Рэпрадукцыя партрэта А. Міцкевіча мастака У. Пасюкевіча "Свіцязанская балада" стварае фон для лірыка-рамантычнага твора пад назвай "Свіцязянка" розных гадоў выдання і на некалькіх мовах.

Даследчыкі творчасці паэта — польскія, беларускія, расійскія, вучоныя іншых краін — паказваюць у сваіх працах ролю Адама Міцкевіча ў сусветнай літаратуры, асвятляюць розныя аспекты шматграннага таленту знакамітага паэта.

Выстава размешчана ў холе бібліятэкі. Пазнаёміцца з ёю могуць не толькі чытачы, але і ўсе, хто цікавіцца творчасцю і асобай А. Міцкевіча.

Тамара БРАІМ,
загадчыца аддзела абслугоўвання
ЦНБ НАН Беларусі

## "Беларускі гістарычны часопіс", N 3

Чарговы нумар штоквартальніка адкрываецца артыкулам А. Яноўскага "Першы рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта", у якім расказваецца пра вядомага вучонага, арганізатара навукі на Беларусі У. Пічэту. Л. Лыч ("Вытокі беларускай нацыянальнай ідэі") разглядае гісторыю зараджэння і станаўлення беларускай нацыянальнай ідэі. На думку аўтара, асноўны ўклад у фарміраванне яе ўнеслі беларускія народнікі, аўтары і супрацоўнікі часопіса "Гоман". Па сутнасці працягам гэтай гаворкі з'яўляецца артыкул М. Смяховіча "Нацыянальная ідэя беларусаў у XX ст. (гістарыяграфічны аналіз праблемы)". У артыкуле Н. Глушаковай "Знешнепалітычныя арыентацыі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (1918—1924 гг.)" даследуюцца знешнепалітычныя аспекты дзейнасці партыі беларускіх эсэраў і рэалізацыі ідэі незалежнага нацыянальна-дзяржаўнага развіцця краю. Цікавая праблема закранаецца ў артыкуле А. Жытко "Нацыянальны склад дваранства Беларусі 1861—1914 гг." Не пройдуць незаўважанымі і такія публікацыі, як "Заходняя Беларусь: да пытання тэрыторыі і насельніцтва" Я.-Е. Мілеўскага, "Галоўная і меншая канцылярыі Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст." А. Рыбакова, "Брэсцкі кадэцкі корпус" С. Куль-Сяльвестравай, "Беларускія школы на Смаленшчыне" А. Корсака, "Антычныя багацці Брэста і яго наваколля" Л. Побаля, "Кавалеры ордэнаў Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага" Д. Карпіевіча, "Дзяржаўная літаратурная палітыка ў БССР у 20-ыя гг." Н. Пурышавай, "Прававыя і палітычныя погляды Георгія Каніскага" А. Ляскова і іншыя.

## Права дзецям... на правы

Добрую ініцыятыву праявіла прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Разумеючы, што грамадства можа быць па-сапраўднаму дэмакратычным толькі ў тым выпадку, калі кожны чалавек будзе выразна ўсведамляць не толькі свае абавязкі, але і правы, тут вырашылі паклапаціцца аб дзецях, якія б маглі засвоіць для сябе гэтыя, такія важныя, а ў нечым і простыя, ісціны ўжо ў раннім узросце. А ў выніку з'явілася "Сусветная дэкларацыя правоў чалавека ў малюнках". І гэта не проста малюнкі, а коміксы, аўтарам якіх з'яўляецца мастак Ігар Ліпскі. Ён проста, даходліва, а галоўнае займальна тлумачыць асноўныя палажэнні гэтага дакумента. Кніжка выйшла накладам у сто тысяч паасобнікаў, яе мяркуецца разаслаць у школы краіны.

**ВІНШУЕМ!**

***Сёння вядомы паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Сяргей Грахоўскі сустракае сваё 85-годдзе. Чалавек складанага лёсу, які зведаў жахі сталінскіх лагераў, Сяргей Іванавіч не растраціў душэўнай шчодрасці, цеплыні і на ўсё жыццё застаўся аптымістам. Светласцю інтанацый, жыццядайнасцю зместу вылучаюцца і яго паэтычныя кнігі, колькасць якіх ужо не адзін дзесятак. Да ўсяго С. Грахоўскі плённа працуе і ў галіне прозы. Шырокую вядомасць набыла яго аповесць "Рудабельская рэспубліка", а таксама творы, у якіх асэнсоўваецца час сталінізму. Выступае Сяргей Іванавіч і як публіцыст, перакладчык.***

***Віншуючы Сяргея Іванавіча з 85-годдзем, жадаючы яму здароўя і здароўя, прапануем увазе чытачоў "ЛіМа" яго новыя вершы.***

Сяргей ГРАХОЎСКІ



# Жнівеньскі збор

●

*Я траціў усё без аглядкі,*
*Што ў вечных пакутах набыў,*
*І Богу выплочваў падаткі,*
*І тым, каго шчыра любіў.*
*Таму, хто агорк і абрыдзеў,*
*Аддаў свой апошні рызман,*
*Бо ведаў: няпрошаны прыйдзе,*
*Каб зноўку увесці у зман.*
*Набытае ўсё да драбніцы*
*Гатовы і сёння аддаць,*
*Бо ўсё ж ад сквалыг не адбіцца,*
*І ўсё, што аддаў, не згадаць.*
*Сабе ж не сабраў на абнову, —*
*Лепш зноскі свае данашу.*
*Збярог толькі вечную мову*
*І ледзьве жывую душу.*

●

Пів Полісся вода залила...
Украінская песня

*Дажджы размылі, затапілі*
*Палі, лугі і лазнякі.*
*Іллю, напэўна, напаілі*
*Апазіцыйныя "дзялкі".*
*Цяпер іх многа развялося,*
*І мітусяцца кожны дзень,*
*А качкі плаваюць у просе,*
*Малоцяць шчупакі ячмень,*
*Ліні з язямі водзяць гульбы,*
*Без рызыкі і без пагроз*
*Хаваюцца ў разорах бульбы*
*І грэцца лезуць пад пракос.*
*Ізноў Палессе стала морам,*
*Буслы не лётаюць сюды:*
*Заканчваецца жнівень горам,*
*Ідзе зіма, — чакай бяды.*
*Начальнікі ў запале спрэчкі*
*Не ведаюць, каго вініць,*
*Бо ўтаймаваць няможна рэчкі*
*І хмары чорныя спыніць.*
*Кантора лічыць і плануе,*
*Што восенню аддасць зямля,*
*Але над ёй даўно пануе*
*Захмелены прарок Ілля.*

●

*Масты ў мінулае згарэлі*
*І ў заўтрае іх не відаць,*
*Жыццё ж разгойдвае арэлі,*
*Якіх нікому не суняць.*
*Я пазіраю, як праз краты,*
*Што люты пераплёў знарок,*
*Хоць толькі ў тым і вінаваты,*
*Што не патрапіў крок у крок.*
*А колькі ўпала зорак з неба,*
*І колькі на Зямлі ўзышло,*
*Хоць асаблівае патрэбы*
*У іх ніколі не было.*
*Жыццё то плача, то смяецца:*
*Датлелі даўнія масты,*
*А сэрца? Сэрца не здаецца,*
*Хоць мой засек даўно пусты.*
*Я ж з першых крокаў*
*не лайдачыў —*
*Сам здабываў шурпаты хлеб.*
*Чаго я толькі не пабачыў?!*
*І як я толькі не аслеп?!*

●

*З нас кожны без вагання,*
*Як прагучыць загад,*
*Ахвотна на змаганне*
*Ішоў, як на парад.*
*Не страшылі нас кулі*
*Ў юнацкія гады,*
*І тых, што у Кабуле*
*Палеглі назаўжды.*
*З'яўляліся аматары*
*Усё рабіць як след,*
*І ў званні "ліквідатары"*
*Знікалі на той свет.*
*Мы ўдарнікамі зваліся*
*Ішлі ў забой і ў стэп —*
*Змагаліся, змагаліся*
*За вугаль і за хлеб,*
*Хоць часам ледзь трымаліся,*
*Але ішлі на бой.*
*А з кім жа мы змагаліся?*
*Няўжо з самім сабой?*
*Не жалюся, не каюся,*
*Што на сваёй зямлі*
*Усё жыццё змагаюся*
*А жыць няма калі.*

●

*Цябе ў раёне узнялі высока*
*Адзінаверцы і сябры,*
*А ты не строй з сябе прарока*
*І з пыхаю з людзьмі не гавары,*
*Не думай, што і ты пасланнік*
*Божы,*
*Што разумнейшых за цябе няма,*
*Што ты і статны, і прыгожы,*
*Калі Венера лашчыцца сама*
*І шчодра дорыць пацалункі,*
*А тэнар пахвалы табе пяе,*
*Каб толькі заслужыць дарункі,*
*Нібыта ўласныя твае,*
*Каб толькі ліхаманка не затрэсла,*
*Каб толькі бляск часовы не зліняў.*
*Больш за цябе шануюць*
*службі крэсла,*
*Якое ты сабе заваяваў.*
*Задумайся, што кажуць*
*і што чуюць*
*Гаротнікі ў адчаі і ў журбе,*
*Не службі, што каля цябе шчыруюць,*
*А што нашчадкі скажуць пра цябе.*

●

*Незавершаны верш — маладое віно*
*Без іскрыстага клёку і сілы,*
*А калі праз гады устаіцца яно,*
*Ад глытка праразаюцца крылы.*
*Калі ў склепах само па сабе адшуміць,*
*Калі ў бутах і ў чанах астыне,*
*Не спяшайся яшчэ,*
*не каштуючы, піць,*
*Калі ўсё не сышло шумавінне.*
*Пах і колер, і смак вінароб давядзе,*
*І аддзячыць яму пры нагодзе,*
*Калі келіх у радасці або ў бядзе*
*На бяседу збярэ*
*і ў наступным стагоддзі.*
*Так і верш, калі ён, як віно, не даспеў*
*І здалася няўдача удачай,*
*Захлынецца натхненнем*
*і радасны спеў,*
*Бо у келіху — горкая чача.*

●

*Дабро адольвае у казках зло.*
*Маё жыццё — даўгія казкі.*
*Чаго ў ім толькі не было?*
*Былі завязкі і развязкі:*
*Завязвалі тугім вузлом,*
*Што не развяжаш і зубамі,*
*А я ішоў, ішоў на злом,*
*Нібы вярблюд з двума гарбамі*
*Чужую ношку нёс і нёс*
*Ці на пагрузку, ці разгрузку,*
*І лаяўся калматы пёс,*
*Ды толькі не па-беларуску.*
*Ад страху часам я нямеў,*
*А даць не мог нікому здачы,*
*Бо нават голасу не меў*
*І выйсця з патаемнай "дачы".*
*Завязвалі, развязвалі вузлы*
*Хоць на кароткія палёгкі,*
*А я не быў ніколі злы,*
*Хоць і не быў, як былка, крохкі.*
*Матлялі з боку ў бок вятры,*
*Душу скаваў набраклы верад.*
*Я ведаў: "Вочы лепш пратры*
*І толькі пазірай наперад".*
*Як толькі мой датлее каганец,*
*Складу свае ўсе абавязкі,*
*Бо набліжаецца канец*
*Вясёлае і страшнай казкі.*

●

*Трагедыі і драмы — на Зямлі.*
*Камедыі здараюцца таксама:*
*То ўсходзяць, то злятаюць каралі,*
*У акіяне гінуць караблі*
*Каля Бермудаў і каля В'етнама.*

*Галосяць дзеці: "Ма-ма! Ма-ма!" —*
*Паводка ў бездань іх нясе, нясе,*
*А то Зямлю Люцыфер затрасе,*
*Каб знікла ўсё і зніклі ўсе.*
*Відаць, і ў д'ябла —*
*цвёрдая праграма.*

*Па моры тлустая вясёлкавая пляма*
*Плыве, што нават чайкам*
*не ўзляцець,*
*Канае апраменены мядзведзь,*
*І не канчаецца за драмай драма,*
*Калі і салавей развучваецца пець.*

*Бо з году ў год не перастаў кіпець*
*Крывавы вір у Грозным і ў Кабуле,*
*Што нават горы пачалі сівець,*
*Як танкі дагараць, засвішчуць кулі,*
*І бомбы сыплюцца, як град,*

*Але ніхто не лічыць болей страт:*
*"Вайны ж няма!"*
*Хоць не злічыць забітых,*
*Бо забівае брата брат,*
*А колькі невядомых і забытых*
*Салдат, жанчын і немаўлят!*

*Слязьмі заходзяцца каханыя і маці,*
*Ім свету Божага ад гора не відно,*
*А нехта баль спраўляе, і на свяце*
*П'е з асалодаю чырвонае віно*
*"За Перамогу!" Як і піў даўно...*

*Наш век пачаўся і сканае з горам;*
*Людзей паўлюдкі*
*ледзь не ўшчэнт звялі.*
*Ім страшна каяцца*
*і прызнавацца сорам,*
*Бо лічаць Бога першым рэжысёрам*
*Трагедый і камедый на зямлі.*

*Таму на Бога ўсе грахі валі,*
*Бо ён яшчэ не перастарак,*
*Хоць і за нас яго душа баліць,*
*А ў трапяткой руцэ дрыжыць агарак,*
*Гатовы, як Шэкспіраў*
*"Глобус" падпаліць...*

*Калі надыдзе мой апошні час,*
*Я памалюся за сябе і вас...*



Казімір КАМЕЙША

# ПАМІЖ КУБКАМ І ВУСНАМІ



●

Мінуўшы паўстанак пад назваю "Сорак", гады панесліся з такой хуткасцю, нібы ты перасеў раптам з маруднага пушчанскага воза на звышгукавы лайнер.

●

Памежныя капцы існуюць не толькі на зямлі, ужо і ў небе даўно прачэрчаны калідоры і межы, ужо і ў самой душы спрабуюць нешта размежаваць і абмежаваць.

●

Умеем ладзіць святы. Можам сшыкаваць любое, самае найшыкоўнае застолле, аж самі сабе пазайздросцім. А вось праўду-матухну рэзаць у вочы яшчэ ўсё не навучыліся.

●

— Як ты пастарэў! — кажуць даўнія знаёмыя пры сустрэчы. Бо запомнілі яны цябе маладым, свяжэйшым. І табе самому карціць сказаць ім тое ж самае.

Старацъ нас не толькі гады, але і наша раз'яднанасць,

●

Усе ключы ад таямніц мінулага схаваны ў кішэнях будучыні.

●

Спрэчка аб тым, ці можа сёння селянін узяць зямлю — такая ж недарэчная, як і спрэчка аб тым, ці можа нябожчык узяць у руку свечку.

●

Пра аднаго гультаяватага вяскоўца казалі так: "Калі ў хаце вады няма, дык да студні з кубкам бяжыць. А каб вядро ўзяць — ніколі". Ну што тут дабавіш?

●

Было страшна, што гэтыя вусны ніколі не прамаўлялі пяшчотнага слова. Яны нават не памяталі слова "мама".

●

Слінячы з газеты самакрутку, старэйшы, загарэлы і даўно няголены, выказваў маладзейшаму:

— Швэндаешся ты ад адной спадніцы да другой. Трымаўся б лепш жонкі, а то яна...

Малады адстрэльваўся:

— Ат, дзядзька, каля адной норкі і кот здохне.

— Ты то не здохнеш. Не той кот, — задумліва, але не злосна зацягваўся брыдкаватым дымам дзядзька.

●

Самыя доўгія ночы ў маім жыцці былі ў тым кастрычніку, калі ў цяжкіх муках паміраў бацька. Мы з маці і на хвіліну не засыналі. Бяссонне тое я добра адчуваю і сёння.

●

Жыву памяццю. Усё часцей і часцей, як дробязь з кішэні, выцягваю нейкія дробязі з мінулага. Як быццам іду ўперад і ўвесь час азіраюся назад: ці не забыў там што...

●

Прачнуўся і доўга не мог уцяміць, дзе я. Ды гэта ж сенавал. Праз шчыліну ў шчыце прабіваўся чырванаваты сонечны прамень. Па ім струменьчыкам сачыўся рэдзенькі сіваваты пылок. На ўвесь шчыт зіхацеў шаўкавісты павучыны габелен лета. Страпянула крыламі, закудахтала курыца, і тут я на сваё здзіўленне ўбачыў гняздо і цэлую горку яек, знесеных, відаць, за добры тыдзень. Раніцу будзілі і вядро ля калодзежа, і певень, і даёнка, і пастух, а зараз і гаспадар з вясёлым адклёпам касы на бабцы. Трэба ўставаць, што заўсёды панядзелкам нялёгка. Ды во колькі адразу дзівос на самым прасонні.

●

Новая дарога да маіх Навікоў, калі ехаць з-пад Мінска, бяжыць проста на франтон нашай хаты. Калі б не круты паварот на гары перад вёскай, машыны б так і ляцелі, — на хату. Таму не смейцеся, калі я кажу не "еду да хаты", а "еду на хату".

●

Ні сваіх бедаў, ні свайго шчасця ніколі не абыдзеш. Лёс рэдка пасылае нам абыходныя дарогі.

●

Пакуль існуюць меліяратары і браканьеры ад мовы, слова заўсёды будзе адчуваць сябе рыбінай на беразе безнадзеі.

●

Старыя гарады ўзнікалі на скрыжаванні дарог і абавязкова ля вялікіх рэк. Нашы Рубяжэвічы маглі б стацца немалым горадам. Яны мелі ўсё для гэтага, але не мелі вялікай ракі.

●

Надакучлівая ўрапатрыятычная песня майго дзяцінства са словамі:

***С песнями, борясь и побеждая,***
***Наш народ за Сталиным идет.***

На мой дзіцячы слых яна гучала так:

***С песнями Барасин побеждает...***

Што гэта за Барасін, думаў я, і як ён "побеждает", калі народ ужо толькі потым, пасля яго, ідзе за Сталіным?

А наш вясковы бывалец і жартаўнік казаў:

— Во што яны пяюць: "С песнями борясь и побеждая"... Знайшлі з кім "бароцца"!..

Я толькі потым зразумеў, што коска, якая губляецца пры спеве, дае песні двухсэнсоўе. Відаць, паэту-песенніку трэба ўлічваць і гэта.

●

Мы нарадзіліся каля невялічкай, з адным толькі вірком, рачулкі і плаваць з вяскоўцаў мала хто за сваё жыццё навучыўся. Малыя, мы імітавалі плаванне, поўзаючы рукамі па дне. Поўзаем і сёння па жыццёвым мелкаводдзі, часта асцерагаючыся сапраўднай глыбіні.

●

Вершы для сябе — няўдзячная і сумная справа. Калі ўжо гаворыш, дык нехта і слухаць павінен.

●

Ехаў нядаўна ў вёску і па дарозе зазірнуў у былы матэль за Мінскам. Чаму былы? А таму, што яго ўжо няма. Там, дзе гулялі вяселлі, дзе шумелі застоллі да самай раніцы — пры дарозе, на прыродзе, засталіся адны руіны. Ляжаць груды разбітай цэглы, бітае шкло, тырчаць пакалечаныя трубы. Кажуць, гэта ўсё чынілася за некалькі начэй. Матэль, бачыце, застаўся без гаспадара.

Ці не такое ж было і з панскім маёнткам у маіх мясцінах тым далёкім трыццаць дзевятым годам? За некалькі дзён было размецена ўсё — ад цвіка да дрэўца.

●

Слухаючы нашы радыё ды тэлеперадачы, ні разачку не пачуў слоў, якія сціпла кажуць у народзе:

— Ат, няма чым хваліцца.

А тут, калі і няма чым, хваляцца і хваляцца, ды яшчэ ўвесь час прыхвальваючы сябе.

●

Плакалі, патрэскваючы, свечкі, і іх жоўтыя васковыя слёзы сумна сцякалі ў сподкі, застываючы там жоўтымі гурбачкамі. Гэта было маўклівае аплакванне чалавека, яго пакут, і была ў гэтым свая сумная паэзія.

●

Як лёгка, проста і часам насалодна весела некага абгаворваць. І як жа цяжка, сумна і гнятліва быць некім абгавораным.

●

Прыстанька... З памятным каменем (клопат мясцовага начальніка культуры Анатоля Васільевіча Грэкава, ці, як яго яшчэ тут называюць, — тутэйшага Луначарскага). Гэта тут у ліпені 1906 года сабраліся настаўнікі на свой нелегальны з'езд. Якубу Коласу гэта каштавала астрогу. Ну а мясціна ў сваёй прыгажосці непаўторная. Нёман тут усё глыбей і глыбей падразае стромісты і лясісты бераг. Хутка абрэжа і саму дарогу. Абняўшыся, шуганулі ў плынь куст ядлоўцу і алешына. Самазабойцы так і гайдаюцца на хвалях, не раздымаючы абдымкаў. Ужо амаль з голымі каранямі стаіць на строме малады дубок.

За Нёманам — чарамшыны астравок, куды Алесь Камароўскі па халоднай красавіцкай вадзе пераходзіў басанож. Сярод прыгажосці многа і звычайнага свінства, якое пакінулі пасля сябе заезджыя гулякі: іржавыя бляшанкі, бітае шкло, падсечаныя і падсмаленыя да самых верхавін хвоі. Ужо і на мемарыяльным знаку спрабавалі нешта крэмзаць. Такое вось далучэнне да памяці і прыроды.

●

Калодзеж — не ручай, з яго без вядра не нап'ешся. Таму шануйце ў калодзежы не толькі ваду, а яшчэ і вядро.

●

Добрае, з жартам і вясёлым прыпаміпам слова і ў найцяжэйшай сялянскай рабоце надта ж пасабляе. Нашто ўжо і я, горадам падпешчаны пушчанец, адчуваю гэта, кідаючы цяжкую, перашытую густой травой, пшанічную салому на вялізны прычэп трактара. Ніжэй салома дробная, як сечка, а ля самай зямлі, дык і зусім — мякіна. Сыплецца яна на твар, за каўнер, ліпне з потам і прыкіпае да цела. Работка адна з непрыемнейшых у сённяшнім вясковым жыцці-быцці. Таму стараешся, каб не асароміцца, падхапіць на сахор з доўгім дзяржальнам як мага большы пласт, бо зверху тыя двое, што вершаць прычэп, тут жа не прамінуць пасміхнуцца. Можа, і пра мяне, як пра аднаго з тых, што наверсе, іншы шапне на вуха: "Ён жа гультай несусветны". Але жарт знізу падсабляе:

— А помніш, Янак, як ты некалі сена піцаваў на пушчы? Жонка была наверсе, на возе, а ты знізу крычыш: "Бронька, ты ўжо маленькая зусім зрабілася".

— Я некалі вазы ўкладаў, як стагі. Стаіш на возе ў пушчы — і бачыш гусей за сваім хлявом.

Давершваючы прычэп, дагаворацца і зусім да далікатнага:

— А хто гэта нямой са Слабады дзіця прыстроіў?

— Нехта ж прыстроіў. Знайшоўся спрыцяга нейкі...

— Мы — не вы, у шапку не спім, — данеслася зверху.

— А мы, значыцца, спім? — злуюць унізе.

— З вамі ўжо і спаць ніхто не хоча...

Слова за слова — і сварка гатова разгарэцца. Адчуўшы гэта, маўчун-трактарыст махае рукой:

— К-а-анчайце! Паехалі!

●

Да кароўніка за вёскай падруліў старшынёўскі "УАЗік". Тут жа і гаворка ўсчалася, нечаканая, ніяк не планаваная старшынёю. Дагаварыліся і да самага балючага: да прэміі. Загарэлы да чарнаты і крыху нападпітку дзяцюк-падвозчык запатрабаваў:

— А мне ці будзе якая прэмія?

— Прэмія яму! — зазлаваў старшыня. — Ты хоць помніш, як з маёй машынай на кані размінуцца не мог? Я направа — і ты туды ж, я ўлева — і ты...

— Гэта вы няправільна паварот уключылі, — не стрымаўся дзяцюк, — паварот быў левы, дык я й павярнуў направа, каб даць вам дарогу. А вы — на мяне...

Засмяяліся даяркі, а дзяцюк яшчэ дабавіў:

— Можа, як уключылі той паварот у Стоўбцах, дык ён і гарэў да Навікоў.

— Цьфу ты, — узарваўся старшыня і, нічога больш не кажучы, пабег да машыны.

●

Жанчына, якая нядаўна пахавала сына, плакала яшчэ і ад крыўды, убачыўшы ля сынавай магілы кімсьці абцягнуты шпагатам лапік зямлі:

— Не, гэта маё месца! Хай і не думае! Я не аддам гэта месца. Я павінна ляжаць ля сына.

Было нейк жахліва слухаць такое. Згадаўся вясковец, які пры жыцці заказаў па сабе і жонцы помнік, і цяпер часта ходзіць у прыбудоўку глядзець, як хораша блішчыць золатам на помніку яго прозвішча.

●

Памяць — не літаратура. Яна не церпіць эпапейнасці. Яна ўся — як вашчына з сотаў, — з фрагментаў і эпізодаў.

●

Талент і майстра — паняцці не адэкватныя. Можна мець талент і не быць майстрам, можна быць майстрам, а таленту толькі жадаць. Майстэрства часта — ад высілкаў, ад уседнасці.

●

Ах, якія салодкія былі тыя пацалункі! І ноч тая была надзіва цёплая, з салаўінымі прыспевамі. Гэта былі іх першыя ў жыцці пацалункі. Яны сядзелі пад вокнамі яе хаты на лаўцы і... замiралі ад шчасця. І тут расчыніліся дзверы, і ў цемры мільганулі споднікі яе айчыма і... Чырвоны сорам развёў іх назаўсёды. Яны і сёння саромеюцца той летняй начы.

●

Узыду на горку за роднаю хатай і адразу бачу, як з далечыні праглядваецца двузубец вежаў Рубяжэвіцкага касцёла. Вежамі касцёла размежаваны мой свет на дзве паловы — гарадскую і вясковую. А, можа, пагуляць словам, як гэта часта мной рабілася, і сказаць — не размежаваны, а развежаваны? Так, пэўна, было б і дакладней.

Дзе лепш пачувае сябе душа? Тут, у горадзе, занадта тлумна і шумна, весела і блудна, там жа — больш ціхага, панылага, там — вострае адчуванне чалавечай старасці і безвыходнасці. Гэта — як дзве шалі на вагах лёсу. І не заўсёды яны ўраўнаважаныя.

●

Старую матулю, якая штогод прыязджае зімаваць да дачкі ў горад, дарэмна просяць падмятаць падлогу сучаснейшым пыласмокам.

— Я лепш венічкам, венічкам. Так чысцей, — кажа старая.

Днём, калі ўсе разыходзяцца, хто ў школу, хто на працу, старой робіцца жалосна і пакутліва. Па тэлевізары яна любіць глядзець толькі "Поле цудаў". Часта і кажа:

— Які добры гэны Якубовіч — усё ўсім раздае. І за так. І дарагое.

І ледзь не плача па сваёй вясковай хаце, якую пакінула на цэлую зіму. Гэта ж пакуль яна тут была, малодшы сын, выпівоха, прапіў апошнюю казу. А нядаўна, п'яны, пазваніў сястры:

— Алёна! Маці памерла.

— Зусім ужо мазгі адпіў, —злуецца старэйшая, — яна вунь "Поле цудаў" глядзіць.

●

Калі аднаму з маіх вяскоўцаў хтосьці пахваліўся, што я толькі што выступаў па тэлевізары, той вельмі спакойна прамовіў:

— Цілівізар ёсць цілівізар, трэба ж праз яго нешта паказваць.

●

Яго, памяркоўнага, рахманага, але крыху непастаяннага сем'яніна, папракала маці:

— Хіба табе Гэлькі мала?!

— Не мала, а многа, — адказваў ён. — А на чорта мне многа?!

Гэлька і сапраўды была жанчынай "у некалькі абхватаў, чорт яе пасватаў".

●

У грошай апошнім часам лістападаўскі імпэт. Адлятаюць яны з кішэняў, як лісце з восеньскіх дрэў пры моцным ветры. А рынычны вецер — ён і сапраўды моцны, нават ураганны.

●

Сны часам так настрашаць кашмарамі, што днём ходзіш вельмі ціхім, яшчэ ўсё пад гнётам таго страху: а раптам ды спраўдзіцца.

●

Можа, найбольш за ўсіх здзекуецца з мяне сёння мая дамашняя скрыня, якую завуць тэлевізарам. Я — раб яе. А рабу не дадзена больш анічога, апрача цярпення, пакоры і кары.

●

У ранішнім свежаку, з расою і птушыным перасвістам, раптоўна ў россыпе сонечных промняў згледзеў яркі-яркі, амаль залаты агонь падцёку смалы на даўно не пладаноснай сліве. І так асляпіла вочы гэта бурштынова-бунтоўная яркасць! Шчасце тут толькі ў адным момант, але яго ўжо ніколі не згубяць ні сэрца, ні вочы.

ЛіМ ЧАСАПІС

## Малавядомая дзялянка Янкі Купалы

**Летась у кастрычніку музей Янкі Купалы сумесна з Міністэрствам культуры і Міжнародным фондам Янкі Купалы ладзіў III Міжнародныя Купалаўскія чытанні. Асноўнаю тэмаю стала публіцыстыка класіка 1919—1920 гадоў. Гэта, як сказаў кіраўнік фонду Купалы Вячаслаў Рагойша, "бадай, самая недагледжаная дзялянка на літаратурнай купалаўскай ніве; да апошняга часу многія публіцыстычныя творы песняра, найперш 1919—1920 гадоў увогуле былі недаступныя шырокаму чытачу".**

**Сёння ж варта ўзгадаць чытанні з тае яшчэ нагоды, што нядаўна ўсе матэрыялы іх — даклады, выступленні ў спрэчках, паведамленні — з'явіліся асобнай кнігай. Дапамог выдаць яе МФ "Беларускі кнігазбор". Уклаў зборнік вучоны сакратар музея Я. Купалы паэт Сяргей Панізнік.**

**Першы раздзел "На купалазнаўчай ніве" змясціў паведамленні і даклады. Тэмы іх — самыя разнастайныя: суадносіны публіцыстычных твораў класіка з іншымі відамі мастацтва, выяўленчыя і вобразныя сродкі, погляды Янкі Купалы на беларускую дзяржаўнасць і яе атрыбуты... Закрануты навукоўцамі таксама асэнсаванне нашым класікам праблемаў іншых народаў на пачатку XX ст. (у прыватнасці, украінцаў, сербаў, чарнагорцаў, балгараў), ягоная рэдактарская дзейнасць, а таксама сучаснасць некаторых артыкулаў Прарока Адраджэння (як называюць яго многія), вывучэнне публіцыстычнай спадчыны ў школе і ВНУ. Цікава тое, што, апроч вядомых і маладых мінскіх навукоўцаў, у чытаннях бралі ўдзел даследчыкі Купалавай спадчыны з беларускіх райцэнтраў, з Масквы і Нью-Йорка.**

**Варта дадаць, што ў зборніку ёсць два раздзелы публіцыстычных твораў 1919—1920 гадоў — артыкулы Янкі Купалы і тыя, што яму прыпісваюць.**

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ**

## "Книга и мы" — "Книжный мир"

**Абедзве гэтыя газеты аматары кнігі, канечне ж, добра ведаюць. Як ведаюць і тое, што "Книга и мы" выходзіла з 1995 года, а "Книжный мир" з'явіўся толькі напрыканцы мінулага года. За першым нумарам пабачыла свет яшчэ некалькі. На гэтым яго выхад спыніўся. І вось цяпер "Книжный мир" зноў прыйшоў да чытачоў, аб'яднаўшыся з газетай "Книга и мы". У новага выдання — тры заснавальнікі: Беларуская асацыяцыя кнігараспаўсюджвальнікаў і кнігавыдаўцоў, Мінскае гарадское прадпрыемства "Белсаюздрук" (яно з'яўлялася да гэтага заснавальнікам газеты "Книга и мы") і Таварыства з абмежаванай адказнасцю "Завігар". Як і раней, найпершай задачай газеты з'яўляецца прапаганда кніг, якія выдаюцца ў нашай краіне, а таксама лепшых выданняў СНД, расказ пра творчасць асобных пісьменнікаў, работу выдавецтваў. Адным словам, спектр пытанняў, якія будуць знаходзіцца ў цэнтры ўвагі рэдакцыі і аўтараў, самы шырокі, аб чым, дарэчы, відаць і з назвы газеты. Ды ў гэтым пераканалі і два першыя нумары. А да ўсяго "Книжный мир" будзе распаўсюджвацца не толькі на Беларусі, а і на тэрыторыі СНД.**

## Ідуць раскопкі



**Археалагічныя раскопкі на месцы былога Успенскага сабора ў Віцебску праводзяць старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Вольга Ляўко і мясцовы археолаг Ігар Цішкін. Пакуль удалося аднавіць рэшткі саборнага падмурка ды сабраць шэраг цікавых знаходак XVIII—XIX стагоддзяў.**

*На здымку: рэшткі падмурка Свята-Успенскага сабора.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# Прага вышыні

## ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Аркадзя МАЎЗОНА

1.

У зборніку аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў "Пяцьдзесят чатыры дарогі" (няма ім цаны, гэтым зборнікам пісьменніцкіх самажыццёпісаў, выдадзеных у шасцідзесятыя — сямідзесятыя, — названаму і двум, што выйшлі пазней: "Пра час і пра сябе" і "Вытокі песні"!) Маўзон падаў гісторыю нараджэння свайго славутага "Канстанціна Заслонава". Згадаў, што недзе ў першыя паваенныя месяцы прачытаў пачатковы, напісаны белым вершам варыянт п'есы калектыву роднага — ён доўга працаваў там акцёрам — тэатра імя Якуба Коласа. "Мне было выказана багата пажаданняў, але не было сказана галоўнага — што тэатр гатовы ўзяць п'есу для работы. Улічыўшы ўсе заўвагі, я многа перапісаў і, калі ў канцы 1945 года па нейкіх справах апынуўся ў Мінску, папрасіў Яўгена Сцяпанавіча Рамановіча, які быў тады загадчыкам літаратурнай часткі тэатра імя Янкі Купалы, пазнаёміцца з п'есай... Яўген Рамановіч выклікаў мяне ў Мінск, каб я пазнаёміў з п'есай артыстаў тэатра... Пасля чыткі і суровага абмеркавання п'есу прынялі да пастаноўкі..."

У тыя дні — студзеня ці лютага наступнага, сорак шостага года — я ўпершыню яго і ўбачыў, Аркадзя Маўзона. У сценах адзінага тады пакойчыка рэдакцыі "ЛіМа", падсуседжанага да радыёкамітэта ў двухпавярховіку на Рэвалюцыйнай вуліцы. Перад тым з тыдзень- два чуў гэтае імя ў рэпліках між некаторымі работнікамі і наведнікамі рэдакцыі — шчыра кажучы, не надта зычлівымі. Маўляў, дзівакі купалаўцы! Знайшлі сабе драматурга! Што ён можа наогул напісаць, фігурант з трупы коласаўцаў, які ў красным пісьменстве ніколі нічым сябе не выяўляў? Што ён, пагатоў, можа вартае напісаць пра партызанскую героіку, закулісны баталіст, які не нюхаў пораху?

Калі ён завітаў у рэдакцыю сам — здаецца, да Алеся Кучара, тады намесніка рэдактара "ЛіМа", чалавека ў літаратурным жыцці ўжо бітага, да ўсяго, з драматургічным вопытам, аўтара стаўленых у купалаўскім і коласаўскім тэатрах "Заложнікаў", — ягоная на тыя паўгадзіны-гадзіну павышаная, трошкі дэманстратыўная калючасць, яго фарсіраваны,нібы выйшаў на сцэну, барытон былі відочна перасцярожлівага, прэвентыўнага вытлумачэння. Ад сцятай субтыльнай постаці бязгучна-папераджальна сыходзіла: ведаю, пра мяне тут гаворана і будзе гаворана, ледзь выйду, не самае прыемнае. Але паспрабуй хто вылезці з чым-небудзь гэткім пры мне!..

Праз гады нам наканавана было патаварышаваць, давярацца адзін аднаму ў не самым публічным. Я дастаткова пабачыў, наколькі быў Аркадзь ранімы, схільны да рэфлексіі. Аднак гэтая прэвентыўная калючасць, спавяданне прынцыпу, што лепшы спосаб абароны — наступленне, заставаліся ўласцівасцю яго натуры заўжды.

Яму было, калі мы парукаліся першы раз, дваццаць сем гадоў. На дзесяць гадоў больш, чым мне, першакурсніку універсітэта, узятаму ў рэдакцыю паважанай пісьменніцкай газеты, каб рыхтаваў да друку хранікальную драбязу. І я паглядаў на яго як на шчасліўца, каму пашэнціла схапіць бога за бараду. Пад маім пяром іншы раз талкова не атрымлівалася дзесяцірадковая інфармацыйная заметка. А гэты віцяблянін, прафесійна артыкуляваны барытон якога кожнае слова нібы дасылае са сцэны, напісаў п'есу! Прынятую купалаўскім тэатрам! Дзе за гонар лічылі быць пастаўленымі Крапіва, Бядуля, Чорны!..

2.

З паўгода назад усё, што завірыла ў той далёкасці ў сувязі з Маўзонавым "Канстанцінам Заслонавым", абудзілася ў маёй памяці з нечаканай прычыны. Часты ў маскоўскіх каналах тэлебачання мастацтвазнаўца Глеб Скараходаў, майстравіты вядучы экранных расповедаў пра зорак тэатра і кіно з даўняга і не так даўняга мінулага, вёў перадачу пра Саламона Міхоэлса. З нагоды пяцідзесятых угодкаў забойства выдатнага дзеяча яўрэйскай культуры. Забойства, учыненага ў Мінску чарнаслынным лубянкаўскім ведамствам па загадзе Сталіна.

Перадачы Скараходава мне ўвогуле падабаюцца, я гляджу іх з цікавасцю. Ды тым разам гэты гжэчны масквіч абурыў мяне безадказнасцю. Пра акалічнасці здзяйснення ганебнай акцыі, пра стасункі Міхоэлса ў гадзіны перад расправай з ім была наплецена лухта. Сцвярджаю гэта як чалавек, што бачыў забітага за два дні да страшнага, як літаратар, што звяртаўся да таго змрочнага сюжэта.

Маўзон жа і "Канстанцін Заслонаў" успомніліся таму, што прыехаў Міхоэлс у Мінск, пасланы быў сюды афіцыйна з пачэснай місіяй. Як член урадавага камітэта па Сталінскіх прэміях павінен быў пaглядзець вылучаныя на атрыманне гэтай прэміі два спектаклі мінскіх тэатраў — "Алесю" Цікоцкага ў оперным і "Канстанціна Заслонава". Такая ў апошняга адбылася за год з невялікім хвосцікам разбежка: ад кепікаў з саманадзейнага "закуліснага баталіста" да вылучэння створанага на аснове ім напісанага на самавышняе ў краіне прэміяванне. Вылучэння справядлівага: у тэатры — першаадкрывальніку п'есы з першага ж паказу "Канстанцін Заслонаў" стаў сенсацыяй. Тэлеасветнік Скараходаў выявіў абсалютную недасведчанасць у тым, чаго кранууся, калі ў той прысвечанай Міхоэлсу перадачы з усмешачкай зазначыў, што, маўляў, і спектакль, дзеля якога Саламона Міхайлавіча выправілі ў Мінск — меўся на ўвазе, я зразумеў, "Канстанцін Заслонаў", — не быў з'явай, вартай прыезду ганаровага гледача: пратрымаўся ў рэпертуары вельмі нядоўга. Гэта сказана было пра спектакль, які жыў гады і гады. Пра спектакль, што дагэтуль лічыцца адным з вяршынных у гісторыі беларускага тэатральнага мастацтва. Пра спектакль — легенду. Як было, пачуўшы такое, не абурыцца!

У безлічы артыкулаў, у навуковых даследаваннях, у мностве мемуараў узнаўляецца атмасфера трыумфу купалаўскага "Заслонава" ў вечар яго прэм'еры 9 мая 1947 года. Трэба памятаць, тое было ў дзень толькі другой гадавіны заканчэння Айчыннай вайны. Ці не адзінае з савецкіх святаў сапраўды святое для ўсіх пластоў грамадства — свята Перамогі адзначалася толькі трэці раз. Людзі, апаленыя агнём змагання з фашысцкай навалай — франтавікі, партызаны, — не былі яшчэ, як цяпер, белагаловымі дзядамі і бабулямі, знядужанымі хворасцямі і беспрасветнасцю побытавых нястач. Былі акрыленымі пераможцамі, поўнымі сіл і надзей на будучыню. І паколькі да шырокага тады ў краіне агульнага настрою (эйфарыйна верылася: адолеўшы наймагутнага ворага, адолеем усё!) дадалася канкрэтная акалічнасць, што глядзельную залу запоўнілі ў той вечар пераважна яны, нядаўнія партызаны і франтавікі, — свята ж Перамогі найперш іхняе! — то пафасна-гераічная мелодыка падзей на сцэне адгукалася ўсхваляваным падхватам у звінючай залавай цішыні. Салісткай-сцэнай і хорам-залай нібы спяваўся ў адзіным пачуцці высокі харал. А калі з вуліцы, з-за сцен будынка пачуліся грымоты салюту — працягвалася ж 9 мая! — артылерыйскія залпы прагучалі як бы лагічным завяршэннем таго, што ў тэатры адбылося.

У рэдакцыі "ЛіМа" назаўтра толькі і было гаворкі, што пра Маўзонаву прэм'еру. Усе, хто бачыў яе, былі аднадушныя: нарадзілася ў купалаўцаў яркае, выбітнае, хвалюючае відовішча. Вырашана было, што ацаніць яго адной, няхай вельмі ўхвальнай рэцэнзіяй недастаткова. Запланавалі ў бліжэйшы ж нумар газеты цэлую старонку водгукаў гледачоў, — ды старонку не цяперашняга, а тадышняга лімаўскага, удвая за цяперашні большага фармату. Цэнтральнае месца на старонцы заняў узнёслы артыкул Пімена Панчанкі. Можа, я памыляюся, іншых фактаў не ведаючы, але ці не адзіны гэта выпадак выступлення выдатнага паэта ў іпастасі тэатральнага крытыка? Маім укладам у старонку было тое, што, як кажуць газетчыкі, "арганізаваў" для яе нататку універсітэцкага аднакурсніка, у вайну партызана-заслонаўца Мікалая Крукоўскага — сёння віднага беларускага філосафа.

Зразумела, ахвочыя мусіраваць тэму, што "закулісны баталіст" узяўся не за сваё, паплыціхлі. У смялякі атрымалася, адмовіць то было цяжка. Мастацтва наравіста пацвердзіла, што яму больш люба алагічнае, чым лагічнае. Закрывагубілася іншае. Што п'есу ў дадзеным выпадку падвоблачна ўзняў тэатр, сама ж па сабе яна тварэнне трэцегатунковае. Быццам гэта не доказ закладзенага ў драматычным творы багацця — тое, што, абапіраючыся на яго, тэатр можа дасягнуць паднебнай вышыні. Быццам гэта наогул магчыма — на трэцегатунковай літаратурнай аснове паставіць спектакль магутнага дыхання.

Працуючы ў літаратурна-драматычнай рэдакцыі рэспубліканскага радыё, я на сыходзе васьмідзесятых неяк праслухаў гуказапіс даўняга "Заслонава" купалаўцаў. Неяк тады ж п'есу перачытаў. Мушу прызнаць: сёння яна, безумоўна, моцнага, як раней, уражання не робіць. Задужа неадрыўная ад часу, у які нарадзілася. Была б прычына толькі ў асобных рэпліках ці калізіях, што цяпер успрымаюцца не так, як успрымаліся пад канец саракавых — на пачатку пяцідзесятых, ад іх пры жаданні зноў даць п'есе сцэнічнае жыццё няцяжка было б адмовіцца. Як адмовіліся аўтар і тэатр калісьці ад самапершага варыянту фіналу гэтага спектакля, пры якім як deus ex machina — "бог з машыны" — на сцэне аб'яўляўся імпазантны Рахленка ў абліччы Сталіна. Ды прычына глыбейшая: п'еса не "прарастае" ў сённяшнюю нашу яву чым-небудзь "вечназялёным". "Заслонаў" у скарбніцы беларускай драматургіі — таленавіты сцэнічны плакат паваеннага дзесяцігоддзя. Мабыць, самы таленавіты. Але самой плакатавай прыроднасцю неадчэпна прывязаны да перыяду, у які з'явіўся.

Гаворачы гэта, не прыніжаю ні значнасці п'есы, ні шчаслівай яркасці ўваходу Маўзона ў літаратуру. Тады інтанацыя "Заслонава" была вельмі блізкай людзям, што запаўнялі глядзельныя залы. У хуткім часе пасля рэзанансу ад яе мінскага ўвасаблення п'есу найшырока зайгралі тэатры на прасцягу ад Брэста да Уладзівастока — ці часта драматургі так дэбютуюць? У Маскве яе паставіў неліквідаваны тады яшчэ (будзе разагнаны як "не наш" гадам пазней) Камерны тэатр вядомага на ўвесь свет Таірава, — ці не знак гэта прызнання вартасцей п'есы самымі высокімі для творчай інтэлігенцыі аўтарытэтамі? П'еса пайшла і завыдавалася за мяжой, была экранізавана — сцэнарый фільма напісаў сам Маўзон, цэнтральную ролю выканаў найпапулярны тады кінагерой Уладзімір Дружнікаў. Зайздросны, іншага не скажаш, у п'есы лёс!

...Не па носе аўтара зайздросны, вырашана было ў інстанцыях, дзе такія рэчы вырашаліся.

Калі спектакль купалаўцаў "Канстанцін Заслонаў" Сталінскую прэмію такі атрымаў, у спіс прэміяваных трапілі пастаноўшчык Канстанцін Саннікаў, артысты Барыс Платонаў, Глеб Глебаў, Уладзімір Дзядзюшка, Ірына Ждановіч — аўтар п'есы не трапіў, хоць вылучаны быў таксама.

Калі Сталінскай прэміяй адзначаны быў і фільм "Канстанцін Заслонаў", сітуацыя паўтарылася: аўтара сцэнарыя не прэміявалі.

Перажываў Аркадзь? Яшчэ як! Але на людзях з таго пасмейваўся. Па аналогіі з тым, што абласканыя афіцыйнай увагай дзеячы атэставаліся, бывала, "двойчы ардэнаносцамі", "тройчы лаўрэатамі" і да т.п., пачаў называць сябе "двойчы НЕлаўрэатам Сталінскай прэміі".

3.

Колькі помню з паваенных гадоў пісьменніцкія сходы, пленумы, з'езды, а таксама нарады па лініі Міністэрства культуры, на якія запрашаліся пісьменнікі, там вечна наракалася на адставанне драматургіі. І пішуць, маўляў, беларускія драматургі мала. І драбнатэмныя прапануюць тэатрам опусы — няма ў іх станоўчага героя, роўнага Паўлу Карчагіну ці шолахаўскаму Давыдаву. І крытыканствам-насміханствам злоўжываюць, хоць венгерскія ды чэхаславацкія падзеі ўга якім урокам, да чаго такое ачарненне прыводзіць.

Раздумваючы ж цяпер над зробленым драматургам Маўзонам за пражыты ім не мафусаілаў век, аднаўляючы ў памяці прэм'еры, у часе якіх пасля закрыцця заслоны меў права, віншуючы, падысці да аўтара як добры знаёмы, — каму паціснуць руку, каго абняць, — бачу, не такой і беднай выступае беларуская драматургія з прытуманеных ужо пяцідзесятых, шасцідзесятых, сямідзесятых. Яшчэ ў поўнай творчай моцы патрыярх Крапіва, пяром жар-птушкі ў руках можа пахваліцца Макаёнак, п'еса за п'есай выходзіць з-пад пяра ўжо мацёрага драматургічнага ваўка Маўзона, цікава працуе Дзялендзік, таленавітым камедыёграфам выяўляе сябе Матукоўскі — колькі трэба Львоў Талстых на Тульскую губерню?

Прадчуваю пярэчанне. А што, маўляў ад тадышняга нябеднага, як лічыце, драматургічнага ўраджаю дажыло да нашых дзён? Пра большае — пра вечнасць — не гаворачы?

Літаратура, адказваю, і драматургія перадусім жывяцца праблемамі не толькі адвечнымі, аднолькава надзённымі і ў эру Сафокла, і ў зорную пару Аляксея Дударава. Ёсць болі, для аднаго пакалення найвострыя, наступным жа адчувальныя за іншымі мітрэнгамі не дужа. Але мастак, у нашым выпадку драматург, які належыць часам з'яўлення на свет да першага, з тым болем пакалення, адчуваючы яго нават вастрэй за іншых суайчыннікаў — у пісьменніка, сапраўднага, вядома, пісьменніка, так званы болевы парог асабліва нізкі, — ці можа, скажам так, наступіць сваёй песні на горла, калі ва ўяўленні закручваецца выніклая з гэтага болю фабула? Бо не векавая, не ўсяленскага маштабу адбіваецца ёю праблема? Помніцца, Аляксандру Гельману было зададзена журналістамі пытанне: вашы п'есы шырока ідуць па тэатрах таму, што ў іх крута гаворыцца пра дурату гаспадарчых парадкаў у дзяржаве. Выправіць парадкі — значыць п'есы забіць, зрабіць іх тэатрам непатрэбнымі. Не палохае вас такая перспектыва? Драматург адказаў: няхай мае п'есы памруць, толькі б не стала злачыннай дураты.

*(Працяг на стар. 15)*

ВЫСТАВЫ

***Здаецца мне, што знакамітая суполка "Пагоня" зараз існуе не проста ў рытме пошуку, — яна на пэўным раздарожжы, якое можа прывесці да змянення іміджу. Падставу гаварыць гэтак дае нядаўняя выстава суполкі ў Палацы мастацтваў, дзе палітычная акцыя натуральна саступіла месца выяўленчаму мастацтву.***

# "Пагоня" ў рытме пошуку

Невялікая даведка: суполка "Пагоня" была арганізавана сябрамі-мастакамі на пачатку 90-х. Яна аб'яднала нацыянальна свядомых творцаў, што спавядалі ідэі адраджэння. Суполка ад пачатку існуе як структурная адзінка Саюза мастакоў, яе сябры ўваходзяць у шэрагі саюза. Праўда, таксама ад пачатку суполка не знайшла сумяшчэння і не прыжылася ў Саюзе мастакоў. Найбольшага размаху канфлікт дасягнуў сёлета ў сакавіку, калі суполка мелася ладзіць ужо традыцыйную штогадовую выставу, прысвечаную 80-м угодкам БНР. Зала Палаца мастацтваў нечакана аказалася занятай, бо Міністэрства культуры прапанавала чамусьці менавіта ў гэтыя два тыдні правесці там выставу, прысвечаную Палессю, а Саюз мастакоў мусіў практычна "падтрымаць" гэтую прапанову. Алесь Марачкін, нязменны кіраўнік і ідэолаг суполкі, называе гэту з'яву працэй — чыноўніцкім свавольствам, якое за апошнія гады гэтак яўна праявілася на Беларусі. Ну, а чыноўнікам можа быць і клерк міністэрства, і сябрамастак, які падняўся да нейкага "крэсла" і можа паводзіць сябе тыпова па-чыноўніцку.

Усё ж акцыя "Пагоні" адбылася: творы былі выстаўлены ў Гародні і ў Мінску — у сталічным касцёле святых Сымона і Алены і ў штаб-кватэры БНФ. Пасля выстава адкрылася ў Брусэлі, ініцыяваная грамадскім дэмакратычным рухам "Хартыя-97". Натуральна, яна, як і ўсе былыя да таго выставы суполкі, мела нонканфармісцкую палітычную афарбоўку, якую перадусім надало ёй палатно пад сівалічнай назваю "Сцяна". У ім гэтым разам маэстра А. Марачкін адлюстраваў тыя сімвалы, што паказваюць дэмакратычную сітуацыю на Беларусі. Гэтага хапіла, каб выстава мела поспех у суайчыннікаў-эмігрантаў, бельгійскай інтэлігенцыі, дэпутатаў Еўрапарламента, што выявілася, па словах А. Марачкіна, у заяве пратэсту супраць неабгрунтаваных рэпрэсій на Беларусі.

Увогуле, кожная выстава суполкі, асабліва апошніх гадоў, суправаджалася выказваннем адносінаў да сітуацыі ў краіне. Кожны раз чакаліся "рэпрэсіі" (закрыццё экспазіцыі, напрыклад), і, натуральна, канфліктаў хапала. Мела сэнс прыйсці на адкрыццё выставы, таму што самую вызначальную частку экспазіцыі — сумесную інсталяцыю ці перформенс — наступным днём можна было й не ўбачыць. Здымаліся і некаторыя работы сяброў суполкі (напрыклад, карыкатуры А. Карповіча, іншыя творы, у якіх выяўлялася супрацьстаянне ўладзе). Мы былі сведкамі пустых месцаў у экспазіцыі, пакінутых спецыяльна — як напамін ціску на суполку. Калажы, чырвоныя зоркі, калючы дрот, нават вышка часоў ГУЛАГа — гэта малая частка таго, што нарадзіла сумесная творчасць мастакоў і мастацтвазнаўцаў. Таму і адкрыцці выстаў "Пагоні" былі такія шматлюдныя. Зрэшты, прыйсці на адкрыццё стала з пэўнага моманту — для чалавека, што мае хоць нейкую пасаду — грамадзянскай смеласцю.

Сама ж па сабе экспазіцыя пачынала праяўляцца пазней, калі аціхалі страсці, калі "змякчаліся" некаторыя моманты самімі мастакамі, а нешта "здымалася" Міністэрствам культуры. Дарэчы, дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што здымаліся не толькі лепшыя, а часам і сярэднія творы, якія адыгрывалі ролю "лішняга кадра" — няўлоўна прыцягваць увагу да палітычных момантаў. Усё гэта перашкаджала ўспрымаць выставу як з'яву мастацтва. Займала ж выстава звычайна цалкам другі паверх Палаца мастацтваў, тым не менш работы сяброў суполкі месціліся даволі шчыльна. Вось тут і пачыналіся асноўныя мастацкія неспадзяванкі. Выстава магла атрымацца як цэльная экспазіцыя, магла і не атрымацца, і гэта выяўлялася толькі пасля ўціхамірвання перформенснага буму. Перашкаджала згаданая перагружанасць работамі. Павешаныя літаральна адна да адной, яны не гучалі самастойна як асобныя творы, а недастатковы крытычны адбор не спрыяў ім "зліцца" ў цэласную экспазіцыю. Сяброў суполкі — нямала, яны маюць розны ўзрост, розныя творчыя накірункі і, галоўнае, розную планку прафесійнасці. Менавіта апошняе замінала ствараць цікавыя экспазіцыі рэспубліканскіх выстаў усяму Саюзу мастакоў, бо крытэрыі адбору там дазвалялі выстаўляць і слабыя работы тых, хто па нейкіх параметрах лічыўся "сваім". "Пагоня" таксама хварэла на тое, забываючы, што творы высокапрафесійныя побач са слабейшымі прайграюць і трацяць сваё прыгожае гучанне. Вядома, цяжка адмаўляць сябрам, тым больш, што ўвогуле мастакі — народ амбіцыйны і крыўдлівы. Але гэта — адзіны шлях дамагчыся цэльнасці і цікавасці экспазіцыі, і апошнія выставы Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва і суполкі "Пагоня" гэта пацвердзілі.

Апошняя выстава суполкі адбылася. Адбылася як мастацкая з'ява і прытым з'ява нетрадыцыйная для "Пагоні". Яна была прысвечана двум пленэрам Язэпа Драздовіча, работы з якіх па сутнасці так нідзе і не былі паказаны цалкам, а атксама памяці мастака Аляксея Пятрухны. Менавіта яго работы, выстаўленыя за пятнаццаць год пасля яго смерці ўпершыню, занялі большую частку залы. Аляксей Пятрухна асабіста сябраваў з А. Марачкіным і В. Маркаўцом. Ён пэўны час падзяляў з імі адну майстэрню на вуліцы Дзімітрава, блізка быў знаёмы з Бойкам, Басавым, Красоўскім... Ён скончыў мастацкую вучэльню ў Л. Шчамялёва, студэнтам тэатральна-мастацкага інстытута так і не стаў, хоць спрабаваў паступіць некалькі разоў. Але затое працаваў шмат, стаў сябрам Саюза мастакоў Беларусі, што ўжо само па сабе па тым часе было прызнаннем яго як прафесіянала. Сябры і мастацтвазнаўцы называюць А.Пятрухну нонканфармістам 70—80-х гадоў. Як мастак, ён не ўпісваўся ў афіцыйнае кола, таму ў зборы Нацыянальнага мастацкага музея зараз толькі адна яго работа. Нельга сказаць, што ён не "прадаваўся" ўвогуле (з гэтага мастак жыў), дырэкцыя мастацкіх выстаў час не абыходзіла яго ўвагаю, але дзе творы зараз, у якім абласным ці раённым цэнтры, — невядома. На бяду, пакутаваў ён вечнай хваробаю інтэлігентаў і творцаў — запоямі. Магчыма, гэта яго ўрэшце і згубіла: памёр ён у росквіце сіл, у 45 гадоў. Работы збярагліся ў жонкі — кампазітаркі Людмілы Шлег, у Анатоля Белага, які на выставу даў больш за сто Аляксеевых работ, у А. Марачкіна і М. Купавы, якія падтрымлівалі мастака да апошніх дзён жыцця. В. Маркавец называў Аляксея мастаком, які апярэдзіў час і ўпісваецца ў сённяшняе мастацтва, як сучаснік. Па ўспамінах, гэта быў вясёлы і кампанейскі чалавек, і пра гэта красамоўна сведчыць колькасць работ (120 — графікі і 80 — жывапісу), якія сябры вывесілі ў зале. На жаль, становішча "белай вароны" не пускала яго на старонкі прэсы — Аляксей жартаваў, што ён заўжды ходзіць у радку "і іншыя". І сёння лепшы помнік Аляксею Пятрухну — выстава яго работ, яго другое нараджэнне для многіх і многіх гледачоў. Таму гэтак удала глядзіцца інсталяцыя з чыстымі палотнамі, зламаным пэндзлем, партрэтам мастака і датамі жыцця (1939— 6.02.1984) — лаканічна, гарманічна, узвышана, як рэквіем.

Другая частка выставы — творы, прысвечаныя 110-м угодкам з дня нараджэння Язэпа Драздовіча. Яна не супярэчыць выставе памяці Пятрухны. Абодвух мастакоў мы нібы наноў адкрылі для сябе ўжо пасля іх смерці. Гэта — не параўнанне талентаў, гэта проста канстатацыя фактаў, характэрная паралель.

Экспазіцыя, прысвечаная Я. Драздовічу, — работы з двух арганізаваных суполкаю "Пагоня" пленэраў на радзіме мастака, работы іншых сяброў суполкі заяўленай тэматыкі, эмоцыі ад вандровак, аповед пра выдатнага майстра, незаслужана забытага на радзіме. На жаль, дасюль не выйшаў з-за адсутнасці грошай гэтак неабходны беларускай культуры альбом твораў Я. Драздовіча. А пленэры ягоныя прайшлі неяк неафіцыйна і нягучна, нібыта проста сабралася кола сяброў, павандравала, нешта памалявала ды і раз'ехалася. Ва ўсякім разе, дзейснай падтрымкі Міністэрства культуры (ну хаця б транспартам) суполка не дачакалася. Першы пленэр Я. Драздовіча адбыўся 15—25 верасня 1996 года, другі — сёлета, 4—8 жніўня. Мастакі праехаліся па драздовічаўскіх мясцінах — наведалі Глыбокае, Полацк, Празарокі, Пунькі, Германавічы, возера Качаноўскае. Удзельнічалі ў пленэры не толькі мінскія творцы, актыўныя сябры суполкі М. Купава, Г. Горава, А. і І. Марачкіны, А. Родзін, В. Сташчанок, У. Сулкоўскі, А. Шатэрнік, але і М. Ляўковіч з Віцебска, В. Шчасны з Верхнядзвінска, В. Крук з Шаркоўшчыны. Да арганізацыі пленэру прычыніліся Культурна-асветнае таварыства імя Я. Драздовіча ў Германавічах і Віцебскі фонд імя Сапегі (В. Баршчэўскі).

Экспазіцыя — глядзелася. Яна ўвогуле спадабалася. І не толькі таму, што ў цэнтры яе была кампазіцыя з сапраўдных твораў дзядзькі Язэпа (са збору А. Марачкіна). Работы адбіраліся непасрэдна А. Марачкіным, таму яна атрымалася досыць роўнай, разнастайнай па выяўленчых магчымасцях і, галоўнае, цікавай не палітычным, а мастацкім аспектам. "Пагоня", зрэшты, паказала, што для яе галоўным можа быць менавіта мастацтва, а прамалінейная і палітызаваная беларускасць без школы саступіць ёй месца. Бо з'ява палітычная — заўжды часовая. А мастацтва — вечнае.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

*Фота К. ДРОБАВА*



*"Партрэт Я. Драздовіча", Р. Сітніца*



*"Памятны камень на шляху Я. Драздовіча", В. Маркавец*



*"Аўтапартрэт", А. Пятрухна*



*"Сон", А. Пятрухна*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Прысвечаны Сербіі

**Выйшаў з друку чарговы — шосты — нумар часопіса "Праваслаўе". Гэтым разам ён цалкам прысвечаны Сербскай праваслаўнай царкве. На старонках часопіса святыя айцы дзеляцца сваімі думкамі наконт актуальных пытанняў сучаснасці. "Пасля таго, што з намі адбывалася ў гэтым стагоддзі, асабліва ў апошнія пяцьдзесят гадоў, мы зноў знаходзімся на жахлівым раздарожжы. Раздарожжы, падобным да таго, якое зведаў вялікамучанік Лазар, калі быў пастаўлены перад выбарам — за якое Царства вызначыцца", — піша мітрапаліт Чарнагорска-Прыморскі і Скендарыйскі доктар Амфілохіе. Рэлігійныя публіцысты разважаюць на тэму сучаснага стану праваслаўя, духоўнасці славянскіх народаў. Каб знайсці сваё месца ў жыцці, трэба звярнуцца да ўласных вытокаў. Чарнагорскі мітрапаліт выступае за абнаўленне духоўнага свету чалавека. А для гэтага "ў новыя мяхі навукова-тэхнічнай заходняй цывілізацыі, як выключнага практычнага ўздыму не толькі сучаснага чалавецтва", патрэбна ўліць "новае віно *міжземнаморскага еўрапейства*". Міжземнаморскае еўрапейства процiспаўстаўляецца індывідуалісцка-утылітарнаму (буржуазнаму) і калетывісцка-утылітарнаму (буржуазнаму) і калектывісцка-статкаваму (сацыялістычнаму).**

**Заўсёды ў славянства быў свой шлях. Гісторыя сербскага народа — гэта драматычная гісторыя. "Апошнія 800 гадоў уяўляюць для сербаў бяспрыкладную эпапею крышталізацыі характару асобы і нацыі, эпапею працы, барацьбы, пакут і славы. Усё ў знаку крыжа і свабоды". Але ўсё ў гэтым свеце мае свой боскі сэнс. Ад меркаванняў пра долю народа рэлігійныя дзеячы пераходзяць да разважанняў пра чалавека. Архімандрыт Юсцін адзначае, што "чалавекам існуе, чалавекам дыхае, чалавекам хваліцца дух нашага часу; чалавекам, а не Богачалавекам. У гэтым аснова трагізму нашага, і толькі ў гэтым". Знікае дух вечнасці, аблічча Божае ў чалавеку.**

**Шосты нумар змяшчае, акрамя раздзелаў "Рэлігійная думка", "Багаслоўская спадчына", наступныя рубрыкі: "Праваслаўная публіцыстыка", "Жыццё епархій", "Мастацкае слова", "Малітваслоўе", "Дакументы", "Гісторыя і сучаснасць". У часопісе надрукаваны вершы сербскіх паэтаў Дэсанкі Максімовіч, Добрыцы Эрыч, Мiларада Джурыча ды іншых. Акрамя звестак з гісторыі Сербскай праваслаўнай царквы, змяшчаецца інфармацыя аб сербскіх манастырах.**

**Укладальнікам нумара з'яўляецца вядомы перакладчык з сербскай, доктар філалагічных навук Іван Чарота. Часопіс можа быць цікавым для студэнтаў, навукоўцаў і ўвогуле для ўсіх, хто цікавіцца славянскай культурай.**

**Таццяна КАЎРЫГІНА**

## На любы густ

**Ева Андрэеўна Шаршнёва з вёскі Шырокае Буда-Кашалёўскага раёна яшчэ з маладых гадоў навучылася правілам вышывання ручнікоў-набожнікаў, якімі ўпрыгожваюць іконы. Любы стол ўпрыгожаць і сурвэткі, вышытыя яе рукамі.**

**Фота Сяргей ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА**

НОВАЕ

# Аб'яднаны шлях

Старажытныя былі ўсё ж мудрымі. Сапраўды, нельга двойчы зайсці ў адну і тую ж раку — жыццё, нягледзячы на ўсе застойныя тэндэнцыі, на ўсе высілкі старых сіл вярнуць Савецкі Саюз, не стаіць на месцы. Сёння побач з дзяржаўнымі ўстановамі, прадпрыемствамі, арганізацыямі існуе мноства недзяржаўных, некамерцыйных аб'яднанняў і фондаў. Як у свеце, гэтак і ў нас. Усюдыісная статыстыка сведчыць, што ў свеце на сённяшні дзень існуюць не толькі пяць з паловай мільярдаў асобных індывідаў-чалавекаў, але і 200 нацыянальна-дзяржаўных утварэнняў, 4 мільёны таварыстваў, 20 мільёнаў эканамічных арганізацый і сотні мільёнаў фармальных і нефармальных груп, незалежна ад таго, ці гэта звычайная сям'я, царкоўная абшчына, таварыства аматараў сабак і катоў, альбо, урэшце, двое закаханых...

У нашай краіне, якую мы па ранейшай звычцы часцей завём усё той жа рэспублікай ("саюз непарушны рэспублік свабодных"!), розных фондаў, арганізацый, таварыстваў, аб'яднанняў налічваецца, ужо больш чым тры тысячы. Гэта, зноў жа, на сённяшні дзень. А з кожным днём з'яўляюцца — узнікаюць і рэгіструюцца — новыя. Многія з іх даўно ўжо на слыху: Беларускі народны фронт "Адраджэнне", Беларускі фонд культуры, Беларускі фонд міру, Беларускі дзіцячы фонд... Набылі свой голас і многія іншыя ўтварэнні. Дастаткова згадаць такія з іх, як Асацыяцыя інвалідаў вайны ў Афганістане, Асацыяцыя бацькоў дзяцей-інвалідаў, Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля", Беларускі Хельсінкскі камітэт, нядаўна створаныя Міжнародныя фонды Янкі Купалы і Якуба Коласа — пералічваць іх, бадай, няма пільнай патрэбы, ды й цяжка, бо іх, паўторымся, вельмі і вельмі шмат.

Дзеля чаго людзі гуртуюцца, аб'ядноўваюцца? Найперш дзеля таго, каб прыўносіць у жыццё тыя ці іншыя змены. Як у жыццё грамадства наогул, так і ў жыццё асобных пластоў ці груп насельніцтва. Грамадскія арганізацыі валодаюць патэнцыялам змяніць жыццё на аснове агульных інтарэсаў дзеля сумеснай рэалізацыі грамадзянскіх, эканамічных, сацыяльных, культурных правоў.

Каб стварыць грамадскае аб'яднанне, трэба ведаць асноўныя нарматыўныя акты, якія рэгулююць іх утварэнне і дзейнасць. На жаль, многія з нас у гэтых справах не надта дасведчаныя. Ды сёння гэта не бяда. Сёння кожны можа звярнуцца па дапамогу ў Беларускую рэспубліканскую грамадскую арганізацыю "Аб'яднаны шлях" ("United way"), своеасаблівы Цэнтр развіцця грамадскіх арганізацый. У склад праўлення "Аб'яднанага шляху" ўваходзяць такія паважаныя асобы, як дырэктар (з нямецкага боку) Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра доктар Клаўс Баер, юрыст-кансультант юрыдычнай фірмы "Бараўцоў і Салей" Аляксандр Бацян, старшыня праўлення фірмы "Паліфакт" Яўген Будзінас, генеральны дырэктар фірмы "Кока-кола Амаціл Беларусь" Уорэн Грэўмеер, юрыст Ірына Карамышава, галоўны рэдактар газеты "Вячэрні Мінск" Сяргей Сверкуноў, дырэктар ААА "Інтэрнэшнл Хаўс Мінск" Уладзімір Фурс, віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра Карлас Шэрман...

Распавядае выканаўчы дырэктар "Аб'яднанага шляху" Алена Кузьмініч:

— Наша арганізацыя была створана на пачатку 1995 года. Асноўная статутная мэта "Аб'яднанага шляху" — садзейнічанне развіццю моцнага дабрачыннага сектара грамадскіх арганізацый на Беларусі. Дзеля гэтага мы й стварылі Цэнтр развіцця некамерцыйных грамадскіх арганізацый. І вось ужо цягам трох гадоў прапануем тэхнічную, кансультацыйную, інфармацыйную падтрымку грамадскім утварэнням. Перш-наперш мы стварылі базу дадзеных грамадскіх арганізацый Беларусі. Вынікам гэтай працы сталі два выданні "Даведніка беларускіх грамадскіх аб'яднанняў" — выйшлі яны летась і сёлета. Збіраем мы таксама інфармацыю пра фонды і арганізацыі, якія могуць аказаць новым грамадскім аб'яднанням фінансавую ці тэхнічную падтрымку, бо апошнія напачатку якраз і заклапочаны найперш тым, дзе знайсці сродкі і партнёраў для рэалізацыі сваіх праектаў.

У нашым інфармацыйным блоку можна знайсці нямала публікацый з парадамі і рэкамендацыямі адносна менеджменту ў некамерцыйных арганізацыях. Для Беларусі гэта яшчэ не вельмі звыклая справа, аднак жа асвойваць яе трэба, і мы вучымся самі і вучым іншых. Да паслуг нашых кліентаў — шматлікія выданні, якія выпускаюць не толькі грамадскія арганізацыі Беларусі, але і Расіі, Украіны, Польшчы, Чэхіі, многіх іншых краін.

А што да кансультацыйнай службы, дык у нас працуе юрыст, які заўсёды дапаможа энтузіястам на этапе рэгістрацыі новага грамадскага аб'яднання, а пазней дасць парады і па пытаннях падаткаабкладання, працоўных адносін, складання кантрактаў, заключэння дагавораў і інш. Усе гэтыя паслугі грамадскім арганізацыям мы аказваем бясплатна.

Не стрымліваюся пасля гэтых слоў, каб не запытаць спадарыню Алену пра сродкі, якія даюць цэнтру ажыццяўляць сваю дзейнасць.

— Сакрэтаў мы не робім, — адказвае мая субяседніца. — Асноўнае наша фінансаванне на працягу трох гадоў — гэта падтрымка нас фондам "Еўразія" і амерыканскім дабрачынным фондам Чарльза Сцюарта Мота. Пэўны час, пакуль можна было, мы карысталіся таксама падтрымкай Фонду Сораса. Зрэшты, жывём мы ашчадна, штатных супрацоўнікаў усяго чацвёра і трое паўставачнікаў. Без падтрымкі добраахвотнікаў, так званых валанцёраў з розных арганізацый, аб'яднанняў і груп мы, вядома, не здолелі б зрабіць усяго таго, што зрабілі і робім.

— Спадарыня Алена, а што яшчэ вы рабілі і робіце?

— А яшчэ праводзім семінары і "круглыя сталы", на якія запрашаем не толькі актывістаў грамадскіх арганізацый, але і прадстаўнікоў дзяржаўных органаў і ўстаноў, асабліва па пытаннях падаткаабкладання, справаводства, ліцэнзавання. Запрашаем на такія імпрэзы нашых расійскіх, украінскіх, славацкіх, польскіх партнёраў, каб пазнаёміцца з іхнім вопытам, як лепш сплanаваць дзейнасць, распрацаваць стратэгію развіцця грамадскай арганізацыі. Вопыт гэты надзвычай карысны, бо, нягледзячы на адрознасць, у дзейнасці грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў розных краін шмат агульнага.

— Спадарыня Алена, як я паспела заўважыць, у вас тут неблагая тэхнічная база. І за ўсімі камп'ютэрамі працуюць людзі. Хто яны?

— Ґэта прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Яны на нашай тэхніцы маюць магчымасць набраць і раздрукаваць свае тэксты, матэрыялы. У нас створаны спецыяльны камп'ютэрны клас, дзе нашы кліенты могуць асвоіць камп'ютэрную тэхніку. Мы таксама выдаём невялікі інфармацыйны бюлетэнь, які рассылаем па грамадскіх арганізацыях. У ім распавядаем і пра сваю дзейнасць, і пра дзейнасць розных грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў, паведамляем аб праграмах конкурсаў, семінараў, канферэнцый, якія абвяшчаюць і праводзяць самыя розныя грамадскія ўтварэнні.

— Выбачайце, але хацелася б даведацца, якія канкрэтна арганізацыі звярталіся да вас у пошуку падтрымкі і дапамогі. Якія практычныя, так бы мовіць, вынікі вашай працы?

— Звярталіся да нас многія арганізацыі, якія толькі-толькі пачыналі сваю працу. Назаву, напрыклад, такія, якія сёння досыць вядомыя ў краіне, — Беларускі саюз сацыяльных педагогаў, Асацыяцыя абароны правоў бацькоў, многія жаночыя і маладзёжныя арганізацыі. Яны і сёння звяртаюцца да нас па тых ці іншых юрыдычных, бухгалтарскіх пытаннях. Мы плануем стварыць пробны кансультацыйны пункт, у ім будзе працаваць наш аўдытар, які дапаможа ў вырашэнні розных пытанняў, бо нарматыўнай дэталёвай базы для грамадскіх арганізацый не існуе, і даводзіцца звяртацца да дзяржаўных служачых, якія не заўсёды ўяўляюць і разумеюць іх спецыфіку і "кроіць" усё на дзяржаўны манер ці на манер якога-небудзь ТАА, не ўлічваючы, што гэта некамерцыйная, недзяржаўная арганізацыя. Ёсць нямала пытанняў і па заканадаўстве, якое не робіць розніцы паміж арганізацыямі, што працуюць на грамадскую карысць, і тымі, што дзейнічаюць дзеля ўласнага абагачэння. Ва ўсім свеце такая розніца ёсць, а ў нас няма. Або яшчэ такое. Колькі ў нас грамадскіх арганізацый, якія завуцца фондамі, а на самай справе ў іх саміх няма сродкаў, каб фінансаваць нейкія дабрачынныя акцыі, ажыццяўляць тыя ці іншыя праграмы. У нас шмат што пастаўлена з ног на галаву.

І ўсё ж той факт, што існуе больш за тры тысячы грамадскіх арганізацый — рэспубліканскіх і рэгіянальных, сведчыць: незалежныя ініцыятывы развіваюцца і стараюцца выжыць у новых умовах. Чым адметныя грамадскія арганізацыі, чым яны прыцягваюць да сябе? Людзі вырашылі, што яны незалежныя ад іншых, што яны самастойныя, не хочуць падпарадкоўвацца ні дзяржаве, ні каму-небудзь іншаму, яны хочуць жыць годна і прыстойна, а галоўнае — рабіць нешта карыснае для грамадства.

— Спадарыня Алена, а дзе вы самі вучыцеся гэтай новай, недзяржаўнай дзейнасці?

— Мы ўдзельнічаем у розных семінарах, сустрэчах, уваходзім у еўрапейскую сетку рэсурсных цэнтраў "Арфей", які лучыць цэнтры, накшталт нашага, больш чым з дваццаці краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. На нашых сустрэчах адбываецца абмен інфармацыяй і вопытам. Мы ажыццяўляем унікальны для Беларусі прэс-маніторынг: адсочваем не адзін дзесятак рэспубліканскіх і рэгіянальных газет і ўсю інфармацыю, якая тычыцца грамадскіх арганізацый, фондаў і ўстаноў, заносім у базу дадзеных, на падставе чаго можна рабіць высновы, які імідж грамадскіх аб'яднанняў складаецца праз сродкі масавай інфармацыі.

На жаль, сярод пэўнай часткі насельніцтва склалася думка, што грамадскія арганізацыі — гэта зборышча нейкіх хапуг, карупцыянераў ды зладзюганаў, якія ўсялякімі шляхамі, часта несумленнымі, здабываюць грошы дзеля таго, каб мець магчымасць ездзіць за мяжу і наогул працвітаць, калі паўсюдна пануе беднасць і нястача. Безумоўна, такі погляд трэба мяняць. Трэба сцвярджаць і падтрымліваць разуменне таго, што ўсялякія, нават самыя малыя ініцыятывы, накшталт дапамогі адзінокім людзям ці бяздомным сабакам і катам, варта ўсяляк падтрымліваць і развіваць. Мы працуем дзеля гэтага. Дзейнасць нашай Беларускай рэспубліканскай арганізацыі "Аб'яднаны шлях" ахоплівае самыя розныя сферы грамадскай актыўнасці, аднак усе накірункі працы арганізацыі падпарадкаваны адзінай мэце — пабудове ў Беларусі адкрытага грамадства.

Я пажадала супрацоўнікам і валанцёрам "Аб'яднанага шляху" добрага плёну.

**Марыя МІХАЙЛАВА**

ДРУК

# Увага: "Архівы і справаводства"

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку зарэгістраваў новае перыядычнае выданне — часопіс "Архівы і справаводства", заснавальнікамі якога з'яўляюцца Дзяржаўны камітэт па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь, Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы. Новае выданне адрасавана шырокаму колу чытачоў — архівістам, гісторыкам, краязнаўцам, работнікам справаводчай галіны і, канечне, усім, хто неабыякавы да праблем нацыянальнай гісторыі, бо "Архівы і справаводства", з'яўляючыся выданнем у многім спецыфічным, не стане абмяжоўвацца толькі сваёй асноўнай праблематыкай. Канечне, у ім будуць публікавацца афіцыйныя дакументы Дзяржкамархіва, архіўныя дакументы, якія невядомы шырокаму колу даследчыкаў. Разам з тым, па словах галоўнага рэдактара часопіса Святаслава Асіноўскага (а Святаслаў Маркавіч чалавек, які доўгі час з'яўляўся намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская мінуўшчына"), на старонках "Архіваў і справаводства" будуць змяшчацца радаводы як вядомых, так і простых людзей. Многа цікавага знойдуць калекцыянеры, тыя, хто працуе над гісторыка-дакументальнымі хронікамі "Памяць".

Новы часопіс пачне выходзіць у пачатку 1999 года. Мяркуецца, што яго перыядычнасць будзе шэсць нумароў на год. А падпісны індэкс і кошт падпіскі на "Архівы і справаводства" будуць пазначаны ў падпісным каталогу на першае паўгоддзе наступнага года.

ВАРУНКІ

# Пра дзеда і ўнука,
## або Як жывуць у слонімскай глыбінцы вядомы і пачынаючы паэты



У вёску Вецявічы, што на Слонімшчыне, мы прыехалі пасля абеду. У сустрэчнай жанчыны запыталі, дзе жыве Мікола Арочка.

— А ў нас два Мікалаі Арочкі, — адказала жанчына. — Вам які трэба?

— Мы шукаем паэта Арочку, — прызналіся ёй.

— У іх тут дзве хаты, вось і шукайце, у якой яны, — сказала кабета і паказала рукой на бліжэйшыя хаты.

Дзверы нам адчыніла Марыя Іванаўна, жонка Міколы Арочкі. Шчыра павітаўшыся, яна паведаміла, што яе хлопцы возяць салому. Ідучы на аселіцу, мы ўбачылі хлопчыка і дзядулю, якія цягнулі на калясцы салому. За гэтай працай мы іх і сфатаграфавалі.

...Лёс жорстка абышоўся з сям'ёю нашага земляка, доктара філалагічных навук, паэта, даследчыка літаратуры, крытыка, перакладчыка, члена Саюза беларускіх пісьменнікаў Міколы Арочкі. Трагічна загінулі ў Мінску два яго сыны і нявестка. Адзінай радасцю, уцехай і надзеяй для Мікалая Мікалаевіча і Марыі Іванаўны застаўся ўнук Валерык, які вучыцца ў пятым класе Селявіцкай сярэдняй школы. Яны назаўсёды пакінулі Мінск і вярнуліся ў Вецявічы — родную вёску паэта.

— Пойдзем, хлопцы, у хату, вып'ем за сустрэчу. Такія госці ў нас бываюць рэдка, — прызнаўся Мікола Арочка.

Хутка ў сенцах з'явіўся стол, а на ім агуркі, памідоры, масла, сала, хлеб, каўбаса і, вядома, пляшка гарэлкі.

— Калі ласка, частуйцеся, — прапанавала гаспадыня. Мы прыселі да стала, і Мікола Арочка пачаў расказваць пра сваё вясковае жыццё.

— З рання да вечара мы на нагах, бо маем вялікую гаспадарку. Трымаем дзве каровы, свіней, авечак, курэй, коз — словам усё, што можа мець вясковец. Сам я кашу, сушу, важу, саджаю і капаю. Дапамагаюць Марыя і Валерык. Сяды-тады наведваю Мінск.

— Як да вас адносяцца аднавяскоўцы?

— Па-рознаму, бо людзям у вёсцы ўсё роўна: ці ты вучоны, ці генерал, ці хто іншы. Раней у Вецявічах у мяне была адна мянушка, цяпер другая — "паэт". Так і кажуць: паэтаў агарод, паэтава карова, паэтава свіння і паэтаў казёл. Мы ўжо прывыклі.

— Як сёння жыве беларуская вёска?

— Вёска амаль поўнасцю спілася. У калгасе крадуць усё, што толькі можна ўкрасці. Адзін старшыня калгаса пракантраляваць усё гэта не ў сілах. Гэта вынік сацыялістычнага калгаснага часу.

— Дарэчы, а як да вас адносіцца сам старшыня калгаса Чэслаў Шмігіра?

— Гэта адзіны чалавек, з кім можна пагутарыць на розныя тэмы. Вельмі адукаваны, шчыры і паважаны мною чалавек. Яму трэба не калгасам кіраваць, а займацца іншаю справай, больш сур'ёзнай. Ён мяне добра разумее. Але я стараюся менш яму дакучаць, бо ў яго і так праблем шмат. Даваў неяк мне каня, але я адмовіўся. Ды і ўзрост у мяне не той, хоць умею рабіць усё.

— А вершы пішуцца?

— У Вецявічах я загнаны ў кут бездухоўнасці, нясу адплату свайму лёсу. Але вершы пішуцца, бо тут па-іншаму я ўбачыў і адчуў жыццё, яго смак.

— Частуйцеся, хлопчыкі, каўбасою, не саромейцеся, — прапанавала гаспадыня, заўважыўшы, што мы менш сталі працаваць сківіцамі, і паказала рукою на каўбасную гірлянду. Яна вісела ў сенцах над намі, нанізаныя на шасток колцы вясковых каўбас, "пальцам пханых". Мы частаваліся каўбасамі і хвалілі гаспадароў, хоць адчувалі, як цяжка і сумна жывецца ім у Вецявічах.

— Я вельмі радуюся, што і Валерык піша вершы, замалёўкі, апавяданні. Я не дапамагаю, ён сам. Дасылае ў рэспубліканскую газету школьнікаў "Раніцу". Там друкуецца, перамагае ў конкурсах, атрымлівае падарункі, — працягвае Мікалай Мікалаевіч.

Валерык Арочка прынёс нам некалькі нумароў газеты "Раніца" са сваімі вершамі і допісамі. У адным матэрыяле ён расказвае пра сваю любімую настаўніцу Бажэну Чаславаўну Маркушэўскую, у другім — пра летні адпачынак. А ў вершах — любоў да Беларусі, да роднай прыроды. Нядаўна хросны бацька Валерыка Іван Баяроўскі з Мяльканавіч пайшоў служыць у беларускае войска. За святочным сталом гучала шмат пажаданняў. А Валерык Арочка прысвяціў яму свой верш:

*Мой любы хросны Ваня!*
*Табе маё пажаданне:*
*Каб даў табе здароўя Бог,*
*І каб ты сам сябе бярог,*
*Каб расцвіталі ў міры твае вёсны,*
*Каб пра мяне ты помніў, любы хросны,*
*Каб ты дамоў вярнуўся зноў,*
*І мы цябе сустрэлі*
*За шчодрым гэткім жа сталом —*
*На тваім вяселлі...*

У той дзень Валерык Арочка чытаў нам свае новыя вершы. Ён быў усхваляваны і шчаслівы, радаваліся за яго і дзядуля з бабуляю.

Калі мы развітваліся з Арочкамі, ужо цямнела. Марыя Іванаўна высыпала нам у машыну кошык яблыкаў...

**Сяргей ЧЫГРЫН**
*Мікалай СУПРУН (фота)*

---

Мікола АРОЧКА

# І станецца па слове Тваім

### Душа роднай мовы

*У мовы маёй, нібы ў чалавека, —*
*Прыгожае цела, жывая душа.*
*То ж вам не чужацкі жаргон-недарэка*
*З нахабствам прыблуды і прыбыша.*

*У ім, як забруджаным лесе, —*
*ў жаргоне:*
*Бляшанкі, бутэлькі, лаўжы, як вужы.*
*А родную нашу, хоць вечна ў загоне,*
*Ратуе жывучасць яе душы.*

*Як "чыкае" з форсам жаргон*
*бюракрата,*
*Пагарда чынуш задзірае насы.*
*Ды дзіўна: іх штаты і ўсе апараты*
*Не створаць ні твора сапраўднай красы!*

*Жаргон — "напракат" —*
*для экспансій прыдатны,*
*А твору патрэбна ж крынічка душы,*
*Народнай душы — і спагады і праўды,*
*І моўнай душы,*
*што не ўздзець на крыжы!*

*"Трасянка" — калечанне моўнага цела,*
*На ім ужо колькі рубцоў і шрамоў!*
*Але пад рубцамі трымціць,*
*як трымцела,*
*Душа — адной з самых прыгожых моў!*

*Яна, пэўна, ў квантах*
*нябачных разліта,*
*То вымкне са спадчыны звонам, слязой,*
*То ўзыдзе травой, стане зернямі жыта,*
*То гукамі слоў, што палоняць красой.*

*Здаецца, красе, патаптанай, абнылай,*
*Не ўстаць з бездухоўнай*
*цямноты-глушы.*
*Ды чую — пульсуе творчая сіла,*
*Нязводная сіла*
*моўнай душы!*

### Наканаванасць

*Сутыкнуліся —*
*сумленне з прагай:*
*Годна жыць ці проста існаваць?*
*І сястра сумленнасці — адвага —*
*Пачала ў зацішак саступаць.*

*Мужнасць хоць прытоена і тлела,*
*Ды не перастала верадзіць,*
*Бо дарэшты не адпалымнела,*
*Толькі час хацела абхітрыць.*

*Згуба — ці даніна выжывання?*
*І разумны, можа, кампраміс.*
*Хоць паганіць вусны апяванне,*
*Не да твару дару одапіс.*

*Ды натоўп у тлуме плешча ў ладкі*
*І падносіць — хлеб, у госці — мёд.*
*Бегчы ад дароў тых без аглядкі!*
*Напярэймы ж — трыццаць сёмы год.*
*Ад ліхога нехрыста не збегчы.*
*І шчыруе ў сэрцы горкі зман.*
*Лёг на твары одум, горб — на плечы.*
*Нож — па венах, сэрца — ў пекле ран.*

*Не зламалі, толькі надламалі.*
*Наце ж вам — для пешчаў і пацех!*
*Вынюхалі ўсё ж — не даравалі*
*Бацькаўшчыналюбны яго "грэх"!*

*Шкода толькі хвіль прыстасавання.*
*Свайму ж люду ў сэрцы не грашыў.*
*З лёсу ён не зняў наканавання*
*Марнаслоўем часу і душы.*

*І калі ў здрадлівым пралёце*
*Мільгануў ён белізною шчок,*
*Уздыхнуць паспеў яшчэ ў самоце.*
*Ён ад трыццаць сёмага не ўцёк.*

### Скруха сіроцтва

ВАЛЕРЫКУ

*Па маці ўздыхае скруха,*
*Як хвойнік па старцы-сасне.*
*Ды скруха аціхне, атухне,*
*Хоць горка ўспамінам пратне.*

*Нясцерпны ж адчай найчасцей —*
*Не ростань на схіле людзей,*
*А той, што пячэ ўсё люцей*
*Ад страты крывінак-дзяцей.*

*Бацькоў тая страта сіроціць.*
*А ў нас яшчэ — дума-сляза:*
*Застаўся у кволым узросце*
*Унучак-краса!*

*Як жыць вось такой дзятве,*
*Што кліча матулю, заве,*
*Што кліча татулю ў траве*
*Між дрэў, дзе іх дух жыве?*

*Унучак наш, круглы сіротка,*
*Не слухай ты плаксаў сівых.*
*Яны не ўздыхнуць дрыготка*
*Ні ў скрусе, ні ў кропельцы сродкаў,*
*А сунуць пад дых!*

*Апека бабулі і дзеда*
*Хай песціць сіроцтва тваё.*
*Як цяжка ў прадбачанні ведаць,*
*Што будзе кусаць гадаўё.*

*Мы склалі б дзянькоў астаткі,*
*Каб іх хто пражыў з нас адзін,*
*Заслоньваў за мамку і татку,*
*Дзіцятка,*
*ўздыміся спачатку,*
*Пакуль нас пакліча спачын.*

### Малітва да бога-бацькі

*Божа,*
*Усямоцны і наймагутны,*
*Валадар Зямлі і сусветаў,*
*Да Цябе я ў малітве хілюся:*
*Паўтары сваё цудазбавенне*
*Праз дзве тысячы год!*
*Пашлі Ты свой Дух Святы,*
*Жыццятворны і несмяротны,*
*Дзеля справы Тваёй багачыннай,*
*Дзеля промыслу чалавекалюбнага,*
*Усялі Ты свой Дух Святы*
*У мацярынскае свяшчэннае ўлонне*
*Жанчыны-беларускі!*
*Няхай жа, яна, вагітная,*
*Стане нашай Багародзіцай*
*І прынясе нам уратавальніка*
*З німбам на чале,*
*Збаўцу, як і Ты, ўсемагутнага —*
*Мы ўзгадуем Яго ашчадна*
*На травах і стравах спажыўных,*
*Няхай сярод нас Ён выбера*
*Апосталаў — самых надзейных!*
*Каб кратаў не быў Ён улоўлены*
*І па знаку Пілата—*
*не ўкрыжаваны...*
*Не спяшайся дачасна, Божа,*
*Свайго Сына адзінакроўнага*
*Забіраць у свой светлы Эдэм,*
*Пакуль на зямлі нашай — пекла.*
*Хай Сын Твой ідзе —*
*з хаты ў хату*
*І стукае ў дзверы і навучае,*
*І мы разам з Ім пераломім*
*Учарсцвелы наш хлеб надзённы*
*Адраджэння Бацькаўшчыны,*
*Дый усіх, яшчэ ўкрыжаваных*
*Земляў на свеце!*
*І станецца па слове Тваім.*
*Амін.*

### Абвучаю каня

*І навошта я зноў нешта ладжу і шыю?*
*Гэта ж збрую рыхтую, як нейкі абсурд.*
*Не каню адзяваю хамут на шыю,*
*Я сабе адзяваю хамут.*

*Я нарэзаў для збруі пасаў са скуры —*
*Для набедрыкаў, лейцаў, супонь.*
*Ах, мой конь, ты, напэўна,*
*нашчадак буры —*
*Не даецца ў прыгонніцтва вупражы*
*Конь.*

*Старшыня мой зычлівы каня*
*даў на выбар:*
*Абвучы — і ў загрыўку на волю скачы!*
*Толькі ласкай бяры...*
*Ды мой конік, як "тыгар",*
*Не хацеў, як паэт,*
*свой прымус валачы...*

*Можа, лепей было б пахадзіць*
*напачатку*
*Пры старым лашаку —*
*на малым павадку,*
*Супыняць трохі пугай гуллівасць азадку,*
*Чым лавіць яго ў мыле на дзікім скаку...*

*Помню нораў круты аднаго жарабка:*
*Каб накінуць хамут,*
*бацька лез на палаткі.*
*Вось і конь мой танцуе*
*са мной на дыбках.*
*Бервяно пачаплю — хай цалуе у пяткі...*

*Ах, шаленец, не рві наравіста пастронкі.*
*Бачу — іскры ў яго са слязою з вачэй.*
*Ты за воляй сваёй не скачы наўздагонкі.*
*Спачуваю. Прашу. А мне ці лягчэй?*

*Набрыкаўся і ўпрэў...*
*Дзе ты дзенешся, косю?*
*Луста хлеба з далоні — вось мы і ўладу.*
*Каб цябе запрыгоніць*
*хамутнай мілосцю,*
*Мо пад колам з вазка галавой накладу...*

### Сучасны бартэр

*Мяняем на вату — кажух,*
*Салому — на ўхлябісты рык,*
*Свой Дом — на чужацкі катух,*
*Уладны бізун — на крык,*
*Мяняем свой бор — на барыш,*
*Ячмень пасяўны — на гар,*
*Свой лёс — на галгофскі крыж,*
*А слынных асоб — на пачвар,*
*Мяняем каханне — на грэх,*
*А годнасць сваю — на бруд,*
*Застольную костку — на брэх,*
*На здраду — свой родны кут...*

*Не згледзелі толькі, калі*
*Той бартэр, набраўшы разгон,*
*Змяняў на бацькоўскай зямлі*
*Саміх нас —*
*на ўласны скон.*

## ЛiМ ЧАСАПІС

## "Гістарычны слоўнік Беларусі"

**У амерыканскім выдавецтве "Scarecrow Press" выйшаў "Гістарычны слоўнік Беларусі", апрацаваны Янкам Запруднікам. Кніга мае раздзелы: гістарычная храналогія (ад пачатку да нашых дзён); уводны артыкул — агляд гісторыі Беларусі; слоўнікавая частка (больш за 400 артыкулаў і біяграфічных даведак); бібліяграфія (у тым ліку і асабліва англамоўная); дадатак "Валадары Беларусі" (ад Рагвалода да Лукашэнкі). У кнізе дзве карты: на адной пададзеныя галоўныя гарады, другая паказвае стратэгічнае месца Беларусі ва Усходняй Еўропе.**

**Кніга Янкі Запрудніка выйшла ў серыі "Еўрапейскія гістарычныя слоўнікі". Такога роду даведніцкую літаратуру набываюць шмат якія бібліятэкі. На сённяшні дзень гэта адзінае англамоўнае выданне, з якога можна пачарпнуць інфармацыю пра гістарычную і сучасную Беларусь. У кнізе змешчаны даведкі пра галоўныя асобы беларускай гісторыі і палітычныя партыі; артыкулы пра археалогію, плямёны, галоўныя гарады, рэкі, эканоміку, асвету, гістарыяграфію, дэмаграфію, мову, культуру, літаратуру, мастацтва, рэлігію, нацыянальную ідэю, беларускую эміграцыю, рэферэндумы, парламент, правы чалавека і г. д.**

**У кнізе ўжываецца беларускі лацінічны алфавіт. Слоўнік можа быць дапаможнікам для тых, хто слаба знаёмы з беларускай лацінкай.**

**Кніга напісана папулярным стылем. Яна будзе карысная ў сем'ях, у якіх школьнікі, дзеці або ўнукі амерыканцаў, канадцаў, брытанцаў і аўстралійцаў беларускага паходжання, цікавяцца краем сваіх продкаў. "Гістарычны слоўнік Беларусі" можа быць таксама карысным для тых, хто вывучае англійскую мову і хоча карыстацца ёю ў інфармаванні пра Беларусь.**

**Цана кнігі — 55 долараў. Яе можна выпісаць у выдавецтве: "Scarecrow Press" 4720 Boston Way Lanham, MD 20706 (800) 462-6420.**

## Пісаў на мове ідыш

**Сымон Ляльчук — родам з горада Калінкавічы. Пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага ў 1939 годзе служыў у арміі. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, з першых жа дзён яе прымаў удзел у баях. Ды змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі нядоўга — у ліпені 1941 года ён прапаў без вестак. Вершы С. Ляльчук, які пісаў на мове ідыш, пачаў друкаваць у юным узросце. Да паступлення ў інстытут ужо выступаў на старонках газеты "Юнгер ленінец" ("Юны ленінец"). А ў 1938 годзе яго творы з'явіліся і ў часопісе "Штэрн" ("Зорка"). У 1940 годзе выйшаў калектыўны "Зборнік вершаў", аўтарам якога, поруч з маладымі паэтамі І. Баруховічам, Х. Гурэвічам, П. Плоткіным, быў гэткі ж малады і С. Ляльчук. У перакладзе на беларускую мову асобныя яго вершы апублікаваны ў кнізе "Мы іх не забудзем", якая з'явілася ў 1949 годзе і змяшчала ў сабе творы тых, хто не вярнуўся з вайны. А на мове ідыш кніга С. Ляльчука пабачыла свет у Маскве ў 1985 годзе. Гэта найбольш поўнае выданне яго творчай спадчыны.**

## Самабытны майстра



**У Мінску ў бібліятэцы імя Пушкіна адкрылася выстава рэзчыка па дрэве з горада Старыя Дарогі Ігара Іванавіча Лазуры.**

**Каля 30 гадоў самабытны майстар выразае з дуба, ліпы, бука фантастычныя маскі, персанажаў народных казак, стварае ў вёсцы вобразы літаратурных герояў. Работы Лазуры экспанаваліся на выставах народнай творчасці ў Беларусі, Расіі, у краінах дальняга замежжа.**

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

СПАДЧЫНА

# Ключавое слова класікі — свабода

ЗАКЛАДЗЕНАЕ ў чалавечай душы самою прыродай імкненне да волі і свабоды заўжды было, відаць, і найгалоўнейшай пабуджальнай прычынай, якая фармавала і ўзнімала да высокага грамадзянскага і творчага ўзлёту пачуцці і розумы вялікіх мысляроў-філосафаў, пісьменнікаў, мастакоў... Свабода і воля — ключавыя словы і ў мастацкім лексіконе двух волатаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа. У іх творчасці гэтыя словы-паняцці вельмі цесна суседнічаюць і ўнутрана ўзаемазвязваюцца з балючай, клопатнай думкай пра лёс і жыццё заняволенага народа і чалавека.

Зусім правамерна будзе, напэўна, сказаць, што нашых выдатных песняроў Я. Купалу і Я. Коласа сфармавала і ўзняла на грэбень літаратурна-грамадскага жыцця чалавекалюбная і свабодалюбная ідэя. Канечне, перадумовай усяго з'яўляецца прыродны талент. У дачыненні да Купалы і Коласа прырода не паскупілася, была да іх нават вельмі шчодрай. Але ж без чалавекалюбства і свабодалюбства няма і чалавеказнаўства. Гэта бадай-што аксіяматычная літаратурная ісціна. А ў геніяльных пісьменнікаў такі настрой душы бывае асабліва тонкім і асабліва чуйна, абвострана рэагуюць і адклікаюцца яны на зло, несправядлівасць і людское гора.

Менавіта гэтая досыць мінорная, невясёлая і сумная нота і ўласціва паэтычнай музе Я. Купалы і Я. Коласа ўжо на самым пачатку іх творчай дарогі. У такой журботна-сумнай танальнасці разгортваецца паэтычная думка ў вершах Я. Купалы і Я. Коласа "Мая доля" і "Не пытайце, не прасеце", надрукаваных у адным і тым жа 1904 г. Паэты (асабліва Я. Колас у вершы "Не пытайце, не прасеце") прызнаюць, што ім наогул больш даспадобы былі б вясёлыя песні, але ж не настаў, на жаль, іх час: бо "на жыццё як паглядзіш, сэрца болем зашчыміць".

Надыдзе пара — і ў творах Я. Купалы і Я. Коласа пабольшае светлых фарбаў, узмацніцца мастацкая роля аптымістычнай танальнасці. Веснавою, сонечнай радасцю жыцця, узнёслым лірыка-рамантычным дыханнем прасякнута, напрыклад, купалаўская паэма пра каханне "Яна і я" (1913). А колькі яркіх, празрыста-чыстых і прамяніста-радасных малюнкаў знойдзе чытач у коласаўскай "Новай зямлі"! Аднак пачыналі Купала і Колас усё ж з журботнай, сумнай песні. Ды і надалей гэтая нота журбы і суму будзе прысутнічаць у многіх іх творах як вельмі важная сэнсавая дамінанта. Недругараднае значэнне яе, гэтай дамінанты, аўтары падкрэслівалі і самімі назвамі, загалоўкамі першых зборнікаў сваіх твораў — "Жалейка" (1908) і "Песні жальбы" (1910).

Аднак гэта ўсё ж паверхневы момант з'явы. А ўнутраная і галоўная яе сутнасць, якая закранала стрыжнявыя і стратэгічныя асновы пісьменніцкіх задум, заключалася зусім у іншым. І на гэта "іншае" наша крытыка далёка не заўсёды звяртала належную ўвагу.

Для Купалы і Коласа, нягледзячы на ўсю адрознасць іх эстэтычных сістэм і метадалагічных крэда, з першых крокаў уваходу ў літаратуру было вельмі важнм бескампрамісна праўдзіва і аб'ектыўна намаляваць сацыяльныя абставіны, у якіх болей гараваў ды бедаваў, чымся жыў ды радаваўся просты чалавек, селянін. І малюнкі людской бядоты ў іх творах у многіх выпадках сапраўды жудасныя і страшныя. Патрэба падмацоўваць гэтыя нашы словы цытатамі з купалаўскіх і коласаўскіх твораў, відаць, адпадае, бо ісціна гэтая, можна сказаць, агульнавядомая.

Звонку меней прыкметным у такіх, нярэдка завостраных і густа афарбаваных у змрочныя фарбы малюнках сялянскай пакуты (беззямелля, галадухі, бяспраўя) з'яўляецца іншы ключавы аспект аўтарскіх задум — выяўленне дэтэрмінантнай сілы гэтых абставін на стаўленне духоўнасці чалавека, яго свядомасці і на паглыбленне яго імкненняў да волі і свабоды.

У маладых, радыкальна ды і рэвалюцыйна настроеных Я. Купалы і Я. Коласа была, як вынікае з іх ранніх твораў, досыць сур'ёзная вера ў тое, што шматгадовая несправядлівасць у адносінах да працоўнага чалавека, беларускага селяніна, павінна была б непазбежна падвесці таго да думкі вырвацца на свабоду, абы толькі надарыўся зручны момант. Вось чаму з такім высокапафасным уздымам сустрэлі Купала і Колас рэвалюцыйныя падзеі 1905 года, мяркуючы напачатку, што, можа, нават і не спатрэбіцца занадта вялікіх намаганняў і "вялікай крыві", каб "засеяць долю на роднай зямлі" і здабыць доўгачаканую свабоду: "крыху адвагі й дружнай сілы, а шчасце вечна зацвіце". Гэта словы з вядомага купалаўскага верша "Там" (1906). Чытач, безумоўна, можа прыгадаць і шэраг іншых твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа гэтага часу з падобнай сэнсавай накіраванасцю.

Аднак рэвалюцыя 1905—1907 гг. хоць і пасадзейнічала дэмакратызацыі асобных грамадскіх структур і інстытутаў краіны, не прынесла беларускаму народу ні сацыяльнай палёгкі, ні нацыянальнага вызвалення. Працоўнаму чалавеку давялося зноў цягнуць на сабе ярмо няволі, якое дзесьці стала нават яшчэ тужэйшым і цяжэйшым.

У шэрагу твораў Я. Купалы і Я. Коласа гэтага часу, як вядома, мае месца даволі журботны, panылы настрой. Ды і было ад чаго засумаваць і замаркоціцца. Перашкод і складаных задач на шляху да свабоды аказалася значна болей, чым напачатку ўяўлялася. Але ўсё ж Купала і Колас не пераставалі яшчэ пэўны час спадзявацца, што жыццё пад прымусам, уціскам, у штодзённых клопатах і нястачы павінна ж нарэшце выявіць сваю сапраўдную "адукацыйна-настаўніцкую" ролю і дапамагчы селяніну ўзняцца на новую ступень свядомасці, стаць "пад штандар свабоды" і з новымі сіламі выступіць "на бітву з цемрай і са злом". Гэта нібыта вымагалася і самою логікай здаровага сэнсу: ну, як гэта так?! Цябе таўкуць, зневажаюць, топчуць тваю чалавечую і нацыянальную годнасць, а ты церпіш, скардзішся, гнешся, наракаеш, а далей не ідзеш.

Менавіта ў той час, калі нехта спахмурнеў і зняверыўся ў сваіх сілах, а кагосьці залішне апанавалі смутак і журба, Якуб Колас піша публіцыстычна-заклікальны, паграмадзянску палкі верш "Кіньце смутак" (1907), дзе заве неадкладна ўзяцца "за работу" (вядома, якую. — **В. Ж.**), сарамаціць, ушчувае маладых дужых хлапцоў, настойліва раіць ім не "апускаць бязвольна рукі", і выкінуць з галавы думку аб тым, каб цярпець мукі і "вечна гнуцца". Адолець "стогны бяды" заклікае ў многіх вершах 1905—1907 гг. і Янка Купала, усё часцей і часцей звяртаючы ўвагу на ролю той сілы, якая павінна паспрыяць чалавеку, селяніну намацаць шлях да свабоды.

Характэрным у гэтым сэнсе з'яўляецца верш Я. Купалы "Пакіньма напуста на лёс свой наракаць" (1906). Адкрыта публіцыстычны, гэты твор адначасна нясе і глыбокі мастацкі падтэкст, унутраная энергія якога праграмна арыентавана на абуджэнне думкі і няспрошчанае асэнсаванне праблемы свабоды. Са словам "свабода" некалькі разоў вельмі цесна і дыялагічна ўзаемазвязваюцца тут словы "навука" і "воля". Прытым першынства, прыярытэт, як відаць, аддаецца навуцы. Паэт дужа хацеў бы "блудныя сцежкі цёмнага жыцця" як найхутчэй "навукі сонцам... рассвятліць, каб мы і наша ў прышласці дзіця, не блудзячы, маглі свой век дажыць". І заканчваецца гэты купалаўскі верш спадзяваннем на цесны саюз навукі і волі:

***Навукай, воляй зможам стогн бяды,***
***Засеем долю на роднай зямлі,***
***І зажывём шчасліва мы тады,***
***Як прадзеды век нашы не жылі.***

У творах Я. Купалы і Я. Коласа з такім ці ў чымсьці падобным паваротам мастацкай думкі, апрача ўсяго, пачынае ўсё мацней і мацней праклёўвацца, акрэслівацца і выяўляцца сумненне ў тым, што іх галоўны герой, непісьменны ці малапісьменны селянін зможа сам, без пабочнай дапамогі здабыць сабе і сваім дзецям свабоду. Ужо ў працэсе разгортвання і затухання грамадска-палітычных дзеянняў 1905—1907 гг., яны досыць сур'ёзна ўсумніліся, што бяда-гора, цяжкія і пакутлівыя ўмовы жыцця чалавека самі па сабе, без усякага вонкавага ўмяшання здольны ўзняць гэтага чалавека на высокую ступень духоўнай і грамадзянскай свядомасці. У сваё эстэтычнае крэда і метадалагічную сістэму пазнання жыцця яны наважваліся такім чынам унесці істотныя карэктывы. Але тут трэба было нешта важнае выверыць, даследаваць і цясней звязаць пошукавы рух мастацкага слова не з эмацыйна-публіцыстычным настроем, а з больш ці менш спакойнай і ўраўнаважанай аналітычнай думкай.

Яркі і пераканальны прыклад тут — драматычная паэма Янкі Купалы "Адвечная песня" (1908). Жыццё яе галоўнага героя, Мужыка, не проста складанае, а невыносна цяжкое, жорсткае і суровае. У нейкай сканцэнтраванай звышмеры нягод, пакут, бедаў яно абклала чалавека з усіх бакоў, а сціплыя радасці калі і наведваюць яго, то хутчэй успрымаюцца як рэдкая выпадковасць і ружовая мроістая з'ява. У такім зачараваным коле прыземленай, сумнай і клопатнай будзёншчыны, бы ў нейкай драме-містэрыі (драмай-містэрыяй удала назваў гэты купалаўскі твор, як нам уяўляецца, П. Васючэнка) праходзіць усё жыццё селяніна. Падчас нейкая вонкавая сіла ў асобе розных сімваліка-алегарычных вобразаў нібыта хоча дапамагчы Мужыку, спрабуе пераконваць яго, што "нараканнем не зможаш бяды". Аднак у штодзённым змаганні з бедамі і нягодамі ён настолькі аслабеў, знямогся і змардаваўся духоўна і фізічна, што на колькі-небудзь смелае дзеянне і на пошук шляхоў "да шчасця новага" і свабоды яго проста ўжо не стае. У медыцыне вядомы такі абыякава-дэпрэсіўны стан псіха-фізіялагічнай стомленасці, калі чалавека апаноўвае страх безнадзейнасці і безвыходнасці, і ўсё навокал уяўляецца яму толькі ў змрочных, чорных фарбах. Такім без усякага светлага пробліску бачыцца ў фінале "Адвечнай песні" жыццё яе цэнтральнаму герою. Мужыку, якому "людзі і свет" уяўляюцца "страшней", чымся небыццё, "магіла".

Гэта купалаўская паэма — твор завостранай сімваліка-алегарычнай стылёва-жанравай структуры, і зусім натуральна вынікае адсюль магчымасць яе шматварыянтнай трактоўкі. Аднак у любым выпадку нельга прамінуць тут вельмі клопатную і глыбока гуманістычную думку аб тым, што чалавек, які працяглы час знаходзіўся пад прэсам Антыхрыста, вялікага майстра выступаць у ролі чалавекалюбца і ў той жа час непераўзыдзенага умельца тварыць і сеяць зло і несправядлівасць, мае вострую патрэбу ў падтрымцы і дапамозе з боку мудрых і дальнабачных сіл, якія паспрыялі б яму ў цяжкую мінуту не зняверыцца ў сваіх магчымасцях, утрымацца ў межах духоўнай раўнавагі і неўпрыкмет для сябе не збочыць з дарогі дабрачыннасці і не аддаліцца ад высокіх маральна-этычных запаведзяў Хрыста.

У выпрабаванні чалавека на чалавечнасць Я. Купала і Я. Колас ішлі сваім шляхам і, відаць, варта падкрэсліць тое, што іх мастацкая думка нярэдка несла ў сабе прыкметны элемент палемічнай нязгоды з вядомымі і прызнанымі літаратурнымі аўтарытэтамі, у прыватнасці, з Дастаеўскім. Так, пры ўсім сваім нязменна паслядоўным і падкрэслена рэзкім непрыманні свету, заснаванага на пакутах і асабліва пакутах невінаватых, Дастаеўскі, паводле слоў вядомага рускага філосафа М. Бярдзяева, не прымае і свету, "які хацеў бы стварыць "эўклідаў розум", гэта значыць свет без пакут. Бо лічыў, што чалавек мае ўнутраную "патрэбу ў пакутах і што пакуты (страдания) ёсць адзіная (ачышчальная і пабуджальная. — **В. Ж.**) прычына ўзнікнення свядомасці".

Янка Купала і Якуб Колас, трэба сказаць, толькі невялікі прамежак часу падзялялі падобныя меркаванні. Чалавек, на іх погляд, сапраўды ў асноўным сам павінен сфармаваць, "пабудаваць" і выпакутаваць

сябе як духоўную асобу і пераважна сам, не дужа на некага пакладаючыся і не вельмі перад кімсьці згінаючыся "траўкаю пахілаю", выкаваць "спружыны ўласнай долі". Мастацкая роля гэтай "самасці" ў іх творах будзе няўхільна павялічвацца, пашыраць і паглыбляць важныя праблематычныя сувязі з разнастайнымі аспектамі аўтарскіх ідэй, задум і планаў. Але як пісьменнікі, яны параўнальна хутка зразумелі, што пакута, як устойлівы стан жыцця, не можа быць адзінай і тым болей надзейнай прычынай, здольнай дапамагчы чалавеку пашырыць і паглыбіць гарызонты ягонай свядомасці і ўзбагаціць яго духоўна. Наадварот, дакастрычніцкія Купала і Колас усё часцей і часцей схіляюцца да кваліфікацыі бяды-гора ці, гаворачы словамі Ф. Дастаеўскага, "страдания", як вельмі і вельмі небяспечнага, злоснага ворага не толькі фізіялогіі чалавека, але і яго душы. Пакуты, нястачы і цяжкая праца з дня ў дзень, з году ў год без радаснай надзеі і прасветлінах наперадзе выціснулі, як мы ўжо гаварылі, з купалаўскага Мужыка не толькі фізічныя сілы, але нанеслі незагойную рану яго духу. Чалавек перастае ўжо верыць у магчымасць людскага жыцця на гэтай зямлі і адмаўляецца ад апошняй прапановы — спробы разблытаць "сеткі" няпраўд і зла. Такі фінал "Адвечнай песні". І гэта ўспрымаецца ў купалаўскім творы як суровая і цяжкая драматычна-трагедыйная з'ява, над якою трэба, на думку аўтара, вельмі глыбока задумацца. І не спяшацца клікаць чалавека да дзеяння, да якога ён у выніку шэрагу аб'ектыўных прычын, можа, яшчэ духоўна не дарос.

Купала і Колас улічвалі ў падобных выпадках і іншы паварот чалавечых учынкаў, а менавіта стыхійна-выбуховы пратэст чалавека, які дайшоў да крайняй мяжы ў змаганні з бедамі і няшчасцямі. Яны пачыналі, як відаць, не на жарт трывожыцца, каб гэта выбуховая стыхійная людская энергія не перарасла ў бескантрольнае шырокамаштабнае дзеянне. З аднаго боку, у іх творах, як, напрыклад, у купалаўскім вершы "Пойдзем" (1906) ухваляецца ідэя "дружна і смела" ўсім узняцца і пайсці "на вялікае дзела" — "крышыць усё абманнае і злое", "здабываць свабоду". А з другога боку, такія дзеянні, як "крышыць", "ламаць", "паліць", "помсціць", пачынаюць выклікаць у іх насцярогу і нават боязь таго, што ўсе гэтыя эмацыйна-выбуховыя сілы, не асветленыя высокім ідэалам рацыяналізму і духоўнасці, могуць не толькі не дапамагчы чалавеку, а нават пагоршыць яго становішча, і да старых бедаў дадаць шмат новых. Літаратурна-грамадская пазіцыя нашых класікаў у пэўным сэнсе суадносіцца тут з вядомым выказваннем А. С. Пушкіна пра непрадказальнасць тых цяжкіх і страшных вынікаў, што несла ў сабе катастрафічная і разбуральная стыхія рускага бунту.

Малады, рамантычна настроены герой аднайменнай коласаўскай паэмы "Сымон-музыка" шмат разоў з юнацкім запалам парываецца пераконваць самога сябе і сваіх субяседнікаў у тым, што "проціў сілы можна ставіць толькі сілу, калі хочаш ты устаць з пылу". Сілавыя прыёмы яшчэ неаднойчы будуць здавацца яму вельмі эфектыўным сродкам абароны ўласнай чалавечай годнасці і прыдатнай магчымасцю вырвацца на светлы і жаданы шлях свадобы і волі без асабліва доўгіх і марудных затрымак.

Аднак ва ўсіх такіх выпадках амаль заўсёды яму даводзіцца выходзіць на сустрэчны дыялог з нейкім мудрым чалавекам (часам гэты чалавек — "я — герой" ці сам аўтар), які стрымлівае, ахаладжвае гарачнасць і імпульсіўнасць юнака, раіць яму не ляцець стрымгалоў па ўхабістых дарогах жыцця і не спяшацца зрываць "без пары" недаспелы колас, штучна паскараючы вырашэнне пытанняў, над якімі яшчэ з належнай, глыбокай аддачай не папрацавалі эвалюцыйныя законы грамадства і разумныя духоўна-празорлівыя сілы народа, нацыі.

Каб паўней і глыбей зразумець некаторыя важныя грамадскія, маральна-этычныя, метадалагічныя і выяўленча-вобразныя аспекты ў творчасці Я. Купалы і Я. Коласа, нам, відаць, не пашкодзіць, а вельмі нават дапаможа далейшае і паглыбленае вытлумачэнне самой дыялектыкі і ўнутранай узаемаспалучанасці такіх паняццяў, як **эвалюцыя і рэвалюцыя**. У такім разе, на наш погляд, і само вызначэнне "рэвалюцыйныя дэмакраты", што замацавалася за Я. Купалам і Я. Коласам стане набываць ва ўспрыманні чытача (ды і даследчыка літаратуры) больш канкрэтнае і пэўнае семантычнае (і грамадска-палітычнае) значэнне.

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

# Віктар ШЫМУК



18 верасня 1998 года пасля цяжкай хваробы памёр вядомы беларускі пісьменнік Віктар Шымук.

Вікенцій Мікалаевіч Шымук нарадзіўся 2 красавіка 1933 года ў вёсцы Змяёўцы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыўшы восем класаў, пачаў працаваць адказным сакратаром дзятлаўскай раённай газеты "За новую вёску" (1949—1951). Адначасова вучыўся ў вячэрняй сярэдняй школе. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1957). Працаваў у рэдакцыях газет "Калгасная праўда", "Звязда", а таксама адказным сакратаром штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" (1974—1977). З 1977 года па 1994 год быў намеснікам галоўнага рэдактара літаратурна-драматычнага вяшчання на Беларускім радыё.

Літаратурную дзейнасць Віктар Шымук пачаў у 1949 годзе. Напісаў для дзяцей паэму "Каля Броннай гары" (1960), зборнікі вершаў "Мы вясне дапамагалі" (1962), "Дочкі сіняга Нёмана" (1964), "Марылі пра шчасце хлапчукі" (паэмы, 1981). Віктар Шымук — аўтар зборнікаў паэзіі "Свіцязянскія хвалі" (1968), "Світанне" (1972), "Святло красавіцкіх бяроз" (1983), "Спелы жнівень" (1990), сатырычных вершаў "Ад хаты да хаты" (1983). У той жа час плённа працаваў Віктар Шымук і ў жанры публіцыстыкі. Яго пяру належаць кнігі нарысаў "Добрай раніцы, поле" (1964), "Сын каваля" (1970), "Коля Гойшык" (1971), "Леў Даватар" (1973), "Пасля працы рупнай" (1974) і іншыя. Убачыла свет і кніжка апавяданняў аўтара — "Помняць пушчы і паляны" (1969). На шэраг вершаў Віктара Шымука напісаны песні.

Добры працаўнік, зычлівы і спагадлівы чалавек, Віктар Шымук карыстаўся павагай сярод пісьменнікаў, быў актыўным прапагандыстам беларускай літаратуры, шмат зрабіў у справе выхавання творчай моладзі.

Светлы вобраз Віктара Шымука назаўсёды застанецца ў сэрцах усіх тых, хто яго ведаў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Прага вышыні

(Працяг. Пачатак на стар. 10)

Аркадзь Маўзон, здаецца, толькі ў адной са сваіх пазнейшых, пасля "Заслонава", п'ес зноў звярнуўся да герoікі Айчыннай вайны. І ў адной узнавіў эпізод з мінулага яшчэ даўнейшага — з гадоў грамадзянскай вайны. Астатняе ж, што апублікаваў і што называлася на афішах у лучнасці з ягоным імем, было выяўленнем непрымання ім фарысейства, двухаблічнасці, прагнілаcці ў навакольнай рэчаіснасці, прагі высокага, справядлівага, чыстага. Самі назвы яскрава пра тое сведчаць: "У ціхім завулку", "Калі разыходзяцца шляхі", "Непрымірымасць", "Калі ты чалавек", "Асцярожна, Мякішавы!", "Жыццё ўсяго адно". Адкрыта эмацыйна сказанае ў п'есах і сказанае неадкрыта, у падтэксце, падабалася гледачам, падабалася выканаўцам. "У ціхім завулку", "Асцярожна, Мякішавы!", "Жыццё ўсяго адно" ставіліся, зноў так скажу, на прасцягу ад Брэста да Уладзівастока дзесяткамі тэатраў.

Помню, ішлі мы поруч з нашага Рускага тэатра, са спектакля "Жыццё ўсяго адно". Аркадзь расказваў, як спектакль рыхтаваўся, што ён у п'есе па просьбе пастаноўшчыка дапісаў, што падкараціў. Сярод іншага рэжысёру падаўся даўгаватым гарачы маналог гераіні п'есы Марыі Васільеўны — ролю яе выконвала вопытная актрыса Матрона Кузьменка. Дык вось яна, выканаўца, непадуладна заўпарцілася — не дазволіла скараціць маналог ні на слова. Першародным ён і застаўся гучаць у спектаклі.

Відно было, вельмі прыемна аўтару пра гэта расказваць.

4.

Чытаю пасмяротную кніжку светлага Варлена Бечыка, старонкі яго дзённіка, і натрапляю ў запісе, датаваным 11 лютага 1970 года, на такое:

"Сёння ў СП — усесаюзны сімпозіум аб рабочым класе. Усё гэта будзе неяк асветлена ў друку, але знікнуць дасціпныя рэплікі Брыля, некаторыя аспекты выступленняў В. Хомчанкі (пра працэнт рабочых сярод злачынцаў) і Маўзона (пікіроўка з дырэктарам ін-та філасофіі Буславым. Б.: "А почему же л-ра отстает?" М.: "А потому что ин-т философии еще не разработал рецепты, как создавать л-ру..." Б.: "А кто же строит коммунизм?" М.: "Строители коммунизма")..."

Колькі падобных штрышкоў іранічнасці, імгненнай рэактыўнасці, часта з'едлівасці Аркадзя ў памяці таварышаў, калег, партнёраў, сённяшняй лексікай карыстаючыся, па творчых праектах, усіх, каму выпала весці з ім знаёмства! І адзначанай ужо прэвентыўнай калючасці. І нецярпімасці да казённай рыторыкі, да банальнасці, пошласці.

Менш хто ведаў, аднак, ягоную, зноўтакі адзначаную ўжо, ранімасць, рэфлексіўнасць аж да прыступаў згубнай іпахондрыі.

Не ўсяму, што напісаў ён, спадарожнічаў поспех. Пераважнай малапрыемнае пасля выхаду фільма "Зялёныя агні". Перацярпеў укусы крытыкі — і неслабыя — за некаторыя п'есы. Абыякавым да тых укусаў не заставаўся.

Не забыцца, напрыклад, як прыйшоў ён, наструнены, зашпілены, што называецца, на ўсе гузікі, у рэдакцыю "ЛіМа" (у шасцідзесятыя я зноў стаў тут штатным супрацоўнікам) пасля з'яўлення на старонках газеты рэцэнзіі Георгія Коласа на прэм'еру у Віцебску, у тэатры, дзе Маўзон у маладосці акцёрыў, спектакля "У доме на Сонечнай". Паводле яго, Маўзона, п'есы — не з ліку ўдалых. Георгія Коласа, які быў ягоным прыяцелем, разам з якім у кампаніі — ханжыць не будзем — перакулены быў не адзін кілішак гарэлкі (божа, божа, і гэтага эпікурэйца, вастрапёрага, да розната цікаўнага, часам трошкі какетлівага, каторы год няма!). Рэцэнзіі, у якой, скажам так, без пазалачэння пілюлі напісана было, што пастаўленая тэатрам новая п'еса вядомага драматурга — не з ліку ягоных удач. З чым Маўзон згадзіцца не пажадаў. Таму наструнены, зашпілены на ўсе гузікі прынёс Нічыпару Пашкевічу, тадышняму галоўнаму рэдактару "ЛіМа", артыкул-пярэчанне.

Пэўную пікантнасць сітуацыі дадавала тут акалічнасць, што Пашкевіч — шматгадовы бліжэйшы сябра Маўзона. Разам у паваенныя гады, калі пісаўся, ставіўся і грымеў на ўсю краіну "Канстанцін Заслонаў", працавалі (Маўзон пасля тэатра) загадчыкамі аддзелаў у рэдакцыі віцебскай абласной газеты. Суседзілі там у Віцебску са сваімі сем'ямі ў адной камунальнай кватэры. І Пашкевіч развёў рукамі:

— Калі настойваеш, можам надрукаваць тое, што прынёс. Ды лепш, мабыць, каб не сам пакрыўджаны аўтар палемізаваў з рэцэнзентам. Табе так не здаецца?

"Трацейскім суддзёй" выступіў у газеце Кастусь Губарэвіч...

Аднаго разу, было, і я атрымаў на арэхі, не змогшы Аркадзю змяніць — прызнаць кепскае за добрае. Не за добрае, дык хоць за прыстойнае.

У нашым тэатры юнага гледача была пастаўлена яго п'еса "Дарога праз ноч". І сама яна пры сваёй прэтэнцыёзнасці на ўзнёсласць была, як кажуць кіношнікі, копіяй з перакопіі, і рэжысёр, пнучыся ў саманаватары, у рэалістычны ўсё-такі літаратурны матэрыял да месца і не да месца наторкаў неарганічных тут умоўнасцей на манер мала не японскага "кабукі". У выніку радасці прэм'ера не прынесла. Я не здолеў знайсці ў сабе словы, якія ў такіх абставінах можна было б аўтару сказаць, вышмыгнуў па заканчэнні спектакля з тэатра, пастараўшыся не трапіць яму на вочы. І трэба ж — зазірнуўшы са знаёмымі акцёрамі (у мяне тады таксама ішла ў гэтым тэатры п'еса) у "мутнае вока" — такую прозву мела сярод частых наведнікаў кафэ Дома мастацтваў, — нос у нос сутыкнуўся з Аркадзем. Асатанелым і ўжо добра пад градусам. Ён спачатку прайшоў паўз мяне, як паўз нешта нежывое, накшталт дзвярнога вушака, але праз крок-два спыніўся, статуйна павярнуўся і прафесійна артыкуляваным сваім барытонам сцішана, бы мне не менш, мне падалося, чутна на ўсё кафэ адчаканіў:

— Ты..., — шануючы чытачоў, не прыводжу ўжытае ім азначэнне, — ты павінен быў у любым разе з прэм'ерай мяне павіншаваць. У любым разе павіншаваць! А ўжо потым гаварыць тое, што сказаць не адважыўся!

Меў ён рацыю? Не?..

5.

Так сталася, што ў штаце радыё я апынаўся два разы. Адпрацаваў тут трынаццаць месяцаў на самым пачатку шасцідзесятых, вярнуўся сюды, ужо надоўга, праз пятнаццаць гадоў. І як рэдактар адзін раз было запісваў Аркадзя для гучання ў эфіры ў першы свой тэрмін радыёслужбы, адзін раз у другі. Пры гэтым адводзіў у студыю і запісваў як розных людзей.

У шэсцьдзесят першым да мікрафона сеў энергічны, з упэўнена-смяшлівым позіркам чалавек, пра якіх гавораць — "дзядзька на кані!". Запісвалася перадача да юбілею Саннікава, і павек удзячны яму, як пастаноўшчыку ў купалаўскім тэатры "Заслонава", Маўзон з прыемнасцю прыгадаў, як разам з Канстанцінам Мікалаевічам даводзілі п'есу да сцэнічнай кандыцыі, як знаходзілі для спектакля — бывала, шчасліва-нечаканыя — жывыя дэталі.

Не помню зараз дакладна, пад канец семдзесят шостага ці на пачатку семдзесят сёмага ўвайшоў у студыю іншы Маўзон. Перад тым за колькі тыдняў пазваніла мне Соф'я Рыгораўна, яго жонка: "Валодзя, Аркадзь у дэпрэсіі. Балюча глядзець, як сябе мучыць. Займіце яму мазгі якой-небудзь работай". З выкананым заказам літаратурна-драматычнай рэдакцыі радыё (спачатку аднекваўся — дауно, маўляў, такія рэчы не рабіў, развучыўся, але я настояў), з нарысам пра Мікалая Яроменку, якога памятаў студыйцам тэатра імя Коласа, які здымаўся — яшчэ не славуты ўсесаюзна — у ягоным фільме "Наперадзе — круты паварот", ён неўзабаве і паказаўся ў пакоі рэдакцыі. З патухлымі вачыма, прымаруджанымі рэакцыямі, як вінаватай усмешкай. Адчувалася, усё чалавеку няміла. Жыць яму заставалася няпоўны год.

Выгляд яго ў тыя два рабочыя дачыненні з ім для мяне як праілюстраванне складанасці мастакоўскага лёсу. Дзе мяжуе-пераплятаецца феерыя поспеху з самапаяданнем пасля няўдачы, бліскавічнасць натхнення з пакутлівай прыкутасцю думкамі да таго, што ловіш-ловіш — і не даецца!..

Гэткі лёс быў і ў Аркадзя Маўзона — на шляхах беларускай драматургіі постаці ярка адметнай, дастойнай доўгай удзячнай памяці.

**Уладзімір МЕХАЎ**

**Калектыў штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" смуткуе з выпадку смерці былога нашага супрацоўніка, вядомага паэта Віктара Мікалаевіча ШЫМУКА і выказвае глыбокае спачуванне сям'і, родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў выдавецтва "Мастацкая літаратура" глыбока спачувае з прычыны заўчаснай смерці загадчыцы бібліятэкі ДРАКО Людмілы Рыгораўны і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

СПАДЧЫНА

# Па Міры рыцары хадзілі...

...І ТЫМ ВЕЛЬМІ здзіўлялі мясцовых жыхароў. "Кіно здымаць будуць", — аўтарытэтна паведаміла мне адна пажылая гаваркая жанчына. Але большасці міран хлопцы ў кальчугах ды дзяўчаты ў гатычных сукенках ужо знаёмыя: фестываль сярэднявяковай культуры і музыкі ў Міры праводзіцца мінскім рыцарскім ордэнам "Сэрца дракона" ўжо не першы год.

На тры дні славуты Мірскі замак і пляцоўка перад ім сталі прытулкам прыблізна дзвюх соцень людзей, апантаных гісторыяй і гераічнай атмасферай мінулых вякоў. Сюды з'ехаліся рыцары і іх дамы сэрца з маскоўскіх клубаў "Спадчына продкаў" і "Скрамасакс", піцерскай "Баярскай дружыны", шматлікіх беларускіх клубаў і асобныя прадстаўнікі іншых гарадоў Расіі, Латвіі, Украіны. Уражвала вялікая колькасць удзельнікаў-расіян, якія не пашкадавалі ні часу, ні грошай на дарогу. А не пашкадавалі таму, што для іх штурм сярэднявяковага замка — экзотыка. Дзе ж у Расіі знойдзеш такі? Затое там больш распаўсюджаны гістарычныя рэканструкцыі (напрыклад, бітвы на Кулікоўым полі) і так званыя "ралевыя гульні", дзе разыгрываецца сюжэт якога-небудзь літаратурнага твора адпаведнага рыцарскага зместу. Сярод іх бясспрэчна лідзіруе знакамітая трылогія Толкіена "Уладар кольцаў".

Рыцарскі рух на тэрыторыі СНД зарадзіўся зусім нядаўна: у самым пачатку дзевяностых, з распадам Саюза, калі ў кожнай з рэспублік адбыўся сапраўдны выбух цікаўнасці да гісторыі і культуры ўласнага краю. На гэтай хвалі пачалі ўзнікаць і множыцца ваенна-гістарычныя клубы. На Беларусі рыцарства неафіцыяльна падзяляецца на дзве плыні: адна арыентуецца ў сваёй дзейнасці на беларускую нацыянальную гісторыю (клубы "Kalumnu", "Жалезны воўк"), а другая — на багацейшую рыцарскую традыцыю заходніх краін. Менавіта да апошніх і належыць гаспадар фестывалю ордэн "Сэрца дракона", флагман рыцарства нашай краіны на сённяшні дзень. Ордэн, які ўтвораны больш за тры гады таму, вылучаецца жорстка арганізаванай іерархіяй з магістрам на чале і markedly рознабаковай увагай да сярэднявяковай культуры. Хаця ордэн і існуе пад дахам мінскага Палаца дзяцей і моладзі, большасць яго членаў — людзі сталыя і сур'ёзныя.

Па дамоўленасці з мясцовай адміністрацыяй з двух бакоў замкавага вала вырас рознакаляровы гарадок малых і вялікіх намётаў. Але ж вырас ён у паркавай зоне, і таму напалоханая колькасцю няўрымслівай рыцарскай моладзі даглядчыца замка выставіла ультыматум: на ўвесь лагер — не болей за шэсць кастроў. А дзеля прафілактыкі між намётаў у першы дзень з суровым выразам на твары хадзіў міліцэйскі нарад. І ён сапраўды спатрэбіўся. Але ўціхамірваць яму прыйшлося зусім не рыцараў, а гаспадара бліжэйшай да замка хаты, які ў нецвярозым стане распачаў бойку з жонкай і выбіў шкло ў акне. Госці ж паводзілі сябе вельмі прыстойна: секлі паркавыя дрэвы, бо леташні ўраган забяспечыў дастаткова сухіх дроў для вогнішчаў, і не буянілі, так што ў наступныя дні людзі ў форме ў лагеры на паяўляліся. А малая колькасць вогнішчаў дазволіла лепш пазнаёміцца з суседзямі. У нас імі аказаліся масквічы-талкіеністы з дзіўнымі на першы погляд імёнамі: Оры, Эры, Йовін, Саўрон, Інгрыд, Арчыбальд... У кожнага з іх ёсць, як яны кажуць, "мірское" імя, але на фестывалі яно не ўзгадвалася — настолькі добра гарманіравалі выдуманыя імёны з магутнымі вежамі Міра, са старажытным адзеннем, з цудоўнымі баладамі масквічкі Тэм.

З самага пачатку добра распрацаваная праграма фестывалю пайшла прахам, бо значная частка ўдзельнікаў (запрошаныя госці, менестрэлі і неабходная апаратура) на чале з самім магістрам моцна і надоўга загразлі разам са зламаным аўтобусам недзе па дарозе ў Мір. Тыя ж, што дабіраліся сваім ходам, за гэты час паспелі паставіць намёты, зарыентавацца на мясцовасці і наладзіць кантакт з мясцовымі жыхарамі. За тое, што дапамаглі паднесці бабе Раі кошыкаў з яблыкамі, яна, папершае, пачаставала нас гэтымі самымі яблыкамі, а падругое, "адчыніла" неабмежаваны крэдыт на карыстанне яе калодзежам. Менавіта з вадой была найвялікшая праблема, бо ў калодзежы на замкавым двары яна брудная, а калонку ў гарадку мы знайшлі толькі наступнай раніцай. Але ўвогуле ў бытавым плане мы рыхтаваліся да горшага. А тут і крама аказалася пад бокам (з нагоды рыцарскага нашэсця яна працавала нават у нядзелю), і ў кусцікі не прыйшлося бегаць: да паслуг фестывальшчыкаў былі ажно два WC, адзін з якіх — нават з дзвярыма. З надвор'ем спачатку таксама пашчасціла. Вечаровае сонца і цёплая вада ў возеры прывабілі шмат жадаючых паплаваць. Іх не напужала нават паслужліва ўзгаданая некім статыстыка: кожны год у возеры абавязкова нехта тоне, а сёлета — яшчэ ніводнага тапельца...

Калі стала зразумела, што VIP-аўтобус сёння да лагера ўжо не даедзе, фестываль было вырашана пачынаць без магістра. А каб народ не засумаваў, рыцары правялі некалькі паядынкаў. Яны, першыя і таму нязвыклыя, выглядалі зусім фантастычна ў начной цемры, толькі крыху асветленай полымем паходняў. Далёка за поўнач лагер нарэшце стаў заціхаць — хіба ж магчыма было класціся спаць раней у такую ноч і ў такім асяроддзі? Але гадзіны ў тры мы прачнуліся ад гукаў горна і радасных крыкаў — гэта прыехаў доўгачаканы аўтобус.

Раніцай усіх чакала непрыемнасць: неба наўкруг было аблажана шэрай хмарай, якая, здавалася, паставіла за мэту змыць рыцарскі лагер з твару зямлі або хаця б узяць рыцараў на змор. Таму замест дванаццаці штурм замка пачаўся а шостай гадзіне, калі крыху развіднела. Усіх рыцараў падзялілі на дзве роўныя часткі: адна замак абараняла, другая, адпаведна, нападала. Перад бітвай абвясцілі правілы: нельга наносіць колючыя ўдары, а таксама меціць у кісці рук, у ногі ніжэй каленяў, у твар і ўвогуле, па магчымасці, абысціся без крыві. Апошнія гады ў клубах строга глядзяць за выкананнем гэтых правілаў, бо адсечаныя пальцы ды зламаныя рукі — гэта ўжо не гульня. Мінскаму рыцару Герцагу толькі напярэдадні Мірскага фестывалю знялі гіпс з рукі. А піцерскаму ваяку, які параніў Герцага сёлета на рэканструкцыі Кулікоўскай бітвы, пагражае грашовы штраф ці нават выключэнне з клуба. Наколькі сур'ёзна ідзе бой і якія моцныя ўдары дастаюцца закаваным у жалеза рыцарам, усе неўзабаве пераканаліся падчас штурму замкавай брамы. Асабліва вылучаўся мінчанін Фёдар — асоба ў рыцарскім асяроддзі вельмі вядомая. Чымсьці ён нагадваў знакамітага асілка Партоса. "Заваліць" Фёдара ўдалося толькі чацвёрцы працаўнікаў, якія пакінулі на яго прыгожых, багата аздобленых і добра прадуманых даспехах з дзесятак глыбокіх слядоў баявых сякер.

Вечарам на імправізаванай сцэне, што размясцілася непасрэдна ў вялікай замкавай браме, адбылося прадстаўленне клубаў-удзельнікаў і вялікі канцэрт менестрэляў, у якім узялі ўдзел групы "Паскрыптум" і "Калі-Юга", барды з клуба "Сярэбраны адзінарог". Доўга слухачы не адпускалі са сцэны дуэт Тэм і Йовін. Яны выконвалі песні, створаныя Тэм. Асобны яе цыкл прысвечаны менавіта Мірскаму замку, які так уразіў масквічку летась. Канцэрт працягваўся да позняй ночы, нягледзячы на зусім не жнівеньскі холад.

Трыццаць два рыцары выйшлі на рысталішча ў трэці і апошні фестывальны дзень, каб здабыць званне пераможцы турніру. Уражвала перш за ўсё разнастайнасць рыцарскай амуніцыі: ад шатландскай спадніцы-кілта да суцэльнага жалезнага панцыра. Трэба адзначыць, што ўсё, ад шалома да мяча, выбляецца самімі рыцарамі з дапамогай клубных майстроў. Мячы, напрыклад, звычайна ствараюцца з машынных рысор, хаця можна і купіць меч або даспехі за мяжой, у Чэхіі, дзе рыцарскай справай сур'ёзна займаюцца ўжо гадоў трыццаць. Але меч там каштуе 100—300 долараў, што па кішэні далёка не кожнаму беларусу. Так што рыцар павінен пералапаціць гару спецыяльнай літаратуры па сярэднявяковай зброі і спосабах яе стварэння. Вядома, не заўсёды можна ўзнавіць у нашых умовах старажытныя тэхналогіі, таму часам даводзіцца карыстацца сучаснай газазваркай. Гэта лягчэй, чым выкаваць той жа шалом з кавалка жалеза, але такі падыход да справы не ўхваляецца. Дамы таксама шыюць сукенкі самі, з дапамогай кніг па гісторыі касцюма ды ўласных густу і выдумкі. Маладзейшых вабіць гатычнае плацце з доўгай спадніцай, дамы больш сталыя выбіраюць практычнае адзенне гараджанак таго часу. А некаторыя дзяўчаты знаходзяць сваю непаўторнасць дзякуючы мужчынскім касцюмам, і выглядаюць, мабыць, яшчэ больш прывабна, чым сяброўкі.





Пад шатландскую музыку (не ведаю чаму, але беларусаў больш за ўсё цікавіць менавіта гэтая далёкая паўночная краіна) на невялікай пляцоўцы перад замкам, агароджанай толькі сцяной гледачоў, сышліся першыя байцы. Вось яна, гісторыя, зусім побач! Але часам гэтая блізкасць рабілася нават небяспечнай, бо рыцары ў баявым запале часта ўразаліся ў глядацкі натоўп, размахваючы ой якімі сапраўднымі зблізку мячамі. Баі на турніры строга абмежаваны ў часе — гэта 2—3 хвіліны. Перамагае той, хто паказвае лепшае валоданне зброяй і наносіць саперніку больш удараў (за гэтым сочаць суддзі). Калі адразу дакладна вызначыць пераможцу нельга, праводзіцца дадатковы бой да трох удараў.

Канешне, нямала было ў гэты дзень і перамог, і паражэнняў. Адзін са спаборнікаў, па імені Раланд, прыйшоў на рысталішча звычайным "наёмнікам", а выйшаў сапраўдным рыцарам, атрымаўшы гэты тытул ад магістра ордэна. А вось самому магістру "дасталося" ад наймаладзейшага ўдзельніка турніру, для якога гэта ўвогуле быў першы ў жыцці бой. Змагаўся хлопец упарта і перамогу атрымаў па ўсіх правілах.

На ўсялякі выпадак непадалёк ад замка стаяла машына хуткай дапамогі; не спатрэбіцца — і дзякуй Богу! Ды, на жаль, без крыві не абышлося. Шатландскі рыцар Фланкер Макламбер атрымаў моцны ўдар па пераноссі. Па праўдзе кажучы, убачыўшы хлопца ў непрытомнасці, я толькі тады востра адчула, што любы бой між людзьмі, нават у такой тэатралізаванай форме, у аснове сваёй мае мэту забіць, зрабіць іншаму балюча. У кожным баі ёсць пераможаны, і ад гэтай думкі знешні антураж турніру ўжо не захапляе так бяздумна. Месца Фланкера на рысталішчы адразу ж заняў яго брат Колін Макламбер. Здавалася, ён біўся і за сябе, і за брата. Не ведаю, што было больш важнай прычынай, майстэрскае валоданне зброяй або баявы запал, але з барацьбы Колін выбыў толькі ў самым фінале. Выбыў па-геройску, што называецца — "на шчыце": ад магутнага ўдару ўдвая больш масіўнага баярына Тура ён страціў прытомнасць. За мужнасць шатландзец атрымаў спецыяльны прыз — баявую сякеру. Што дасталася яна Коліну па праве, ні ў кога сумненняў не было, вельмі ўжо дружна скандзіравала публіка: "Наперад, Шатландыя!" Пераможцам турніра стаў, зноў-такі па праве, баярын Тур Гадзінавіч з маскоўскага клуба "Спадчына продкаў", а па просту — Паша Папоў. Яму і прапанавалі назваць гераіню турніру, чароўную даму. Хутка агледзеўшы стракаты дзявочы натоўп, незадаволены Тур грамавым голасам паклікаў яе, сваю адзіную і непаўторную Дзіну. Але паколькі тая не спяшалася з'яўляцца, яму ў рэшце рэшт прыйшлося на руках прынесці з лагера ўшчэнт збянтэжаную ад сораму дзяўчыну.

...Праз некалькі гадзін, трапіўшы назад, у "цывілізацыю", я ўвесь час бачыла перад сабой гэтую карціну: пад сценамі старажытнага замка, пад сцягамі, якія развінае вецер, стаяць яны, Рыцар і яго Дама сэрца, моўчкі ўзяўшыся за рукі. А вячэрняе сонца блішчыць на кальчугах, латах, шаломах, мячах... Маюць рацыю рыцары ордэна, кажучы: "Кожны, хто прыходзіць сюды, становіцца або нашым братам, або нашым сябрам. Няма людзей, якія, пабываўшы ў гэтым асяроддзі, змаглі проста пайсці адсюль". Я — не змагла. І налета абавязкова вярнуся сюды, у Мір, каб яшчэ раз пабачыць гэтых дзіўных людзей, якія самі ствараюць той свет, у якім ім хочацца жыць. Вярнуся, каб яшчэ раз адчуць у руцэ вагу мяча, прыгожага і грознага адначасова.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3560
Нумар падпісаны ў друк 24.9.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 5675/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12